ў скрыні трохі цукру было, старая хавала. Будзем жывіцца, чым бог паслаў...

Хоць эвакуіраваная Зося з трохгадовай Людачкай і прынесла ў гэтую хаціну яшчэ болей гора, усё ж яно стала не такім зацятым і маўклівым, як было раней. Калгас выдаваў жанчыне трохі пшаніцы і проса, Грышка прынёс аднекуль ручную тарку — несамавітую самадзелку вайны, і Ларывон увечары, прымасціўшыся на ўслоне, трушчыў-расціраў на жарсцвяную муку той небагаты паёк. Да сваёй кватаранткі і яе дачкі ён, як і да ўсіх, ставіўся стрымана і зважліва, не шмат гаварыў, болей слухаў, а слухаць было пра што. Зося перацярпела нямала, і яшчэ часта здаралася, ускаквала ўначы з пасцелі, крычала, клікала згубленага сына, плакала. Ларывон узнімаўся тады ў запеччы і роўным разважным голасам цярпліва супакойваў кабету.

Надышоў час, калі стары пачаў пазіраць на дарогу, пільнаваць пісьманоску Нюру — ён чакаў весткі ад сына. Праўда, надзей было небагата, Ларывон ведаў, што Пілiп — ягонай натуры, і не дужа распішацца. Хіба толькі здарыцца благое, якім багата вайна, таго бацька чакаў і баяўся.

Але ні вестак ад сына, ні добрых навін з фронта ўсё не было. Грышка ўвечары расказваў пра цяжкія баі пад Масквой, пад Тулай, пад Ленінградам, Растовам. Ларывон усё болей хмурнеў і горбіўся на зэдліку, Зося выцірала вочы, а Людачка, трымаючыся за матчын падол, з недзіцячай тугой пазірала на хлопца.

Аднаго разу Ларывон, устаўшы на золку, пачаў збірацца ў сланечнік. Яму, відаць, нездаровілася. Доўга абуваючыся, ён хваравіта пакрэктваў, браўся за бок, з недакручанай анучай на назе чагосьці задумваўся і сядзеў нерухома. Урэшце ён апрануўся, парыпаў па заснежаным двары, ладзячы санкі, і знік.

Зося гаспадарыла ў хаце, прыбірала, мыла посуд, чакала дзеда, але ён нешта забавіўся. Ужо прастыў і сняданак — пшонная каша, а старога ўсё не было. Тады жанчына занепакоілася, накінула на галаў свой шалік, замкнула Людачку і ўтаптанай сцяжынай пабегла за ваколіцу.

Быў сонечны марозны ранак. На ўвесь прасцяг ад сяла да краявіду ляжаў цудоўнай белізны прастор, ён ззяў мірыядамі іскрынак, пераліваўся мяккай сінявой ценяў ад хат, гурбаў, верб у ваколіцы. Высачэзныя дымы з комінаў грывастымі слупамі стаялі ў небе.

Стары ляжаў у лагчыне, каля наладаваных будыллем санак, і стагнаў. Зося спалохалася, думала, што здарылася бяда, але Ларывон папрасіў яе памагчы ўзняцца і доўга сядзеў на снезе. Яна выбавіла старога на роўнае, пасля вывалакла санкі. Аднак ісці ён

не мог. як—кольвечы яна давезла яго да хаты, распранула, паклала ў ложак. Ён маўчаў усё, толькі ціха крактаў.

Адчуўшы благое, жанчына замітусілася, забедавала, не ведаючы, як памагчы чалавеку, спытала, ці не паклікаць людзей, з'ездзіць па фельчара. Ларывон ляжаў, заплюшчыўшы вочы, і коратка рашуча адказаў:

— Не трэба!

Болей ён не сказаў нічога, нічога не прасіў, не стаў снедаць, укрыўся сваім кажушком і прыціх у запеччы.

Надвячоркам, яшчэ завідна, чаго ніколі раней не здаралася, у хату ўляцеў Грышка. Ён быў на дзіва ажыўлены, неяк узрушаны. Ларывон паглядзеў на яго і сцяміў: нешта сталася. Сын, не распранаючыся, выцягнуў з—за пазухі нейкія паперы, адзін аркуш падаў бацьку.

Ларывон на час забыўся пра хворасць, прыўзняўся ў ложку — гэта было пісьмо ад Піліпа. Пакуль ён узіраўся памутнелым зрокам у не дужа зграбныя радкі і з намаганнем разбіраў сэнс слоў, Грышка апавядаў Зосі, што пад Масквой — перамога, што мы наступаем, што мы б'ём немцаў. А якія трафеі, а колькі адваявана рускай зямлі — аж трыста кіламетраў углыб! Во калі яно пачалося! Слухаючы гэта і чытаючы адначасова, Ларывон пакрысе разумеў, што сын пісаў са шпіталю, што ён паранены ў баях за Маскву і цяпер ляжыць на лячэнні ў горадзе Горкім, што рана цяжкая, з пашкоджаннем косці, але не бяда — ачуняе. Затое добра далі фрыцам, настала і на нашай вуліцы свята.

Ларывон апусціў на кажушок сваю высахлую — скура ды косці — руку, адхінуўся на падушку і заплюшчыў змакрэлыя вочы. Хвілін колькі ён не чуў і не бачыў нікога, толькі адчуваў, як агортвала яго позна прычаканая радасць...

Грышка заўважыў незвычайны стан бацькі і раптам неяк прыціх. Шчаслівымі слязьмі плакала Зося, толькі адна Людачка пазірала строга і сумна.

Суняўшы хваляванне, Ларывон папрасіў Грышку знайсці яму чыстую кашулю, не ўстаючы з ложка, адзеў яе, зноў лёг і паклікаў да сябе сына.

— Паглядзі-тка там, у куфры, — такі зялёны карабок. Дай сюды.

Грышка адчыніў цяжкае, размаляванае нейкімі кветкамі века матчынага сундука, адразу дастаў з—пад вопраткі добра вядомы з дзяцінства карабок і падаў бацьку. Той непаслухмянымі пальцамі адчыніў яго, выняў адтуль тры крыжыкі на паласатых чорна-рудых стужках і па адным пачаў прычэпліваць на свае знямоглыя старэчыя грудзі. Сын, Зося і Людачка з маўклівай павагай стаялі побач.

Прыладзіўшы ўзнагароды, Ларывон адкінуўся на па-душку і паглядзеў на прысутных. У яго зацененых касматымі брывамі вачах была спакойная разважнасць усё зведаўшага ў жыцці чалавека.

Сын неадрыўна пазіраў на бацьку, і ўсё болей марнела яго вясёлая ўзрушанасць, нешта жадаснае адбівалася на яго абсівераным маладым твары. Ён трымаў у руках паперку, усё збіраўся нешта сказаць бацьку і вагаўся.

— Тата,— урэшце наважыўся ён,— тата, мне вось павестка з ваенкамата. Таксама ў армію, а вы...

Ларывон зірнуў на яго, нібы здзівіўся. У армію? Пасля задумаўся і ля^гаў доўга. Сын і Зося з дачкой усё стаялі побач і чамусьці, бы якога прысуду, чакалі, што скажа стары.

— Ну, што ж — ідзі... Усе мы хадзілі. Можа, ты шчаслівейшы... Зробіш, што нам не прыйшлося... Дажывеш — мір пабачыш... Эх, мір, мір! — гаротна выдыхнуў Ларывон і зноў замоўк, нерухомым поглядам уставіўшыся ў закураную нябеленую столь. Пасля ціха, але рашуча пацвердзіў:

— Ідзі, сын!

Ён склаў на грудзях рудыя, схуднелыя рукі, самі заплюшчыліся яго пагаслыя вочы, і стары заціх у забыцці — сухі, касмылявы, сівы, з трыма георгіеўскімі крыжамі на запалых грудзях.

Грышка боязна паглядзеў на бацьку, зірнуў на Зосю з малою, уздыхнуў і пачаў збірацца ў сваю вялікую, нязнаную дарогу.

1959

**Смерць чалавека**

Чалавек ляжаў у непрытомнасці.

Пякельны боль ран і неадчэпныя страшныя пачвары безупынку катавалі яго знясіленае цела. Асабліва дапякаў аглушальны, пранозлівы крык, поўны нечалавечай лютасці і жаху. Часам крык трохі слабеў, адступаў кудысьці, і тады наўкола ў дзікім карагодзе з'яўляліся нейкія вострыя, нібы шкляныя аскалёпкі, агромністыя косыя плоскасці. Чалавек, як апантаны, кідаўся прэч, шукаючы ратунку, а бязладныя аскалёпкі накідваліся на яго, рэзалі і калолі цела вострымі краямі. Зноў з усіх бакоў наступаў злавесны крык, і пакуты, дасягнуўшы мяжы магчымага, заглушалі і без таго слабыя праявы жыцця ў паўмёртвым арганізме.

Так прадаўжалася доўга. Чалавек то кідаўся ў непрытомнасці, ратуючыся ад пачвараў, то зусім замiраў пад цяжарам нясцерпнага болю.

І раптам усё скончылася. Адляцелі кудысь страшыдлы, спыніўся крык, і ў пакалечанае цела паволі вярнулася жыццё. Рэальны свет, так далёка адсунуты пакутамі, з'явіўся перад чалавекам ва ўсёй яго выразнасці, як пасля страшнага сну, які прыпыніўся ад раптоўнага прабуджэння. Розум вярнуў амаль звычайную яснасць, фізічны боль, хоць і не ўняўся зусім, страціў ужо былую пякельнасць, і толькі празмерная слабасць, непадуладная ні волі, ні фізічнаму намаганню, моцна трымала чалавека ў сваім палоне.

У тую ж хвіліну, калі чалавек адчуў сябе ў рэальным свеце, ён зразумеў, што гэта прыйшла смерць.

Чалавек ляжаў на спіне, амаль увесь хаваючыся ў рослай лясной траве. Расплюшчыўшы вочы, ён убачыў над сабою павіслыя ўгары галіны маладых алешын, з камлёў да верху густа прыбраных лісцем. Ніжнія лісты, буйныя і зялёныя, ахопленыя цішшу, ужо хіліліся долу. Між імі ад лопуху і папараці непрыкметна ўзнімаўся вячэрні паўзмрок. Угары на альховых вяршалінах развітальным бляскам ірдзелі косыя сонечныя промні. Дробныя далёкія лісточкі там краталіся на лёгкім ветрыку, які то сціхаў зусім, то ціха варушыў самыя тонкія галінкі.

Чалавек быў моцнага складу, шырокай касці, плячысты і прысадзісты. Акрываўленая вайсковая гімнасцёрка з чырвонымі пятліцамі, парваная ў некалькіх мясцінах, адкрывала шматкі белай сарочкі і валасатыя грудзі — таксама са слядамі падсохлай крыві. Буйныя выразныя рысы схуднелага твару сведчылі пра адкрытасць і мужнасць характару. Цяпер твар быў парафінава-белы. Белізна гэтая, ненатуральная пад густым чорным шчаціннем,

рабіла непазнавальным узрост чалавека. Нядаўні баец нагадваў цяпер вязня, які толькі што выйшаў з сутарэння. Спакучаныя вочы яго глыбока запалі пад касцісты лоб, і, як цень блізкай канчыны, навокал іх бралася смяротная празрыстая сінь.

Чалавек варухнуў распластанымі рукамі, спрабуючы ўзняць іх. Правая з цяжкасцю зрушылася з месца, а ў левай чалавек нечакана адчуў цяжар, непадуладны яго сіле. Спакваля ён намацаў пад пальцамі нешта круглае і металічна сцюдзёнае, немаведама зачым сціснутае ў руцэ. Другім намаганнем ён усё ж узняў руку і ўбачыў у ёй каструбаватую чорную «лімонку», зараджаную і годную да дзеяння.

Намаганні ад першых рухаў балючай грымасай адбіліся на твары і сутаргай прайшліся па целе. Чалавека апанавала такая слабасць, што кожная спроба крануць мускулам выклікала пакуты. Чалавек не ведаў, дзе былі яго раны, што заўчасна падарвалі сілу, не адчуваў нідзе асаблівага болю, толькі ў грудзях было неяк вельмі пуста.

Апусціўшы руку з гранатай, ён падумаў, што трэба канчаць, пакуль яшчэ не затуманіўся розум. Паміраць марудна, пры памяці, сярод цішыні летняга вечара было да агіды нязносна яго некалі энергічнай, дзейнай натуры.

Граната, што невядома як апынулася ў яго, прыйшлася дарэчы…

Дык вось, значыць, які канец твой, чалавеча…

Колькі думаў аб ім, разважаў, а такога, аднак, не прадбачыў. Усё здавалася, што смерць будзе геранчнай, на вачах у людзей і дорага абыдзецца ворагу. А выйшла так, што прыйдзецца самому спыніць уласныя пакуты, і ніколі ніхто не даведаецца, як памёр чалавек…

«Ну, што ж! Так будзе лепей… шкада толькі, што гэтак марна… »

А розум і думкі, перамагаючы смяротныя прадчуванні, у гэтыя апошнія хвіліны ўпарта чапляліся за жывое: за лёс барацьбы, з якой ужо назаўсёды выбыў баец. Ён не мог толькі меркаваць, як даўно абарвалася змаганне, бо непрытомнасць выкрасліла з памяці нейкі адрэзак часу.

«Дзе ж рота? — думаў чалавек. — Дзе сябры? Няўжо зноў адышлі, не стрымалі?..»

Іх было нямнога, надта нямнога для таго, каб лічыцца ротай. Фашысцкія танкі шчыльна прыціснулі іх да пераправы, і тут, у алешніку і ўзбярэжным лазняку, яны счапіліся ў смяртэльнай схватцы.

У памяці ўзнавілася тое апошняе імгненне, за якім ужо пачаўся змрок і непрытомнасць.

...Граната ўдарыла ў танк гэтак моцна, што, здавалася, не ўзарваўшыся магла праламаць браню. Гэта была апошняя супрацьтанкавая граната, і баец уклаў у яе ўсю ярасць і ўсе сілы, якіх тады нямала было ў яго. Ён не кінуўся прэч, не ўпаў на зямлю, толькі сцяў зубы да болю ў сківіцах і сам сціснуўся, гатовы і з голымі кулакамі кінуцца на ворага.

Выбух быў моцны і, здаецца, зрабіў сваю справу. Баец паспеў толькі адчуць гэта, а потым здарылася нешта, што ўжо вырвала яго з жыцця.

Сцішаны ветрык зноў лёгкім шолахам прабег па вяршынях, перабраў лісточкі і на момант развеяў іх санлівы спакой. У гэты час чуйны ў цішыні слых чалавека злавіў у лясным шэпце глухі, быццам з зямлі вынікшы гул. Спачатку незразумела было, з якога боку пачаўся ён, але потым, па меры таго, як ён мацнеў і шырыўся, можна было вызначыць напрамак яго з'яўлення. Гул нарастаў, усё больш запаўняў сабою прастор і паступова ператвараўся ў грукат.

Вочы чалавека акругліліся. У іх з'явіўся слабы бляск, які адбіваў насцярожаную ўвагу і намаганне зразумець сэнс новай з'явы. На твары першы раз адлюстравалася напружанне думкі, яно ажывіла змучаныя пакутамі рысы, і ў глыбіні вачэй нарадзілася нейкае жаданне.

Чалавек з хвіліну ўслухоўваўся. Ён не мог успомніць як далёка, але ведаў, што дзесьці побач павінна быць дарога, якую абараняла іх рота. Відаць, цяпер там нікога не было, і фашысцкія танкі калонамі паўзлі на ўсход — усё далей па захопленай здратаванай зямлі. Мімаволі ўваччу паўсталі бачаныя нядаўна фанабэрлівыя твары захопнікаў, і нянавісць зноў хлынула ў аслабелае сэрца.

Няўхільны прыступ смерці, здаецца, затрымаў сваё развіццё, саступіўшы месца мацнейшым за яго праявам жывога.

Непрыкметна абарвалася недзе і зусім знікла думка аб уласным няшчасці, І ўмомант нарадзіўся новы намер. Зразумеўшы, што азначае грукат, чалавек забыўся нават пра сваё бяссілле і памкнуўся ўзняцца. Калі ж гэта яму не ўдалося, ён, учапіўшыся за куст папараці, перакаціўся на бок.

Неадольнае жаданне дзейнічаць усё болей авалодвала ім. У цяперашнім яго стане ён ужо не адчуваў звычайнага чалавечага страху. Ён толькі прагнуў сыйсціся з ворагам, каб адпомсціць яму за тысячы бед, за людскія пакуты і за сваю заўчасную смерць.

Прага да змагання ўзгарэлася ў ім так моцна, што чалавек, здаецца, адчуў, як у целе прыбавілася сілы, якой не было хвіліну назад.

Чалавек запхнуў у кішэню гранату і марудна, пераадольваючы ўсеабдымную слабасць, працягнуў уперад руку, каб ухапіцца за нятоўсты альховы камель. У пальцах не ставала моцы абхапіць яго, і скручаная пяцярня слаба зачапілася за гладкую кару дрэва. Потым таксама павольна і няўпэўнена працягнуў ён да алешыны другую руку — яна была такая ж слабая і дрыжала. Сутаргава торгаючыся, чалавек падцягнуў сваё важкае цела, затым, узняўшыся з травы, перанёс рукі вышэй па ствале, каб устаць на ногі. Крохкае дрэўца размашыста гайдала верхавінай, але трымалася і, як магло, дапамагала чалавеку.

Грукат тым часам усё мацнеў. Ён ужо не толькі непадзельна панаваў у паветры, заглушыўшы ўсе іншыя гукі, але, здавалася, пранік у глыб зямлі, і тая дробна несціхана дрыжала. У чалавека ад слабасці таксама дрыжалі калені, а яму здавалася, нібы гэта нагам перадаецца ліхаманка зямлі.

У першы момант чалавек ледзь зноў не страціў прытомнасць. Галава неяк згубіла раўнавагу, зрабілася важкай і ўвесь час хілілася ўніз. Абапёршыся на алешыну, чалавек хістаўся разам з дрэўцам, а ў вачах яго гайдаліся лес, неба і хвалямі разыходзіліся чорна-барвовыя кругі. Не маючы надзейнай апоры ўгары, ён не мог трывала стаяць на зямлі — яна здавалася няцвёрдай, угіналася пад нагамі і ўладарна цягнула яго да сябе.

Пачакаўшы і крыху прызвычаіўшыся да новага стану, чалавек, усё яшчэ не выпускаючы з рук выратавальнай алешынкі, зрабіў крок наперад. Тады дрэвы і светлыя плямы неба, што віднеліся скрозь лісце, нечакана хіснуліся ўбок, разам з імі гайданулася зямля, і чалавек, раней чым паспеў зразумець, што адбылося, зноў адчуў гаркаваты цвілы пах долу.

Першая няўдача не пахіснула намеру чалавека. У яго яшчэ ставала сілы, а больш чым сілы было жадання дабрацца да дарогі. Чалавек і ў жыцці быў упарты, і цяпер, у апошнія хвіліны, упартасць гэтая ўдзесяцярыла яго фізічную здольнасць.

Звычным рухам чалавек падцягнуў пад сябе нагу, праз густую траву прасунуў наперад руку і падаўся сам. Потым — другую нагу і другую руку. Праз гімнасцёрку на баку выступіла шырокая мокрая пляма — гэта недзе адкрылася рана.

Чалавек папоўз. Цяжка дыхаючы, губляючы долу згусткі крыві, ён упарта разгортваў траву і прасоўваў наперад сваё цела. На травяністым шляху яго спалохана ўзляталі матылі, разбягаліся прэч устрывожаныя жукі і кузуркі. Ззаду за чалавекам цягнуўся няроўны шырокі след.

Дзесьці, ужо зусім побач, скрыгочучы гусеніцамі і люта равучы маторамі, грукацелі танкі. Зямля, не стрымліваючыся,

абурана дрыжала, нібы не ў стане была сцярпець на сабе сталёвыя страшыдлы чужынцаў.

Яны былі блізка, і чалавек спяшаўся, каб паспець у час. Пасля доўгіх хвілін руху ён выпаўз на край невялічкай прагаліны, і нечакана яго абыякавы ўжо да смерці розум быў збянтэжаны страшным відовішчам.

У густой сакавітай траве на краі прагаліны працягнутая рука чалавека раптам напаткала перашкоду, і ён, далёкі ад страху, знячэўку ўздрыгнуў. Перад ім, неяк незвычайна закінуўшы галаву і задраўшы ўгору моцныя пашчэнкі, ляжаў забіты. Раскіданыя вакол галавы светлыя валасы пераблыталіся з травою, расплюшчаныя вочы застылым невідушчым позіркам угледаліся ў вячэрняе неба.

У чалавека тупым болем зашчымела ўнутры, калі ён пазнаў у забітым таго, хто дагэтуль камандаваў імі, вёў праз баі, між смерцяў, падтрымліваючы ў людзях веру ў перамогу. Узняўшы з травы галаву, чалавек убачыў і астатняе, што без слоў растлумачыла зыход страшных падзей на гэтай ціхай лясной прагаліне.

Праз дзесятак крокаў адсюль, расцягнуўшы за сабой гусеніцы, нібы кішкі, скасабочыўся нямецкі танк. Звернуты на бок і апушчаны ў бяссіллі ствол яго гарматы бездапаможна глядзеў у гушчар, правае вядучае кола ўпіралася ў корпус другой машыны, ад якой засталася бязладная куча абгарэлага жалеза. Воддаль, у паламаным алешніку, нібы гіганцкі палонік, ляжала вежа з гарматай, адкінутая выбухам. Прагаліна ва ўсіх напрамках была ўзарана гусеніцамі, травяністы дзірван разрыты на шматлікіх паваротах. А вакол танкаў на ўтаптанай траве ў ненатуральных позах ляжалі людзі — нашы савецкія байцы. Іх было шмат, і ўсе яны былі мёртвыя. Пэўна, не засталося ў іх ніводнага жывога таварыша, каб у роднай зямлі пахаваць іх целы. І яны ляжалі цяпер, як нямыя сведкі лютай сутычкі, у якой яны прыдбалі сабе салдацкую смерць.

Чалавек спыніўся, не адважваючыся прадаўжаць шлях праз гэтую страшную пляцоўку смерці. Боль усё мацней пранікаў у яго пачуцці: сярод забітых байцоў ён з жахам пазнаваў сваіх таварышаў па службе.

Цяпер ён упэўніўся, што ніхто не адступіў адсюль, і ўсе памерлі, да канца выканаўшы свой салдацкі абавязак. Толькі ён цудам ліпіць пакуль што, і ўвасобленая ў ім адным яшчэ прадаўжае жыць іх стралковая рота. З гэтай прычыны такой дарагою здалася чалавеку рэшта яго жыцця, што ён спалохаўся нават, адчуўшы, як моцна ўхапілася смерць за яго аслабелае цела. Не, не можа ён, не мае права загінуць раней, чым зробіць тое, да чаго кліча недавершаная помста мёртвых байцоў!

У свядомасці неяк сама па сабе ўмацавалася ўпэўненасць ва ўдалы зыход яго намагання. Здавалася, святая справядлівасць апошняга абавязку з тае хвіліны ўзяла яго пад сваю ахову.

Сонца, схаваўшыся за гушчар, кранулася недзе нябачанай хмурынкі і ў апошні раз раскінула над лесам стромкія шырокія промні. Прагаліну ўжо заслаў дымчаты цень — зачынак ночы, а ў небе над лесам яшчэ было светла і ўтульна. У бязветранай цішы віселі над прасторамі рэдкія хмурынкі, падсветленыя знізу самотным вячэрнім святлом нізкага сонца.

Знемагаючы, чалавек адолеў прагаліну і спыніўся. Далей пачынаўся рэдкі беразняк, а за ім ужо пралягала дарога. Толькі паўсотні крокаў аддзяляла чалавека ад яго мэты, ад яго апошняга рубяжа. Ужо можна было адрозніць па грукаце і лязгу на дарозе, як праходзілі паасобныя машыны. Рух там не спыняўся, але дыстанцыя між танкамі прыкметна павялічылася: відаць, калона канчалася.

Чалавек ведаў, што трэба паўзці, а сіл ужо амаль не было. Некалькі доўгіх хвілін ён ляжаў ніцма, не варушачыся. Нялёгкі шлях і страшнае відовішча мёртвай прагаліны зусім знясілілі яго. На момант крануўшыся свядомасці, недзе ў адчуванні мільганула непрытомнасць, памутнела ўвачччу.

Чалавек спалохаўся, што зноў пазбавіцца пачуцця, і на могся зрабіць яшчэ некалькі рухаў.

Ішлі хвіліны. Заміраючы ад бяссілля, чалавек пасоўваўся крыху наперад, а потым зноў доўга ляжаў без руху. Пачуўшы, як слабее супраціўленне, смерць зноў насела на яго, і чалавеку не было чым абараняцца. Раз—пораз урываліся ў голаў пякельныя здані, і адчуванне рэчаіснасці чаргавалася з кашмарамі. Усё больш працяглымі рабіліся правалы ў аслабеўшай памяці, чалавек забываўся аб сабе, толькі недасягнутая мэта ўпарта трымалася ў свядомасці. І, пэўна, толькі яна яшчэ давала сілы супраціўляцца смерці.

У лесе цямнела. Дол ужо затуліла змрокам, у ім схаваўся чалавек і яго шлях, поўны пакут і болю.

Цяпер чалавек больш ляжаў, нерухома распластаўшыся на зямлі. Толькі зрэдку, нібы прачнуўшыся, нязграбна ўпіраўся нагамі і пасоўваўся на крок уперад.

Розум чалавека знесіляўся ў барацьбе з нябачным ворагам, які ўсё больш адольваў яго. Нібы ўрыўкі чужых размоў, у галаве скакалі думкі-фразы, звернутыя да ўсяго, што дапякала чалавеку. Тут былі і праклёны ворагу, і сварка з назаляўшай слабасцю, і падбадзёрванне сябе. І ўсё гэта працякала адвольна, без удзелу волі чалавека, так, нібы розум меў яшчэ сілу і сам па сабе рабіў сваю справу.

Невядома, колькі прайшло часу, але ў адно з кароткіх прасвятленняў чалавек адзначыў, што стала зусім цёмна. Спачатку яму здалося, што ён аслепнуў, але, прыўзняўшы твар, убачыў зоркі над недалёкімі цёмнымі вяршалінамі. Чалавек зразумеў тады, што дасягнуў свае мэты, толькі запозна. На прыдарожную траву ўжо асеў пыл, узняты танкамі, далёка на ўсход аднеслі захопнікі новыя няшчасці. На шырокай дарожнай паласе між лесу было пуста і мірна, нібы нічога і не адбылося тут: ні вайны, ні заўчасных чалавечых смерцяў.

Вострае адчуванне няўдачы бяссільнай крыўдай прарвалася ў свядомасці. Ён заплакаў, бадай, першы раз за шмат пражытых год. Заплакаў так, як плачуць моцна пакрыўджаныя дзеці ці выжытыя з сіл старыя: ён ужо не мог заглушыць роспачы, што хлынула ўслед за крыўдай.

Не сябе было шкада яму, а крушэння той апошняй надзеі, якая мацней за слабыя сілы цела ўтрымлівала яго ў жыцці.

Усёй істотай чалавек адчуваў, што хутка ўжо наступіць хвіліна, калі канчаткова пагасне яго жыццё.

Мінула яшчэ трохі часу. Чалавек, зусім ужо пазбаўлены сіл, пераадолеў дзесятак метраў і споўз з травяністага адхону. Пульхны дарожны дол, перацёрты гусеніцамі, быў яшчэ цёплы, як попел свежага вогнішча. У ім патанулі абмяклыя рукі чалавека.

Незвычайнае напружанне, якое ўвесь час узбуджала сілы, адразу ўпала. Чалавек слабеў і ўжо не імкнуўся нічым супрацьстаяць гэтай слабасці. Розум зноў пачаў напаўняцца туманам, сталі з'яўляцца пачварныя, страшныя істоты, зноў дапякалі кашмары.

І раптам, нібы ад знешняга штуршка, чалавек схамянуўся і ачнуўся. Нейкае трывожнае прадчуванне назаляла яму, і чалавек не адразу ўцяміў, што яно азначае. А потым, не ведаючы яшчэ, тое гэта было ці не, ён намацаў рукою кішэню і выняў гранату. Прывычным рухам пальцы адагнулі чаку, а зубы, у якіх больш захавалася моцы, выцягнулі яе з запала. Зноў адчуўшы набліжэнне млосці, чалавек, не адпускаючы планкі, сунуў гранату ў пясок пад свае грудзі.

Пэўна, гэта было тое, дзеля чаго абудзілася свядомасць, бо за ім наступіў супакой.

Хутка прыйшло забыццё, і смерць, канчаткова перамогшы, назаўсёды спыніла жыццё.

Было далёка за поўнач. Ужо прастыў дарожны пясок і закалянела цела нябожчыка. Бліскучы аднабокі месяц, як заўсёды, праплыў сваім шляхам па зорным небе і схаваўся за вяршаліны дрэў.

з—за павароткі, асвяціўшы бліжнія дрэвы і дарогу, з моцным бязладным трэскатам выкаціў атрад матацыклістаў. Пук яркага святла з фары пярэдняга, праразаючы цемру, роўна слізгаў па дарозе. Нечакана, угледзеўшы перашкоду, матацыкліст крутнуў убок і спыніўся. За ім прыпынілася калона.

— Агледзець! — скамандаваў ён.

Двое падначаленых ускочылі з матацыклаў і кінуліся выконваць загад. Яркае святло з фар кінула па адхоне іх галінастыя, хісткія цені.

— Рус, — сказаў немец, які раней за іншых падбег да цела. Моцным штуршком нагі ён перавярнуў труп на спіну.

— Рус зальдат, — дадаў гітлеравец.

Пярэдні схапіўся за рычаг, каб уключыць газ, але не паспеў. Ярка-чырвоная бліскавіца рванулася з—пад нябожчыка, аглушыла, люта пырснуўшы ў бакі мноствам гарачых смертаносных асколкаў...

Так памёр Чалавек.

1951

**Калі хочацца жыць...**

Мы спаўзлі на мулкія груды голага ўзбярэжнага абрыву і, заціяўшы дыханне, сціснуўшы ў сабе знямоглыя сэрцы, узіраліся на ўскраек кручы, дзе ў бясхмарным ранішнім небе гойдаліся зблытаныя сцябліны палыну і дзе вось—вось павінны былі з'явіцца яны. Зрэшты, узіраўся туды адзін я. Мой зямляк і неразлучны сябра Алёшка курчыўся ад болю, біўся патыліцай аб цвёрдыя, як камень, гліністыя брылы абрыву і чужым слабым голасам, ад якога ў мяне млела сэрца, прасіў даканаць яго. У пяці кроках ад нашых даўно не пераабуваных, спавітых абмоткамі ног лена пляскаў хвалямі Дон — наша нядаўняя надзея і наш цяперашні смяротны рубеж.

— Не марудзь... Чуеш? І ўцякай... Ты, можа, як-небудзь...

Замурзанымі аб зямлю пальцамі ён шкрабаў па глінішчы

абрыву і, не зносячы пякельнага болю, роспачна матляў галавой. Я не мог ні дапамагчы яму, ні абнадзеіць; разрыўная куля з нямецкага бронетранспарцёра перабіла хлопцу нагу, і яму ўжо, відаць, не суджана было жыць. Кіламетры з два я цягнуў яго на сабе сюды, да Дона, за якім быў наш паратунак, але з хутара за намі пагналіся немцы, а я ўжо выбіўся з сілы.

— Не марудзь... Дабівай і плыві... Перадай калі нашым... Запомні — Алешкавічы... Малыя Алешкавічы, ля возера.

Нібы ўспомніўшы штосьці, ён шырока расплюшчыў свае васільковыя вочы, ўгледзеўся ў высачэзную бездань летняга неба, у якім ужо шырока і вольна панавалі промні яшчэ нябачнага за краявідам сонца, і на хлапечых ніколі не голеных шчоках азначылі свой след дзве скупыя слязіны.

Я толькі скрыгаў зубамі ад яго страшных слоў і ад усёй вялікай бяды, што ў тыя жахлівыя дні апанавала нас. Пад Старабельскам наш полк спачатку адрэзалі ад сваіх, пасля акружылі, разбілі, і нямецкія танкі паразганялі па стэпе тых, хто яшчэ застаўся жывы. Два тыдні, абдзёртыя і галодныя, мы невялічкімі групамі прабіраліся на ўсход, кожны раз натыкаючыся на ворага і губляючы апошніх байцоў.

Не маючы ніякага выйсця, я гатоў быў дабіць і сябе, толькі дабіваць не было чым: учора ўначы мы наскочылі ў лагчыне на калону ворага і, адбіваючыся, у гарачцы разрадзілі аўтаматы, не пакінуўшы ніводнага патрона сабе. Цяпер, апроч трафейнай фінкі на Алёшкавай папружцы, у нас не было ніякае зброі.

Трэба было нешта рабіць, каб як ратавацца, але ў мяне ад усяго перажытага, ад стомы і бяссонніцы толькі немачна гудзела ў галаве. Я прыклаў вуха да выдзьмутай ветрам зямлі і выразна пачуў тупат ворагаў, якія даганялі нас. Я нічога не сказаў сябру,

толькі зірнуў на яго, да болю ў скронях напружваючыся ў пошуках выйсця, і ён, відаць, зразумеў, што жыць засталося некалькі кароткіх хвілін.

— Валодзя! — роспачна вымавіў ён.— Што ж ты робіш?

Ён ужо не матляў галавой, ён упіўся ў мяне сваім патрабавальным, пакутным позіркам, у якім адбівалася ўсеабдымная перадсмяротная туга. Я ўсё маўчаў, а ён аслабелымі рукамі нязграбна выцягнуў з похвы паіржавелую ад начной расы фінку і падаў мне.

І тады, мабыць, упершыню, я ўразумеў тое, што ўжо выразна паўстала перад маім небаракам Алёшкам. У памяці мільганулі мінулыя страшныя выпадкі — з нашым клапатлівым ротным старшыной Дорахавым, пасля — з веселуном і запявалам Траянам. Уласаўцы захапілі іх у палон параненымі, здзекаваліся, пазнявечвалі штыхамі твары, павыразалі на спінах крывавыя паскі, а пасля дабілі. Паратунку ў нас не было, аднак ці мог я аддаць дарагога Алёшку — ціхманага, яснавокага равесніка і майго земляка на здзек і такія пакуты?

Ад невыноснага гора і напружання мне здалося, што я вось—вось звар'яцею і загублю яго і сябе. Тады ўжо ніхто з нас не пабачыць ніколі наш далёкі азёрны куток, ніхто не суніме няўцешныя слёзы нашых гаротных матак...

Алёшка ўсё курчыўся, грымасы неадольнага болю крывілі яго зрудзелы ад загару і пакутаў твар, пакрыты дробнай расой схаладзелага поту. Ад яго знявечанай, наспех перавязанай маёй папругаю нагі сцякаў, убіраючыся ў сухую зямлю, струмень згусцелай крыві. Сонца ўжо ўзнялося над зарэчнай далеччу. Нізкае і прамяністае, яно расплastала над Донам свае гонкія промні, асвяціла ва ўпор гэты голы абрывісты бераг і бліскучастым мігатлівым агнём запаліла шырокі прасцяг данское вады.

І тады на гэтым абрыве збоч нас паказаліся ворагі. Іх было чалавек восем, з нарыхтаванай зброяй. Паўглядаўшыся ў раку, адкуль іх сляпіла сонца, яны па—над кручай накіраваліся ў наш бок і неўзабаве схаваліся ва ўзбярэжнай рытвіне.

Заставаліся апошнія імгненні жыцця.

На маім твары, пэўна, адбіўся жах і збянтэжанасць, я ненавідзеў сябе за тую разгубленасць, але перайначыцца не мог. Я кінуўся да Алёшкі, прыціснуўся вуснамі да яго запалых, абветраных шчок і заплакаў горка і балюча — разам з ім. Ен, вядома, зразумеў, што рабілася ў маёй душы і, перамогшы сваю смяртэльную роспач, слаба ўсміхнуўся, каб суцешыць мяне.

— Ну, нічога... нічога... Я сам...

Дрыжачымі, бяссільнымі рукамі ён падняў з зямлі фінку і наставіў яе канец пад левую кішэньку свае аблезлай старой

гімнасцёркі, У той час з абрыву даляцелі галасы — матляючы рамянямі аўтаматаў, сюды беглі трое цыбатых немцаў — яны, відаць, заўважылі нас.

— Бывай, братка! — цішэй і гаротней за ўсе разы прамовіў Алёшка, зразумеўшы, што прыйдзецца гінуць абодвум, і прастагнаў ад нейкага іншага болю, куды мацнейшага за боль свае смяротнае раны: — А як хочацца жыць! Помсціць!!!

Гэтая яго нелюдская туга ўраз парушыла ва мне нешта непадуладнае чалавеку, нешта надарвалася ў маіх зняможаных ад гора грудзях, і я выхапіў з яго пальцаў тую паіржавелую фінку.

— Алёшка! — дзіка вырвалася з майго нутра, і я адчуў, што звар'яцею, калі не выратую яго. А ён паслухмяна варухнуў павекамі і недаўменна павёў па мне сваім развітальным позіркам, спакойным і ясным, як тое далёкае неба, што вісела над намі. І тады, адчуўшы, як напружылася ва мне нестрываная сіла, я схапіў сябра пад пахі і рынуўся ў раку...

Пасля было страшнае, але яно засланілася ад мяне нечалавечым напружаннем маіх апошніх сіл. Захлёбваючыся сцюдзёнай вадой, я шалёна лупіў нагамі, гарнуў вадзяныя глыбы і, як здзічэлы, іграўся ў зіхатлівую мітусню сонца. Гулкім надрэчным грымоццем ззаду грукаталі стрэлы, наўкола градам сыпаліся кулі, здавалася, ад іх кіпела і булькатала данская вада. Ад незвычайнага намагання мярцвелі мае рукі і ногі, а я, не азіраючыся і штораз глыбей правальваючыся ў рачную бездань, болей пад вадой, чым на паверхні, усё далей і далей валок на сабе прыціхлага сябра. Урэшце неяк прыбіўся к берагу, і там, у трыснягу на пясчанай водмелі, выцягнуўся паўжывым знямелым трупам.

...Ачнуўся, калі з паўдзённага неба свяціла высокае сонца. Было ціха, між шархоткіх сцяблін трысьнягу снавалі зялёныя стрэлкі, санліва плёскалі ля берага хвалі. Спалоханы цішынёй, я выскачыў з вады: у якіх пяці кроках ляжаў мой Алёшка — ляжаў нерухома, уткнуўшы твар у празрыстую мель узбярэжнай вады.

Здаецца, я зноў страціў прытомнасць...

Пасля, адубянелы ад холаду і мокры, я стаў на калені. Адарваўшы рукаў гімнасцёркі, прамыў сваё прастрэленае куляй плячо і, угледзеўшыся ў люстраную гладзь вады, знячэўку ахнуў. Мая васемнаццацігадовая нястрыжаная галава, нібы пацярушаная снегам, свяцілася разам з аблокамі дзікай недарэчнай сівізной...

1959

**Паядынак**

Шчыльнымі радамі ляжалі яны на голай затаптанай падлозе былой сярэдняй школы, гэтыя некалькі сотняў палонных — параненых, хворых, душэўна надломаных людзей.

Уставаць, размаўляць і хадзіць было забаронена, і яны курчыліся так доўгія дні і ночы, застылымі позіркамі ўтаропіўшыся ў падзёўбаную кулямі столь, у разбітыя шыбы вялікіх акон, у адзінае, што яшчэ нагадвала школу — пакрэмзаную класную дошку на тынкаванай сцяне. Дарагім напамінкам былога бялелі на ёй сляды, пэўна, яшчэ вясновых экзаменаў: рэшткі сказаў з падкрэсленымі словамі, напалову сцёртая алгебраічная задача, а дзе—нідзе на беражках рамы нават паблісжвалі напісаныя алоўкам выратаваўчыя вучнёўскія падказы. Гэта было жахліва — у такім пекле нялюдскіх пакут бачыць гэткія светлыя адзнакі іншага, далёкага ўжо, як мара, жыцця. Яны быццам дражнілі, гэтыя зацёртыя словы «Пока свободою горнм...» і гэтыя рэшткі спісанай крэйды, і нават анучка — шэрая, размачаленая, даўно ўжо высахлая і забытая на самым краёчку дошкі.

Тыя напамінкі мінулага тупым нажом кроілі спакучаную душу лейтэнанта, які, шчыльна прыціснуўшыся да сцяны, ляжаў крайні ў радзе, якраз пад дошкай. Ён быў зусім яшчэ малады, гэты палонны камандзір, і вабіў сваёй юначай узмужнеласцю — зблытанымі валасамі колеру пшанічных каласоў, схуднелым, але ўсё яшчэ круглявым, чыстым і нейкім прасветленым тварам — усім абліччам добрага, паслухмянага хлопца. У класе было зусім ціха, людзі прымоўклі, ляжалі, бы мёртвыя, толькі ў далёкім кутку нехта стагнаў у сне, нешта трызніў; роўна тупалі вартавыя ў калідоры ды ў рамах, не знаходзячы выйсця, білася, гудзела вялікая муха.

Але вось надвячоркам, калі негарачае восенскае сонца паклала на белай тынкоўцы шэсць доўгіх бліскучых палос, у калідоры загрукалі падкутыя боты, застукалі дзверы, і застаялую цішу будынка скалыхнула каманда:

— Строіцца ўсім!

Людзі на падлозе заварушыліся. З немачнай паспешнасцю і стогнамі тыя, што яшчэ былі жывыя і маглі ўстаць, пачалі ўзнімацца на ногі, — заварушыліся твары, спіны, скарэлыя бінты павязак — усе падаліся ў дзверы. Лейтэнант пад дошкай таксама варухнуўся, з яго вачэй ураз знікла зацятая самота, і ў глыбіні мільгануў цень трывожнае думкі. Ён узняўся разам з усімі і ў незашпіленай і непадпяразанай суконнай гімнасцёрцы з чорнымі пятліцамі на каўняры накіраваўся к выхаду. Яго левы рукаў з камандзірскім шаўронам матляўся пусты ўздоўж тулава, а пад

гімнасцёркай на вузкай почапцы, якая белым шрамам уядалася ў худую юнацкую шыю, вісела параненая рука.

З калідора тым часам ляцела звычайнае тут, як пакуты і смерць, прывычнае «шнэль, шнэль», і людзі, стрымана тоўпячыся на парозе, выбіраліся ў дзверы. Яны ўжо ведалі, навошта іх строяць, што будзе далей — гэтая жахлівая завядзёнка паўтаралася тут штодзень роўна ў сем вечара.

Выпхнуты ў калідор цесным натоўпам людскіх цел, лейтэнант як—кольвечы засцерагаў ад штурханіны параненую руку і ціснуўся між людзей да акна. Праз падвойнае спляценне рам яму відаць быў цесны панадворак, з трох бакоў сціснуты сценамі, а з чацвёртага адгароджаны суцэльным шэрагам парт, заследжаных ботамі, паламаных, з адарванымі вечкамі. З таго боку бар'ера ўжо збіраліся немцы — афіцэры тутэйшага гарнізона, якія акуратна штодзень сходзіліся на відовішча гэтай нялюдскай экзекуцыі. Сярод іх быў і малады, пэўна лейтэнантавых год, афіцэр, у такой, як і ўсе, чорнай эсэсаўскай форме, — белатвары, маўклівы і нават пануры. Бы Гамлет на сцэне, стаяў ён крышачку ўбаку ад усіх, скрыжаваўшы на грудзях белыя рукі, і, таксама, як учора, як і ўсе ранейшыя дні, нерухомым затоеным позіркам глядзеў у акно. Ён быццам кагосьці шукаў і неўзабаве, напаткаўшы лейтэнантаў твар, уставіўся ў яго, нібы ў самую душу,— глядзеў і глядзеў, і невядома, што займала яго — леная цікаўнасць ці змрочная злая зацятасць.

Аднак сёння ўглядацца адзін ў аднаго ім давялося нядоўга. Праз якую хвіліну ў калідоры прагучаў сярдзіты нямецкі вокліч, за ім — лаянка. Людскі натоўп здрыгануўся і таропка пачаў выстройвацца ў цесны няроўны рад. Лейтэнанта адпіхнулі да акна, пацяснілі, балюча прыціснулі руку, і ён апынуўся ў першай шарэнзе. У вузкім праходзе між людзьмі і сцяной з зацятай таемнасцю на ўкормленых тварах ішлі двое афіцэраў з салдатамі аховы. Яны выбіралі дужэйшых.

...Праз чвэрць гадзіны чацвярых з гэтай нялічанай грамады пакутнікаў вывелі са школы.

Па знаёмай, пратаптанай другімі сцяжыне яны — лейтэнант, баец у споднім кашулі з пустым, выбітым вокам, пажылы вусаты капітан-сапёр і жылісты чарнагаловы ўзбек

— увайшлі за бар'ер і спыніліся. Лейтэнант прагна ўдыхнуў вячэрняй свежасці, агледзеўся — трэба было неяк рыхтавацца да стычкі, і нічога цяпер так не жадаў ён, як мець здаровыя рукі. Побач, прыхінуўшыся адзін да аднаго цёплымі целамі, стаялі тыя, з кім яму суджана было хутка загінуць, і гэтая непазбежнасць канца без слоў і поглядаў таемнаю сілай з'ядноўвала іх.

А на двары — над немцамі, людскімі пакутамі і блізкаю смерцю — ціха лунаў надвячорак цудоўнай восеньскай пары

— бабінага лета.. Недзе за шыферным дахам школы садзілася яшчэ і ўвечары цёплае прыветнае сонца, двор атуліла доўгая палоса ценю, а ўгары цагляныя каміны, верхавіны клёнаў і ліп з жоўтым парадзелым лісцем ззялі журботай пагоднага захаду. Нейкі час было ціха. Немцы, стоячы купкамі, прымоўклі і з цікаўнай цярплівасцю прыглядаліся да ахвяр, мераючы іх вачыма і вызначаючы іх фізічныя здольнасці. Яны скіравалі на гэтых чацвярых усю ўвагу, а тыя з перадсмяротнай прагнасцю пазіралі, як над галовамі ворагаў ззяў, свяціўся бляскамі восені стары разложысты клён. Ужо набліжаўся канец яго прыгажосці, і з галля адвечным сваім парадкам з ціхім, развітальным шэптам-жальбаю сыпаліся долу кляновыя лісткі. Усё менела і менела іх на галінах, а яны ўсё падалі і падалі, бы залатыя вялізныя кроплі, важкія і нетаропкія ў цішы вечара, на прыветны дол ля камля, на сцяжыну, у мураву. Тыя, што з верхавіны доўга прабіраліся праз галлё і, бы матылі, адляталі далёка — пад сцены будынка, на парты, к гнуткім блішчастым ножкам прынесенага аднекуль стала.

За сталом, адхінуўшыся на спінку крэсла, бы цвік, роўна тырчаў даўгашыі сухі оберштурмфюрар — не стары, кастлявы чалавек з падцятымі тонкімі вуснамі і схаванымі пад бровы вачыма. Бліскаючы сіняй іскрынкай пярсцёнка, выстукваў ён на стале нейкі матыў, старанна выпінаючы свае напрасаваныя грудзі з круглым нацысцкім значком і тоўстым «жалезным» крыжам. За яго спіной стаялі астатнія афіцэры і збоку ад усіх — той малады. Ён па—ранейшаму насцярожана і пільна глядзеў на ахвяры і найбольш — на лейтэнанта.

Яны былі зусім непадобны адзін на аднаго з першага погляду, — гэтыя два варожыя афіцэры — той вымыты, свежы, у наглянцаваных хромавых ботах, зухаватай высокай фуражцы з галуном і кантамі, і гэты — знявечаны, босы, расхрыстаны і змучаны. Але адчувалася нешта схожае і ў росце і нават у іх абліччы — тыя ж бялявыя схуднелыя твары, разважныя ўдумныя позіркі, мяккая пакатасць чыстых юнацкіх ілбоў. Малады немец не адводзіў позірку ад лейтэнанта-смяротніка, і невядома, што змушала яго так упарта ўглядацца. Можа, то была выхаваная з маленства пагарда к слабейшаму, можа, жаданне неабстрэленага тылавіка пазнаць дух праціўніка, можа, схаванае таемнае спачуванне?..

Лейтэнант між тым не вельмі думаў аб прычынах тае цікаўнасці: ён бачыў перад сабой ворага, чакаў пагібелі і думаў, што трэба будзе памерці па-людску. Але ў яго не было ніякае зброі, не шмат засталося сілы. І ён уклаў у свой погляд усю сваю нескароную волю і глядзеў так хвіліну-другую, не жадаючы ўступіць гэтаму немцу.

Ворагі тым часам чакалі сабак, чацвёра палонных, самкнуўшыся плячмі, чакалі пагібелі, сотні людзей за пабітымі вокнамі душылі ў сэрцах бяссільную роспач і ледзь стрымлівалі сябе.

І вось з—за рога будынка, туга напяўшы раменныя павадкі і прыцяўшы к ілбам вострыя вушы, выскачылі два шэрыя ваўкадавы — вялізныя, шыракагрудыя, з клоччам зляжалай поўсці на брухах. Яны ўжо ведалі свае абавязкі, гэтыя дрэсіраваныя людаеды, перад тым іх добра памарылі голадам, і яны рваліся цяпер, дыхавічна саплі, пырскаючы з ляп слінаю, драпежна аскальваючы жоўтыя іклы. За імі бег іх павадыр, нейкі эсэсаўскі ўнтэр — чалавек з агідным насатым тварам, пакрэсленым сінімі рубцамі старых шрамаў, у рудой скураной куртцы і абшытых скураю брыджах. Упіраючыся ў дол абцасамі, ён ледзьве стрымліваў на павадах раз'юшаных сабак.

Крайнія ад рога немцы са стрыманай бояззю адступілі назад, загаманілі, заблісkалі вачыма. Оберштурмфюрар задаволена ашчэрыўся і з нечаканай лагоднасцю на сухім твары паляпаў сябе па сцёгнах.

— Рэкс! Рэкс!.. Гут, Рэкс!

— О Рэкс,— падхапілі афіцэры, нясмела падыходзячы бліжэй, каб палашчыць сабак, якія, тузаючы доўгія павады, рваліся за загародку. Оберштурмфюрар яшчэ паляпаў па сцёгнах, адхінуў крысо мундзіра, нешта дастаў з кішэні і невысока падкінуў. Вялізная ваўкарэзіна з чарнабурай вузкай хрыбецінай лёгка скочыла ўгору, схапіла ў паветры гасцінец і, прыгнуўшы голаў да кіпцюрыстых шырокіх лапаў, прагна зжэрла яго.

Услед за першымі выскачылі з—за рога яшчэ дзве, праўда, не такія вялізныя, як першая, але гэткія ж сквапныя да чалавечай крыві, надрэсіраваныя дужыя аўчаркі. Афіцэры загаманілі, іхняя ўвага пераключылася на сабак, і відаць было, што яны ведалі і любілі гэтых жывёлін. Такое жахлівае відовішча было ў іх накшталт таталізатара і, пэўна, весяліла тылавое жыццё ў гэтым сумным, панішчаным вайной прыфрантавым гарадку.

Лейтэнант ведаў, што чаго лепшага, як толькі памерці з найбольшай годнасцю, ужо не выпадзе ў яго кароткім жыцці. Апошні раз паглядзеў ён на лагоднае прыволле вячэрняга неба, на якім у недасяжнай высі, бы срэбнае крыло дзівоснае птушкі, ціха ляжаў касячок празрыстых дробных аблокаў, услухаўся ў пакорлівы самотна-ўрачысты шэпт лістапада і адступіў бліжэй да сцяны.

Прадчуваючы хуткую асалоду відовішча, немцы падступіліся да бар'ера, оберштурмфюрар запалым жыватом узваліўся на ўскраек стала, толькі той малады афіцэр стаяў усё на ранейшым

месцы і скамянелым позіркам з—пад шырокага казырка фуражкі ўглядаўся ў палонных.

І тады каты спусцілі сабак.

Чацвёра няшчасных шчыльней прыціснуліся да сцяны і адзін да аднаго, і хоць яны ўжо не мелі ніякіх шанцаў у барацьбе, але ўсё ж не хацелі здавацца адразу. Лейтэнант шырэй расставіў босыя ногі, нарыхтаваў для абароны здаровую руку і сачыў. Натрэніраваныя сабакі спрактыкавана выбралі кожны сабе ахвяру і, ударыўшы вобзем пругкімі хвастамі, усе разам рынулі на людзей.

Ён скочыў можа на якой паўсекунды раней за астатніх, гэты здаравенны чарнабуры Рэкс. Лейтэнант мяльком паспеў убачыць яго хцівую ікластую ляпу і, больш інстынктыўна, чым па сваёй волі, з усяе сілы ўскінуў нагу. Шырокія сабачыя грудзі балюча ўдарылі ў ступню, але не паваліла чалавека, прыпёртага да сцяны, і ваўкадаў, шалёна завыўшы ад няўдачы, адскочыў назад. Іншыя драпежнікі аднак ужо ўчапіліся ў свае ахвяры і дзіка тузаліся. Наўкола ўсчаўся сабачы віск, брэх, штурханіна лютай, незвычайнай барацьбы.

Услед за першым наскокам Рэкс адразу ж сігануў зноў, цэлячы вышай; чалавек не паспеў замахнуцца нагою, як сабачыя лапы ўдарылі яго у бок, і зубатая зяпа ўпілася ў плячо. Лейтэнант рвануўся ад болю і жудасці, ухіляючыся ад страшнай касматай істоты — затрашчала гімнасцёрка, і сабака адарваўся. Але ў той жа момант ён скочыў яшчэ раз і ўжо апынуўся на карку.

Гэта было самае страшнае. У нейкае імгненне, зыходзячы крывёю, што ліпкім гарачым струменем лілася з пляча, лейтэнант адчуў ля сябе адну толькі апору — сцяну, людзей ужо не было побач. Ля ног раўлі, екаталі, вішчалі сабакі, і за бар'ерам з парт гэтак жа раўлі, гарлапанілі, стукалі немцы.

З апошняе сілы ён утрымаўся каля сцяны, не даўшы сябе паваліць і тым скончыць усё. Сцяўшы ў душы пякельны боль, ён зноў рвануўся ўсім целам і здаровай рукой ухапіў ваўкадава за шыю. Выгінастыя іклы звера ўжо ўчапіліся ў яго карак: нясцерпны боль пранізаў усё цела, мозг, кожную часцінку яго істоты. Памутнела ўваччу. Сабачыя кіпцюры задніх лап дралі яго сцягно, і ён, як толькі мог, усім цяжарам аслабелага цела бразнуў сабаку аб сукаватае бярвенне сцяны.

Ваўкадаў коратка віскнуў і хоць не адчапіўся, але расслабіў сківіцы, і ў той жа момант лейтэнант, намацаўшы рукой ашыйнік, з усяе сілы ўхапіўся за яго і крутнуў. Гэта памагло, націск ваўкадава паменшаў, звер абмяк, чалавек адарваў яго ад сябе і скінуў на зямлю.

Немцы лютавалі — махалі рукамі, крычалі, лаяліся і нечага патрабавалі. Сабачы павадыр, неадрыўна сочачы за бойкай,

сіліўся расшпіліць кабур, нехта падахвочваў сабаку. Але оберштурмфюрар, які адзін, здаецца, не хваляваўся і туліў у вуснах задаволеную ўсмешку, раптам выпрастаўся за сталом і крыкнуў «Фу!».

Тым часам лейтэнант, прыхінуўшыся да сцяны, стаяў скрываўлены, у пашматанай гімнасцёрцы, а ў яго вачах мітусіліся, скакалі, віліся барвовыя вужакі. Вельмі хацелася яму ўпасці, памерці, каб скончыць пакуты, але ён стаяў усё, як крывавы сімвал страшнага людскога злачынства. Прыпаўшы да зямлі і хціва насторчыўшы вушы, гатовы рынуцца зноў, чакаў новай каманды Рэкс. Скончыўшы кароткую схватку, шкуматалі свае ахвяры іншыя трое сабак.

І тады сярод агульнага замяшання і вэрхалу з важнаю павольнасцю ўзняўся з—за стала оберштурмфюрар. Афіцэры адразу прыціхлі і пачціва павярнуліся да яго, а ён, тузануўшы на вочы бліскучы казырок фуражкі, ашчаперыў выпеставанымі пальцамі спінку гнутага школьнага крэсла.

— Этот русскнй офнцер есть храбрый зольдат. Он достоен уважения, но он потерял форму, господа. Рекс — фас!!!

Ваўкадаў коратка рыкнуў і распластаўся ў паветры на імклівым узлёце, але шырокія сабачыя грудзі глуха ляпнуліся аб смаляныя бёрны сцяны. Яго ахвяра, на якое імгненне апярэдзіўшы гэты скачок, мёртвая звалілася на здратаваны, скрываўлены дол.

Наступіла кароткая паўза, у якой ніхто не паспеў заўважыць, як змрочны малады афіцэр, што стаяў за ўсімі, дастаў танкаствольны парабелум, рашуча ўзняў яго да светла-валосай галавы і стрэліў. Афіцэры здрыгануліся, схапіліся за кабуры, а ён ужо курчыўся на зямлі, і ў зялёную, прытаптаную ботамі мураўку хутка-хутка капалі з падстрыжанай скроні першыя кроплі яго арыйскай крыві.

— Вас іст лёс? — крыкнуў оберштурмфюрар.

Але было зусім ціха, і ніхто не адказаў яму, быццам усе анямелі, толькі за бар’ерам здаволена вурчалі сабакі, ірвучы целы палонных.

1959

## Дваццаты

I

Людзі ішлі на ўсход.

Пад ранак высвецілі зоры. З бяздоннай сіні начнога марознага неба сплыла туманная смуга, увабраўся ў сілу мароз, і ў твар падарожнікам павеяў пранізлівы калючы вецер. Сухі сыпкі снег зашуршаў у каламутнай белізне наваколля — па полі віліся выгінастыя пасмы завеі.

Маёр быў трохі мацнейшы за двух сваіх спадарожнікаў. Высокі і плячысты, ён крочыў спарней і раз—пораз апярэджваў іх, потым спыняўся, услухоўваўся і чакаў, пакуль падыдуць таварышы. Першы звычайна даганяў яго Валодзькін — невялікі, вельмі схуднелы юнак у туга зацягнутым нямецкім шынялі і глыбока насунутай на голаў пілотцы. Наблізіўшыся да маёра, ён садзіўся на снег, спіной к ветру, курчыўся, кранаючыся ілбом халодных вострых каленяў. Старшы лейтэнант Івашоў, у падпяразанай папружкаю нейкай кароткай світцы, адстаў далёка і шкандыбаў вельмі марудна. Ён прыкметна кульгаў, абапіраўся на падабраную ў дарозе палку, хрыпла дыхаў, стагнаў і, дагнаўшы таварышаў, прастуджаным голасам прасіў;

— Браткі… Пастойце… Не магу так… Не магу…

Ён адразу клаўся на снег і моўчкі ляжаў без руху. Маёр стаяў нейкі час, азіраўся па баках, нешта думаў і заклапочана пазіраў на сваіх знямоглых спадарожнікаў. Аднак праз колькі хвілін ён настойліва падаваў голас;

— Ну, пара. Яшчэ трошкі. Яшчэ вёрст пяць да відна.

Першы тады ўставаў Валодзькін, Івашова яны падымалі за рукі ўдваіх. Неба на ўсходзе паволі святлела, і навокал бялела ў доле, ноч раставаралася ў паўзмроку нясмелага позняга світання.

Праз колькі часу на заснежаным полі развіднела — завея рабіла яго зыбкім, рухомым. Снегавыя вужакі, перасыпаючыся і варушачыся, бы жывыя, суладна імкнулі ўдалячынь. Вецер усё мацнеў. Шлях падарожнікаў пралёг праз узгорак, і двое з іх зноў адсталі ад свайго дужэйшага таварыша.

…А яшчэ два тыдні назад яны мелі куды болей сілы.

Кожную раніцу пасля доўгай лагернай паверкі дваццаць спецыяльна прызначаных на тое палонных лезлі ў гулкі кузаў вялізнага «Ханамага» і пад канвоем васьмі салдат ехалі ў далёкі кар’ер. Увесь дзень да змяркання, без адпачынку і ежы, цяжкімі малатамі і кіркамі ламалі яны выкапнёвыя скальныя брылы. Той жа «Ханамаг» вазіў каменне ў горад. Лагер пашыраўся, будавалі яшчэ тры комплексы нявольніцкіх блокаў — на ўсходзе нямецкія арміі падыходзілі да Масквы.

Але аднойчы нечуваная вестка ўскалыхнула шматтысячную граmаду палонных. Невядома кім прынесеная з волі, яна ў некалькі гадзін абляцела ўсе блокі лагера. На рабоце, у бараках, у шматлікіх паверачных страях і бясконцых чэргах за ежай шэптам адзін другому перадавалі людзі нечуваныя словы, ад якіх многія плакалі радаснымі слязьмі надзеі. Праўда, ніхто не ведаў нічога пэўнага, шмат было варыянтаў тае навіны, але адно заставалася бясспрэчным — пад Масквой Чырвоная Армія граміла захопнікаў.

Гэтая вестка незгасальным агнём запаліла ў Валодзькіна вялікае жаданне ўратавацца — выжыць, прарвацца на ўсход. Ні ўдзень, ні ўночы не ведаючы спачыну сабе, ён думаў усё, як бы гэта зрабіць. Аб тым жа думалі многія.

І вось у адзін пахмуры, задожджаны восеньскі вечар дваццаць каменаломаў ускрайкам шашы брылі з кар'ера. Два канваіры ішлі наперадзе, два ззаду, астатнія чацвёра, паспяшаўшыся на адпачынак — была субота — паехалі раней на гружанай машыне. Непадалёк пачынаўся горад, ззялі агнямі домікі пад чарапічнымі дахамі, па дарозе адзін за адным праносіліся аўтамабілі. Змарыўшыся за дзень ад бясконцага крыку і лаянкі, канвойныя нешта суцішыліся, курылі [цы]гарэты, зрэдку гыркаючы на якога-небудзь аслабелага нявольніка. І ў такі вось час, калі на шашы выпаў кароткі перапынак у руху, над калонай гойкнуў нечы прызыўны кліч;

— Бі гадаў!!!

Не раз успамінаючы тое, Валодзькін так і не мог зразумець, адкуль толькі ўзялося сілы ў гэтых схуднелых людзей, адкуль стала гэтульki энергіі і спрыту. Не паспелі канваіры што і падумаць, як іх ухапілі за горлы, паваліли, прыдушылі, пазабівалі драўлянымі чаравікамі-апоркамі, у якія былі абуты людзі. Той чалавек, што падаў свой кліч, камандаваў і далей — палонныя пахапалі ў забітых зброю, некаторыя панадзявалі варожую форму.

Хутка аднак яны ўгаманіліся, апамяталіся, удала захапілі на шашы першы грузавік, што выскачыў з горада, і, пасеўшы ў яго, пад аховай пераапранутых «канваіраў» паімчалі на ўсход.

Праўда, ехаць давялося нядоўга. Праз гадзіны дзве іх ужо спрабавалі затрымаць, а яшчэ праз гадзіну, адстрэльваючыся ад пагоні, яны абярнулі ў канаву машыну і, страціўшы палову людзей, ледзь схаваліся ў лесе.

Пасля яшчэ было шмат сутычак, шмат страху і рызыкі. У шляху напаткала іх зіма, і ўсё меней заставалася байцоў. Урэшце іх стала трое.

II

Узысці на пагорак было дужа цяжка. На ўгладжаным завеяй касагоры выслізганыя чаравікі непаслухмяна раз’язджаліся ў бакі — Валодзькін цяжка падаў у снег. Ён стараўся ступаць у сляды маёравых ботаў, — так было крыху ямчэй лезці ўгару, толькі ад стомы не хапала дыхання і заходзілася сэрца.

Ён быў ужо на сярэдзіне касагора, калі ззаду пачуўся голас. Валодзькін здрыгануўся ад нечаканасці, спыніўся і азірнуўся на кульгавага Івашова. Зусім, відаць, выбіўшыся з сіл, старшы лейтэнант ляжаў унізе і прыцішана яшчэ разы два клікаў таварыша.

— Знямог? Ну, чакай, зараз,— прамовіў Валодзькін і ў ветраной гэтай немаце не пазнаў свайго голасу, слабага і прыдушанага. Прыўзняўшыся на руках, Івашоў чакаў дапамогі і з надзеяй пазіраў на яго.

— Зараз, зараз іду,— зноў крыкнуў Валодзькін таварышу, а сам усё стаяў на касагоры, не маючы сілы выцягнуць з гурбы завязлую да калена нагу. Ён цяжка дыхаў, з рота вырываліся і знікалі на ветры белаватыя подыхі пары, а сэрца шчымела ад таго, што яны ўсе ўтраіх такія аслабелыя, бездапаможныя і маленькія ў гэтых заснежаных сцюдзёных прасторах.

Трохі спачыўшы, Валодзькін спусціўся з узгорка. Не дачакаўшыся таварышаў, на адхоне паказаўся маёр, пасля ён таксама сышоў уніз. Івашоў ляжаў на снезе, уткнуўшы твар у рукавы світкі. Яго плечы раз—пораз нервова ўздрыгвалі.

— Канец... Усё роўна канец... Усім, усяму... — чулася яго надрыўная роспачная скарга. Володзькін, учуўшы гэта, збянтэжана зірнуў на пачарнелага, аброслага сівым касмыллем маёра. Той скрыгануў зубамі, і на яго худых запалых шчоках захадзілі жаўлакі. Ён не сказаў нічога, а толькі ўздыхнуў, узняў свой позірк ад распластанага чалавека і доўга маркотна глядзеў у затуманеную завеяй далячынь.

Ці ад гэтага маркотнага позірку, ці ад тых роспачных Івашовых слоў упершыню благім прадчуваннем здрыганулася і Валодзькіна сэрца. Няўжо і сапраўды не пашанцуе ім вырвацца з няволі і дайсці да сваіх? Гэтулькі ўжо бяды стрывалі яны, што ад адных толькі ўспамінаў рабілася страшна.. А колькі яшчэ наперадзе — пэўна, не меней. Відаць, памыліліся яны, пагарачыліся, і прыйдзецца ўпасці дзе-небудзь ад сцюжы ці кулі, як упалі ўжо іх семнаццаць таварышаў. Праўда, з’яўлялася часам надзея — адшукаць партызанаў і далучыцца да іх. Учора ля нейкай лясной станцыі яны бачылі, як гарэлі вялізныя склады-пакгаўзы, людзі казалі, што ўначы тут былі партызаны. Там жа яны дачуліся, што ў тутэйшай мясцовасці забіты важны нямецкі начальнік —

оберштурмбанфюрар Вірт. Расклееныя ў вёсках аб'явы абяцалі 50 тысяч марак таму, хто дапаможа немцам натрапіць на след гэтых лясных змагароў. Але дзе было знайсці іх — не ведаў ніхто, а няшчасныя ўцекачы гублялі апошнія сілы.

Урэшце, Івашоў трохі супакоіўся, прыўзняўся на руках і сеў. Яго спакучаны, счарнелы ад сцюжы і стомы твар быў страшны.

— Я ўжо ўсё... выдахся,— сіпла выціснуў ён з прастуджаных грудзей і надрыўна закашляўся.— Дый вы... і вы не дойдзеце... Не трэба было... Усё роўна смерць, смерць усюды...

Маёр нездаволена павёў плячыма, нецярпліва пераступіў з нагі на нагу.

— Уздумаў паміраць? — глуха сказаў ён. — Рана. Уставай, трэба ісці. Бяры, Валодзькін.

Яны ўзялі яго пад рукі. Івашоў бязвольна паддаўся ім і, скрывіўшы ад болю твар, пакорліва паплёўся на ўзгорак.

Марудна, цяжка і доўга лезлі яны на касагор, задыхаючыся ад Стомы; маёр і Валодзькін, часта прыпыняючыся, упарта цягнулі таварыша ўгору. Івашоў туліў галаў у высока ўзнятыя плечы, зусім неяк абвяў у іхніх руках, вяла пераступаў нагамі, і, здавалася, варта было пусціць яго, як чалавек скаціўся б уніз. І яны цягнулі яго, не ведаючы, што будзе далей, сяк—так вывалаклі на пагорак і, знясіленыя, пападалі ў снег.

...Завея ўсё гаспадарыла ў бязлюдным затуманеным снегам полі. Жвавыя снегавыя языкі хутка спавілі сваёй беллю нерухомыя целы людзей, мяккі дол прыветна туліў да сябе зняможаных падарожнікаў, і не было сілы расплюшчыць вочы, варухнуцца, устаць.

Мерцвякамі ляжалі людзі і не чулі, як пад узгоркам, прабуксоўваючы, раўнулі машыны, як выніклі яны з лагчыны на дарозе, што бегла зусім недалёка ад уцекачоў. Машын было шмат, і ў іх высокіх кузавах, тулячыся ад завеі, цесна сядзелі салдаты ў мышастых шынялях.

III

Іх прывялі на дарогу, да пярэдняй машыны, дзе стаялі два афіцэры ў шынялях з футравымі рудымі каўнярамі. Узняўшы ўгору рукі, Валодзькін ішоў сам, ззаду кульгаў Івашоў, прастрэленага ў грудзі маёра двое салдат цягнулі па снезе. Наўкола гаманілі дзесяткі ворагаў, калолі з усіх бакоў ненавісныя позіркі, а Валодзькін не прыкмячаў нічога. Усеабдымная журбота ад гэткай няўдачы прыдушыла яго, скавала волю, і пагібель, не далёкая і ўяўная, а ўжо блізкая і рэальная, ва ўсёй сваёй жахлівай велічы паўставала над ім.

Ля машыны ўсе спыніліся, параненага паклалі ля ног афіцэраў. Ён трохі варушыўся, зацята пазіраў на ворагаў і, сцяўшы сківіцы, з натугай перасільваў у сабе, відаць, немалы боль. Панылы, разгублены Валодзькін не зводзіў з яго позірку, але дапамагчы чалавеку не было як.

Іх гаманлівым колам акружылі салдаты. Гоман аднак разам спыніўся — афіцэр у акулярах нешта сказаў доўгаму пласкагрудаму салдату ў кароткім шынялі. Той паслухмяна выступіў наперад.

— Національ? Полякі? Рускі?

— Рускія,— з натугай гучна сказаў маёр і прыўзняўся на локці. — Рускія! — паўтарыў ён мацнейшым і трошкі дрыготкім ад напружання голасам. Немец буркнуў афіцэру, той, гідліва крывячы вусны, сказаў нейкую доўгую фразу.

— Что ві дзелаль? Откуд бежаль? Ваш чын і фаміль?

Маёр на гэта горка ўсміхнуўся.

— Шмат вы хочаце ведаць,— сказаў ён.— Цікава, што рабілі? Дык ведайце: білі фашыстаў!

Немец пераклаў і гэты адказ, і раптам наўкола выбухнуў з’едлівы салдацкі рогат. Валодзькін упершыню ўзняў галаву, абвёў позіркам вясёлыя нахабныя твары. Сытыя, добра апранутыя і ўзброеныя ворагі пагардліва іржалі вакол траіх абадраных знясіленых валацуг. Ім было дужа смешна, што адзін з гэтых нікчэмных небаракаў уздумаў так недарэчна пажартаваць. Валодзькін зразумеў гэты рогат, убачыў зняважлівую пагарду, што шчэрылася на кожным твары, і яму стала вельмі прыкра і балюча за сваю слабасць і такое мноства вайсковых няўдач. Ён зусім звесіў галаву і глядзеў толькі на маёра, які злосна бліскаў вачыма.

— Пан ротэнфюрар гаворы сумнень о ваш боеспасобнасць, — абыякава перакладаў салдат. — Ві, рускі свіні, дзеляйце блягадарнасць гэр гот, что ешчо не подыхаль у этот снег.

Валодзькін убачыў, як пабялелі шчокі на маёравым твары, той варухнуўся, спрабаваў, відаць, узняцца, але затым з неадольным болем зноў апусціўся на снег.

— Дарма так думае ваш ротэнфюрар, — сказаў ён і злосна крыкнуў: — Мы станцыю Баркі спалілі! Мы вашага оберштурмбанфюрара Вірта забілі! Што, мала? Ну, страляйце нас!

Ад тых маёравых слоў нешта здарылася ў варожым коле. Акулярысты афіцэр раптам збянтэжана заміргаў белабрысымі вачыма, салдаты наўкола заварушыліся. Валодзькін чуў за спіной, як шмат вуснаў забубнілі знаёмыя, відаць, словы: «О, банхоф Боркі. ...Оберштурмбан-фюрар Вірт...». Хлопец не зразумеў яшчэ, што адбылося, але ён ведаў ужо, што смелыя маёравы словы зрабілі ворагам нешта непрыемнае і шкоднае. І, адагнаўшы ад сябе

паныласць, Валодзькін, здаецца, знайшоў надзею на нейкую незразумелую сілу, нейкую няпэўную яшчэ перавагу над гэтымі вылюдкамі.

І варожая грэблівасць на твары акулярыстага змянілася тады трывожнай зацятасцю. Афіцэр выняў з кішэняў рукі і ступіў да маёра:

— Что ты сказаль, сабака?

— Тое, што чулі. Мы забілі Вірта, спалілі Баркі.

Немец сцяў вусны і ўдарыў параненага ботам у грудзі.

Маёр глуха войкнуў, і з яго рота на снег хутка выслізнуў вузкі струменьчык парнай крыві. Валодзькін знячэўку ўскрыкнуў, гарачае абурэнне і спалох за чалавека шыбанулі ў яго пачуцці — ён кінуўся да таварыша. Але нехта ззаду выцяў яго, і хлопец з размаху грымнуўся на дарогу.

А наўкола ўсё замітусілася, злосцю скрывіліся касцістыя твары ворагаў, яны накінуліся на траіх знясіленых бездапаможных людзей. Іх білі ботамі, таўклі кулакамі, прыкладамі; рвучыся, трашчала вопратка. Валодзькін толькі сашчапіў сківіцы і трываў, стогнучы, — чакаў канца. Дзіўна было, але гэтае варожае шаленства, народжанае помслівай злосцю, здалося куды лягчэйшым, чым той пагардлівы салдацкі рогат. «Біце, біце, трэскайцеся ад злосці, знайце, хто мы,— нема крычала хлапечае сэрца, — забівайце, усё роўна цяпер вам не будзе лягчэй». Але раптам між злоснай лаянкі чужынцаў прагучаў спалоханы крык Івашова:

— Ой, завошта!!! Завошта!!! Ён хлусіць! Маёр хлусіць! Не білі мы нікога, не бачылі…

Афіцэр скамандаваў нешта, і валтузня навокал спынілася. Валодзькін аднак усё курчыўся на снезе ад балючага ўдару ў жывот.

— Что ві хацель сказаць? — звярнуўся пласкагруды перакладчык да паваленага Івашова. Той нязграбна ўзняўся і хуценька, нібы баючыся, што яго не выслухаюць як трэба, загаварыў акулярыстаму афіцэру.

— Пан афіцэр… пан афіцэр… Няпраўда. Маёр знарок. Ён выдумляе… Не бачылі мы ніякага оберштурмбанфюрара… Мы ледзь жывыя, а ён… камандзір…

Валодзькіну здалося, што ён трызніць. Спачатку ён здзівіўся ад тых Івашовых слоў, але неўзабаве нспатольная злосць на таварыша ўзбунтавала хлапечыя пачуцці. Ён імпэтна рвануўся да афіцэраў, да гэтага труслівага Івашова, якога ўжо абступалі немцы. І, нечакана адчуўшы, што гэты агідны чалавек вырве ад іх такую неспадзяваную перавагу над ворагам і зусім прынізіць іх годнасць, Валодзькін з усяе моцы закрычаў у варожы натоўп:

— Няпраўда! Гэта ён хлусіць! Ён трус! — тыцкаў ён пальцам у Івашова, які, выціраючы ад снегу твар, усё казаў нешта. Перакладчык, афіцэры, салдаты азірнуліся на яго і змоўклі, пэўна, не ведаючы, як іх разумець. А Валодзькін на здзіўленне ім кінуў новыя словы — кінуў цвёрда і з пераканаңнем сваёй праўдзівасці, з годнасцю чалавека, далёкага ад хлусні.

— Не слухайце яго! Ён сам страляў у вашага обера.

Плоскі немец пераклаў тое, афіцэр недаверліва паглядзеў на Івашова, затым на Валодзькіна, зірнуў на гадзіннік у рукаве і прамовіў нейкі загад. Ён, відаць, паспакайнеў ад першай сваёй злосці і цяпер распараджаўся дзелавіта і роўна.

Салдаты, нешта гамонячы, падаліся да сваіх машын, ля палонных засталіся трое. Яны знялі з—за плячэй карабіны, і кастлявы яфрэйтар з халоднымі, асалавелымі ад строгасці вачыма голасна крыкнуў:

— Маршырэн, думес фі![1]

Ён балюча тыцнуў Валодзькіна прыкладам у спіну, даючы тым самым зразумець, куды трэба ісці, штурхнуў у каршэнь Івашова і з тым жа апантаным крыкам ударыў абцасам нерухомага маёра. Аднак зацярушаны снегам маёр ляжаў сцішаны, строгі і маўклівы.

Валодзькін праглынуў тугі горкі камяк у горле, прыжмурыў вочы ад прыліву слабасці і жалю. Але хлопца зноў штурхнулі і пагналі ў той бок, адкуль прыйшлі машыны. Ён абочынай мінуў іх і паціху пайшоў далей па перамеценай завеяй дарозе.

Пакрысе аднак Валодзькін спакайнеў. Ён прывыкаў ужо да непазбежнасці свайго лёсу, усё болей раставала ў душы недасяжная мара — жыць. Заклаўшы рукі назад, як таго дамагаліся канваіры, ён аднак затаіў у сабе нескароную ўпартасць і ўжо амаль верыў у тыя маёравы словы, што так збянтэжылі гітлераўцаў. І хоць не ўдалося яшчэ небараку Валодзькіну нарабіць асаблівай шкоды фашыстам, ад таго, што ворагі бачылі ў ім нейкага змагара, было болей рашучасці і болей сілы ў душы. Ён не спадзяваўся на іхнюю літасць, ведаў — заб'юць, і не шкадаваў сябе, а ўсё болей уваходзіў у ролю таго, каго бачылі ў ім немцы. Ён вышэй узняў сваю галаву, азірнуўся на насцярожаных канваіраў — іх празмерная пільнасць здалася яму нават прыемнай.

IV

На шэрым засмужаным небасхіле з'явілася сіратлівае няяркае сонца. Яно разы два бліснула невясёлай усмешкай і, бяспромнае і маркотнае, сціснулася ў маленькую жоўтую плямку ўгары. Завея

---

[1] Марш, быдла!

тым часам паменшала, упрыгожанае снегавымі выкрутасамі, ціха ляжала застылае поле.

Старшы трох канвойных — яфрэйтар з доўгім, кастлявым, бы конскім, тварам — не зводзіў халоднага позірку з двух згорбленых знясіленых постацей. Ён часцей за іншых крычаў «шнэлы» і часцей штурхаў прыкладам Івашова і Валодзькіна. Другі канвойны — нізкаросды ўкормлены немец з свінячым выразам белабрысага зашчаціненага твару — усё нешта жаваў, дастаючы з кішэні. Ён, відаць па ўсім, быў лянівы на рухі і словы, але ніколі не мінаў штурхнуць Івашова, які, адстаўшы, апынаўся ля яго. Рабіў ён гэта не рукамі, якія вымаў з кішэняў толькі каб пхнуць у рот чарговую порцыю ежы, і не карабінам, што няспрытна вісеў за спіной на доўгім рэмені — штурхаў ён нагой. Гэта выходзіла ў яго хлёстка і, відаць, з сілай, бо Івашоў пасля такога штуршка некалькі крокаў потырч ляцеў па дарозе. Трэці канвойны ішоў ззаду, ён маўчаў, і на яго пажылым чарнявым твары ляжаў выраз невясёлай задумы.

Валодзькін не вельмі цікавіўся варожымі справамі, іх салдацкай балбатнёй — яго асабісты лёс быў ясны. Праўда, да палоннага даляцела некалькі зразумелых фраз, і ён даведаўся, што іх вядуць у горад, дзе павінны здаць у штаб нейкай зондэркаманды. Што там чакала яго, ён ведаў пэўна, бо за паўгода палону добра засвоіў фашысцкую завядзёнку распраўляцца з вінаватымі.

У нейкай невялічкай лагчыне, дзе дарога больш за іншыя месцы была завалена снегам, Івашоў спатыкнуўся і ўпаў. Ля яго адразу спыніўся ўкормлены і, ганяючы сківіцамі жаўлакі, абыякава, без злосці, ударыў ботам у бок.

— Штэе аўф, абер шнэль![2]

Івашоў скрывіўся ад болю, узняўся на адну руку і зноў заплакаў, як плакаў пад тым пагоркам у полі. Канвойныя спыніліся на дарозе, Валодзькін таксама стаў зводдаль.

— Паночак, камарад, завошта? Мы ж нявінныя... Злітуйцеся, пусціце мяне... Пусціце...

— Гэ, чаго захацеў, — буркнуў Валодзькін.— Не ламайся, не ўпросіш.

Але Івашоў прасіў. Ён, пэўна, адчуў, што сілы яго ўжо невялікія, што многа ён не пройдзе, і чалавек слязьмі і просьбамі думаў вымаліць сабе паратунак.

Укормлены праглынуў сваю жаванку і запытальна зірнуў на яфрэйтара. Той нешта гыркнуў гучным ад лютасці голасам і зняў з пляча карабін.

— Аўфштэен! Форвэртс![3]

---

[2] Паднімайся, жыва!
[3] Устаць! Наперад!

Ён наставіў карабін у голаў палоннага і злінялымі сваімі вачыма з хвіліну свідраваў яго. Цяжка варушачыся, Івашоў устаў, але ногі яго бяссільна запляталіся, і ён няўпэўнена ступіў некалькі разоў. Валодзькін гідліва плюнуў на дарогу — ён не шкадаваў былога таварыша, не мучыў сябе дакорамі, што той быў доўгі час блізкі яму, гідлівасць зацяніла ў ім усе пачуцці да гэтага чалавека.

Праз нейкі час Валодзькін зноў спыніўся ад крыкаў ззаду — Івашоў, распластаны, ніцма ляжаў на снезе, голасна екатаў нешта і плакаў. Валодзькіну стала вельмі прыкра і горка ад усяго гэтага, і ён адвярнуўся. Захінаючыся ад сцюдзёнага ветру, з хвіліну ён слухаў то роспачны лямант зняможанага Івашова, то разлютаваны крык старшага канваіра. Затым нечакана грымнуў стрэл, і крыкі сціхлі. Калі Валодзькін азірнуўся, яфрэйтар, лязгаючы затворам, выкідаў з карабіна гільзу — на зямлі ляжала скурчанае нерухомае цела Івашова.

Ад прыкрасці Валодзькін толькі ўздыхнуў — ні жалю, ні самага маленькага спачування не засталося ўжо да гэтага недарэчнага таварыша. Ён хацеў ісці далей, але канваіры паклікалі яго да забітага, загадалі адцягнуць труп з дарогі. Хлопец пачакаў, пакуль укормлены абшукаў кішэні дзіравае світкі нябожчыка, і потым зрабіў тое, чаго патрабавалі ворагі.

V

Глухая, малаезджаная дарога ўсё вілася і вілася між пералескаў, пагоркаў, балацявін. Побач не відаць было ніводнае вёскі, і невядома, дзе быў той горад, куды вялі дваццатага ўцекача.

Адразу пасля забойства Івашова Валодзькін заўважыў, што немцы чагосьці сварацца. На яго яны не дужа звярталі ўвагі, ён ішоў сабе наперадзе, а канвойныя нешта злосна спрачаліся між сабой. Валодзькін не азіраўся, але ён паз—наваў ужо голас кожнага і цяпер чуў, што неразгаворлівы дагэтуль чарнявы нешта стрымана і незадаволена бурчаў ззаду. Ён чымсьці абураўся, і яфрэйтар раздражнёна гыркаў на яго. Укормлены больш маўчаў, толькі зрэдку ўстаўляў у спрэчку некалькі слоў.

— Хаст ду тот гешляген, ганц рыхціг![4]

— Філляйхт іст эр уншульдзіг? Воцу зо граўзам?[5] — даводзіў чарнявы.

— Філе гефалленэ, венігэ лебендзігэ зо фордэрт унзэр фюрэр! — гыркаў яфрэйтар. — Зольст ду маўль кальтэн, Лорэнц![6]

— Альзо ляс ін аўх нідэр![7] — раздражнёна кідаў чарнявы.

---

[4] Забіў, і добра!
[5] А можа, ён не віноўны? Навошта так люта?
[6] Больш забітых – менш жывых, так патрабен фюрар! А ты маўчы, Лорэнц!
[7] Дык распраўся і з ім!

— Біст ду фэрукт гевордэн, ду цівільку! Вен абер вэрдэн вір цум хэрн оберштурмфюрэр хэрбайшлепэн? — злаваўся старшы. — Ім мілітэр мус ман я дэнкэн, унд цвармер, альс бай дэн бюхляйн![8]

Валодзькін не ўсё зразумеў з гэтай сварлівай гамонкі, але галоўнае ён усё ж сцяміў і з цікаўнасцю азірнуўся. На тварах дваіх — яфрэйтара і чарнявага — ляжала раздражненне, толькі ўкормлены абыякава плёўся ззаду і ўсё нешта поркаўся ў кішэнях. Валодзькін коратка затрымаўся позіркам на чалавеку, які гэтак нечакана заступіўся за іх. Штосьці было ў яго твары разважнае і нязлоснае, нават нешта пакутнае, і тады гэты чалавек нагадваў Валодзькіну другога немца — лагернага шафёра, які зусім інакш, чым астатнія ворагі, адносіўся да палонных. Ён не крычаў ніколі на іх, не лаяўся, здаралася, калі не бачылі іншыя прыганятыя, соваў якому бедаку кавалак бутэрброда ці недакурак цыгарэты. Палонныя, як трэба, ацанілі яго дабрату і яго рызыку і вельмі паважалі гэтага незвычайнага немца. Цяпер па нейкім унутраным руху чарнявага хлопец адчуў незразумелую яшчэ еднасць яго і таго лагернага шафёра, і ад гэтага нечаканага адкрыцця крышачку святлей стала на душы. Нейк быццам паменшала тая адзінота, якая мімаволі самотна з’явілася ў яго сэрцы пасля забойства Івашова.

Ужо, мабыць, пад поўдзень з небасхілу ярка бліснула зімовае сонца, і снегавое поле заіскрылася алмазным россыпам калючых блішчынак. Валодзькін зусім ужо прыбіўся і ледзьве-ледзьве клыпаў, прагнучы хоць якога-небудзь канца гэтым пакутам. Канвойныя, пасварыўшыся, доўга ішлі моўчкі — яны таксама прытаміліся, і ля трох разгатых сосен, што стрэліся ім збоч дарогі, яфрэйтар крыкнуў: «Аўсруэн![9]». Ён стомлена бухнуўся задам у снег, ля яго размясціліся салдаты. Валодзькін таксама сеў непадалёку і з—пад ілба зацята пазіраў на ворагаў.

Укормлены канваір, відаць, ужо з’еўшы ўвесь свой правіянт, зморана разлёгся на снезе, а яфрэйтар з чарнявым дасталі з сумак харч і пачалі сілкавацца. У Валодзькіна раптам пацякла слінка, і ён, каб не пакутаваць залішне, адвярнуўся. Але вось нехта ззаду падышоў да яго і далікатна, нібы пасяброўску, крануў за плячо. Валодзькін здзіўлена павярнуў галаву і блізка ля свайго твару ўбачыў жаўтаваты, хрумсткі сухар, які даваў яму пажылы чарнявы канваір. Валодзькін вельмі здзівіўся, яго рукі ўхапілі пачастунак, а немец, коратка зірнуўшы на хлопца, сеў на сваё месца ў снезе. Валодзькін толькі ўпіўся зубамі ў сухар, з незвычайнай асалодай адчуваючы ў роце яго гаркаваты смак, як з долу ўскочыў яфрэйтар

---

[8] Ты з глузду з’ехаў, цывільная карова! Каго ж мы тады прывядзём да пана оберштурмфюрэра? У вайсковай справе трэба думаць – і куды больш, чым за кнігамі!
[9] Прывал!

і моўчкі размашыста выцяў Валодзькіна. Ледзь накушаны сухар вылецеў у снег, а з разбітых вуснаў палоннага палілася кроў.

Раптоўны гнеў і крыўда ўзарвалі хлопца, патроілі яго сілы, і ён дзіка закрычаў проста ў нялюдскі канячы твар:

— Гад ты! Звер! Фашыст! Ірад! Шваін,— крычаў Валодзькін, выкарыстоўваючы ўвесь запас знаёмых абразлівых слоў. Немец зноў рвануўся да яго і зноў выцяў, але ўжо не так балюча, бо Валодзькін паспеў утуліць галаву ў плечы і толькі хіснуўся. Ён чакаў і яшчэ ўдараў, гатовы быў на самае страшнае катаванне — усё роўна ён крычаў бы абразу ў гэты паганы твар. Яфрэйтар, сцяўшы кулакі, стаяў побач і трэсся ад злосці, але не біў болей, а ззаду за ім перасцерагальна крычалі двое падначаленых:

— Кук маль, біст ду фэрукт гэвордэн![10] — гнеўна насупіўшы бровы, казаў чарнявы.

— Ота, ляс ін ін руэ! Эр кант ніхт геен, ман мус ін ві аін зак трагэн[11],— непакоіўся ўкормлены, седзячы ў снезе.

І добра яшчэ не зразумеўшы ў гарачцы, Валодзькін адчуў, што з'явілася нейкая новая акалічнасць, якая, здаецца, змяншала сілы ворагаў і абараняла яго. Нездаволена сцяўшы конскія сківіцы, яфрэйтар дастаў з кішэні закурку, а хлопец, цяжка дыхаючы, ужо ведаў, што ён нейкім чынам не падуладны гэтаму зверу-фашысту. І зразумеўшы гэта, Валодзькін так узрадаваўся, што аж засмяяўся сам сабе — гэта напоўніла яго новай адвагай і надало новыя сілы.

— Эй, ты, фашыст, Гітлер капут! — зноў закрычаў Валодзькін.— Гітлер шваін!

Немцы спалохана азірнуліся, быццам хто мог падслухаць іх у гэтым зімовым полі, а Валодзькін, мабілізаваўшы ўсё тое, што ведаў з нямецкай мовы, злосна крычаў:

— Гітлер капут! Герынг капут! Фашызм капут! Ротэ армее сіген! Бліц крыг! — зларадна рагатаў палонны.— Кукіш вам, во Капут вам, праклятыя дойчы! Москаў сіген Чарнявы змрочна маўчаў, а ўкормлены з яфрэйтарам збянтэжана пераглянуліся, не ведаючы, пэўна, што рабіць з гэтым нескароным палоннікам. Потым яфрэйтар нешта закрычаў на яго, заляскаў затворам і наставіў у Валодзькіна карабін, але той аж захліпаўся ад невыказнага зларадства. Яго зусім не палохалі гэтыя захады канваіра, і ён з кароткімі перапынкамі ўсё крычаў лютыя праклёны ворагам.

Урэшце старшы канваір, відаць, страціў цярпенне. Бачачы, што напалохаць палонніка не ўдасца, ён дзіка вызверыўся сваёй кастлявай фізіяноміяй, вочы яго замуціліся ад шаленства, і ён замахнуўся прыкладам. Нібы раз'юшаны сабака, накінуўся

---

[10] Глядзі ты, з глузду з'ехаў!

[11] Ота, пакінь яго ў спакої! Ён жа не здолее ісці, і нам прыйдзецца цягнуць яго, як мяшок.

фашыст на Валодзькіна. Разоў колькі ён моцна ўдарыў хлопца, у вачах таго бліснулі іскры, заняло дыханне, ён паваліўся ў снег. Але гэта не пахіснула яго намеру супраціўляцца, прагнасць дапячы ворагу ўзмацнялася разам з болем, які прычыняў яму немец. І ён, задыхаючыся, праз стогны і енкі, крычаў, шаптаў тое, што цяпер так бянтэжыла ворага.

Невядома, чым скончыўся б гэты няроўны паядынак, калі б у той час не ўскочыў з долу чарнявы і моцным рыўком за плячо не адкінуў яфрэйтара ад яго ахвяры. Нібы звер, якога адрываюць ад свежай крыві, гітлеравец рвануўся з яго рук, нешта крыкнуў падначаленаму і, калі гэта не падзейнічала, наводліў стукнуў яму прыкладам у грудзі.

Прагна хапаючы ротам паветра, Валодзькін якраз узнімаўся з долу і бачыў, як нядобрым агнём успыхнулі строгія вочы чарнявага і як ён, хіснуўшыся, спрытна ўзмахнуў карабінам і з крэктам, як гэта выходзіць у дрывасекаў, апусціў яго на яфрэйтара. Той кінуў зброю, аберуч схапіўся за галаву і, надламаўшыся ў каленях, выцягнуўся на снезе.

Раптоўная магчымасць адпомсціць, быццам на крыллях, падхапіла Валодзькіна з зямлі, зацьміла боль, і ён у два скокі апынуўся ля варожай зброі. Ён не думаў тады ні пра небяспеку, ні пра свае шанцы перамагчы — увесь свет ад яго засланіў нялюдскі скрыўлены твар яфрэйтара. У марозным паветры грымнуў стрэл з варожага карабіна — немец, што дагэтуль грэбаў на снезе рукамі, здрыгануўся і заціх.

Перазарадзіўшы карабін, Валодзькін адскочыў убок і, гатовы да бойкі, прысеў на зямлю. Раптоўным магутным выбухам узнікла ў ім прытушаная ўжо прага жыць. Неадольная і ўладарная, яна сваёй хмельнай, апантанай рукой узняла хлопца, які нечакана адчуў сябе спрытным і дужым. Але ворагі чамусьці не кідаліся на яго. Чарнявы ў першае імгненне быццам аслупянеў над забітым, а потым, штосьці сцяміўшы, крутнуўся да трэцяга канваіра. Той, спалохана лыпаючы вачыма, заікліва мармытаў нешта, круціўся ў снезе на сваім тоўстым задзе і ніяк не мог уз—няцца з долу. Чарнявы нешта пагрозліва крыкнуў, падскочыў, выхапіў з яго вінтоўкі затвор і кінуўся на дарогу.

Валодзькін толькі тады скеміў, хто ўратаваў яго, і адразу быццам апамятаўся. Ён хуценька ўскочыў і, апасліва пазіраючы на тоўстага, кінуўся за сваім збаўцам.

Немец шпарка крочыў па цвёрдай снегавой цаліне, за ім з карабінам пад пахай спяшаўся Валодзькін. Ён не ведаў, што зробіць з ім яго канваір, не ведаў, ці варта зусім давярацца яму, але агульны ўдзел у нядаўняй сутычцы з'яднаў іх, і хлопец адчуваў у чарнявым свайго саюзніка.

Так, крывуляючы з пагорка на пагорак і штораз азіраючыся, яны дасягнулі хваёвага ўзлеску. Лес, відаць, быў стары і вялікі. Растапырыўшы ў бакі кашлатае сучча, цесна стаялі запарушаныя снегам яліны, з узлеску некуды ў глыб змрочных нетраў вялі сцяжынкі воўчых слядоў. Тут немец спыніўся, павярнуўся да зморанага, узрушанага і абнадзеенага Валодзькіна і паклаў яму на плячо сваю руку.

— Как твой фаміль? Вальодкін? Надо убегіваць, Вольодкін. Этот Лепечанск пушч,— паказаў ён на лес.— Там рус партызан, многа партызан. Ты будэш партызан, будэш крыг фашызм.

Ён падаў былому палонніку руку, і Валодзькін з нечаканым жалем узяў яе, а ў грудзях зашчымела сэрца ад прадчування адзіноты і ростані з гэтым загадкавым чужым чалавекам.

— А як жа вы? — запытаў хлопец. — Унд вохін зі?

Немец сумна ўсміхнуўся куточкамі вуснаў, моўчкі махнуў на развітанне і таропка пакрочыў па ўзлеску. Валодзькін апошні раз паглядзеў на дарогу, дзе на пагорку пад трыма соснамі ўсё яшчэ сядзеў збянтэжаны ўкормлены немец, і таксама падаўся ў лес. Хутка заснежаныя галіны зусім затулілі яго.

1958

**Абознік**

Уз'ехаўшы на пагорак, Максім спыніў коней і прыслухаўся.

Над схаванымі ў цемры прасторамі ціха ляжала летняя ноч. Слабыя подыхі цёплага ветрыку асцярожна неслі з сабой кволыя шолахі ніў і густыя духмяныя пахі выспелых мурожных сенажацяў. У нябачным травяністым наваколлі старанным хорам верашчалі конікі, недзе ўдалечыні глухімі ўздыхамі аддавалася гарматная страляніна, угары, прыкрыты цемрай, праракатаў і сціх «кукурузнік». Павевы ветру даносілі і іншыя гукі, невыразныя і падазроныя, але тых, што намагаўся ўчуць Максім, не было ў начной цішыні.

Тады закралася сумненне, якое парушыла развmassліві спакой чалавека. Апаслівыя думкі заснавалі ў яго галаве, але трэба было або ехаць наперад, або вяртацца назад. Намаганнем волі Максім усё ж адагнаў благія прадчуванні і, разважыўшы, рашыў, што батальён павінен быць далей, наперадзе. Гэтае меркаванне хоць і не суняло ўзнікшай трывогі, але крыху супакоіла чалавека. Коні, нібы зразумеўшы намер гаспадара, ахвотна падаліся па мяккай палявой дарозе.

Максім Корань — ездавы сёмай роты. Гэтую вайсковую пасаду заняў ён нядаўна, і прычынай таму быў яго ўзрост — Корань лічыўся самым старым салдатам у роце. Максім цяпер разумеў, што з такімі гадамі хоць і давялося трапіць на фронт, але ваяваць ужо наўрад ці прыйдзецца. Есць у войску старшыны, якія заўсёды цікуюць старога, каб са строю забраць яго да коней або да кухні ці яшчэ куды, дзе патрэбны дбайны, надзейны гаспадар. Праўда, Максім не вельмі і нудзіўся па тым стралковым узводзе, у якім ён нядоўга служыў дагэтуль. «Эт,— разважаў ён,— калі нягож у страі, дык і няма чаго лезці туды. Начальству лепш відаць, дзе тваё месца». Нядаўна па загадзе старшыны прыняў ён пару спраўных трафейных коней і цяжкую, акутую жалезам вайсковую каламажку.

Так пачалася яго служба на новай пасадзе, служба спакойная і аднастайная, мала чым падобная да вайсковай. Максім ведаў толькі клопаты пра коней ды паклажу, выконваў старшыновы загады, асцерагаўся бамбёжкі ды баяўся часам задрамаць на возе, каб не адстаць ад абозу. Пад бамбёжку, праўда, трапіць не давялося, а адстаць вось здарыўся выпадак.

«і як недарэчна выйшла, — думаў Максім. — Каб ён згарэў, той вобад. Трэба ж было яму збракавацьу цемры. Даганяй цяпер батальён, шукай сярод ночы».

— Нэ-нэ, любыя, варушыся, — упаўголаса, лагодна падганяе Максім коней, седзячы на перадку, і немаладымі вачыма імкнецца

разгледзець што-небудзь наперадзе. Але ноч выдалася не палетняму цёмная, у ёй і з добрым зрокам нічога нельга было ўбачыць. Зямля да раніцы старанна схавала сваё аблічча, каб заўтра сустрэць сонца новым, пасвяжэлым хараством. Толькі высокае зорнае неба, уладарна ўзнёсшыся над ёю, поўнілася бляскам і няспынннай мітуснёю зор.

Злёгку варушачы лейцамі, Максім з непрыемнасцю думаў, што цяпер, пэўна, пападзе ад старшыны. Аднойчы між імі ўжо была сутычка: старшына задаў перцу ездавому, не абышлося, вядома, і без моцнага слова.

Яно крыўдна, праўда, але, бадай, справядліва.

Максім і сам невялікай думкі аб уласных якасцях. Дый якія там якасці, калі чалавеку з паўсотні год, маладосць пражыў цёмным мужыком, без пісьменнасці, у працы ды нястачы. Нават і чыгункі не бачыў ніколі, і дзе яе ўбачыш, калі да найбліжэйшай станцыі было дзевяноста вёрст. Так, у лясной глушы, пад панскай уладай і ішло жыццё. Толькі ў 39-м з'явілася надзея, акрыяў духам, ды ненадоўга. Зноў жыццё пайшло вірам, у вайну загінуў старэйшы сын, памерла старая… Дый сам пастарэў да часу, знік былы спрыт у працы, надламаўся характар. Дзе яму цяпер раўняцца з маладымі ды разумнымі. «Ну і хай, — суцяшае сябе Максім, — хоць бы і абознік. Усё ж трэба камусьці быць і пры возе… »

А коні Максіму спадабаліся. У сваім жыцці не давялося мець добрых, дык цяпер вайсковыя не на жарт захапілі сялянскую душу байца. Што і казаць: добрыя былі коні, у гаспадарку б такіх, у плуг з накаваным новым лемехам, на ўрадлівую зямлю…

Так, крыху паспакайнеўшы, думаў ездавы, а коні ішлі як самі хацелі — дзе трушком, а дзе і крокам. Яны ўжо мінулі поле і дасягнулі хваёвага ўзлеску, які змрочнай сцяной паўстаў на Максімавым шляху. Дарога стала пясчанай, і фурманка амаль не скрыпела і не стукала. Толькі зрэдку, трапіўшы на карнявішча, яна аднабока перавальвалася пярэднімі і заднімі коламі. У гэтай таемнай лясной прыцішанасці Максіму зноў зрабілася ніякавата, і ён, сілячыся не бразнуць чым, каб не парушыць цішыні, узяў з воза вінтоўку.

Пэўна ад надакучлівай адзіноты Максім прыпомніў былы свой трэці ўзвод, камандзіра аддзялення татарына Сагітава, які вучыў яго страляць і акопвацца. З акопваннем, праўда, справа ішла паспяхова, а вось у стральбе не шанцавала Максіму. «Які ўжо там з мяне стралец, — ухмыляецца ездавы, — у жыцці ружжа не трымаў, не то што вайсковай стрэльбы». Аднак, трапіўшы надоечы да коней, ён выпрасіў у старшыны вінтоўку, а трафейны карабін аддаў назад.

— Бо ямчэй мне з ёю: усё ж руская. Ды і даўжэйшая, далей возьме, — вытлумачыў Корань.

Цяпер гэтую вінтоўку прымасціў ён на каленях, але ў такім стане яна перашкаджала кіраваць коньмі, і Максім узяў яе на рэмень. Потым, прызвычаіўшыся да лясной дарогі і крыху супакоіўшыся, баец уздзеў яе за спіну, як і належала ездавому.

Неўзабаве лес скончыўся і зноў пачалося поле. Цемра нібы парадзела, расступілася, але паранейшаму воддаль ад дарогі нічога нельга было ўбачыць. Коні ступалі жвава, ім таксама надакучыла падарожжа, і яны прыкметна імкнуліся наперад.

А ноч зачароўвала харастветвом. Струменіліраслінныя пахі, цёплай дрымотаю павяваў ласкавы ветрык, і ў недасяглай вышыні незразумелай мігатлівай музыкай трапяталіся зоркі. Дні стаялі спякотныя, з рэдкімі пераходнымі навальніцамі, ад нагрэтай зямлі за поўнач зыходзіла цеплыня. А раніцай збажына і даспелыя травы зіхацелі срэбнымі росамі, і ззялі ў доле іскрыстыя зоркі, нібы апаўшы з неба ўначы.

Захоплены думкамі, Максім не адразу заўважыў, што коні чамусьці прыцішылі хаду і нарэшце нерашуча спыніліся. Ездавы спрабаваў быў тузануць лейцамі, але гэта не падзейнічала, тады ён не замарудзіў злезці. Праз колькі крокаў перад ім у цёмным небе высіўся адзінокі крыж раздарожжа. Вузенькая дарожка дзялілася на дзве, і тыя, абышоўшы змрочнага «Ісуса», разыходзіліся ў розных напрамках.

Максім благім словам памянуў цёмную ноч і тое няладнае кола, што прымусіла яго блукаць немаведама дзе, мо' нават ужо ў тыле ворага. Максіму раптам стала боязна, ён хуценька ўскочыў на сваё месца і звярнуў улева. Але, не праехаўшы і сотні крокаў, ездавы спыніўся, падумаў і крута завярнуў назад паўз крыж, на другую дарогу. Цяпер ужо было відавочна, што абознік Максім Корань заблудзіў, адстаў ад сваіх, згубіў батальён, і хто ведае, куды выедзе ў гэтай цемры на незнаёмай мясцовасці. Зноў узнікла трывога, ды ўжо мацнейшая, чым першы раз, трывога і адчуванне страху, няўпэўненасці, калі няма яснай думкі ў галаве, а расшыраныя вочы імкнуцца пранікнуць у цемру.

І раптам зусім блізка наперадзе надрыўны вокліч скалануў цішыню. Ад нечаканасці спалохана захраплі коні, а ў Максіма, здаецца, адарвалася сэрца і жудаснае здранцвенне на якую секунду адабрала розум і сілы. Мімаволі сама па сабе шыбанула ў голаў страшная здагадка — немцы!

На другі такі ж вокліч Максім рвануў лейцы, — коні, адчуўшы нядобрае, паслухмяна кінуліся ўбок, але ў тое ж імгненне з цемры ўдарыла аўтаматная чарга. Максім адчуў толькі, як, лязгнуўшы па коле, рыкашэтам зыўкнула куля. Коні знянацку

рвануліся, а ён, не ўтрымаўшыся на краі сядзення, нязграбна бразнуўся з брычкі.

«Вось і ўсё, канец!»

Ні жалю, ні думкі, адно самотнае прадчуванне пагібелі ахапіла ездавога. Жах скаваў розум, цела апанаваў халодны панылы боль. Максім не катаўся, у смяротнай роспачы сутаргава ўпіліся ў імшыстую мякаць пожні яго вузлаватыя пальцы.

Без руху з паўхвіліны Максім усёй істотай чакаў апошніх стрэлаў, якія прыкончылі б яго, але стрэлаў чамусьці не было. Тады павалі пачала вяртацца развага.

Яшчэ не адчутае да канца нешта новае, падобнае на злосць, з'явілася ў яго настроі. Максім крануўся — моцна балела плячо і нага, але асаблівых пашкоджанняў, здаецца, не было. Ён хацеў ужо ўставаць, ды пачуў непадалёку таропкія крокі і цяжкае чалавечае дыханне. На зорным фоне відаць было, як зусім блізка, баязліва прыгнуўшыся, прабеглі ўслед коням дзве цьмяныя постаці. Максім адразу пазнаў гэтыя ненавісныя постаці: надоўга адбіліся яны ў памяці чалавека. «Яны ж забяруць фурманку», — шыбанула новая думка, і крыўда хлынула ў сэрца старога.

Праз нейкі час, калі крыху суняўся першы спалох, у пачуццях чалавека ўзнікла адчуванне адказнасці за свой абавязак салдата. Перамагаючы боль, ездавы павярнуўся на бок і дастаў з—за спіны вінтоўку. Рукі яго дрыжалі і ўсё не маглі зладзіць з тугім затворам, і наогул ён не ведаў, што зробіць зараз, толькі жаданне неяк супраціўляцца ўсё болей мацнела ў ім.

Максім узняўся і, згорбіўшыся, кульгаючы на правую нагу, падаўся ўслед за ворагамі. Зараджаную вінтоўку ён ухапіў за канец ствала і бяссільна цягнуў яе, нібы цяжкую і нязручную прыладу.

Збянтэжаны і ўзрушаны здарэннем, у гарачцы хвалявання ён дрэнна ўяўляў сэнс падзей і, бадай, трапіў бы ў рукі ворагаў, калі б тыя першыя заўважылі яго. Але гітлераўцы, злавіўшы напалоханых коней, пэўна, рашылі, што ездавы ўцёк, і, пачакаўшы крыху, павярнулі ў свой бок. Максім тады і сустрэў іх.

Адчуўшы спрыт і асцярогу, што раптам з'явіліся ў ім, ездавы адскочыў убок і прытуліўся да зямлі. Зноў перад ім, непрыкмечаным, прайшлі немцы: адзін вёў за павады яго коней, а другі, што ішоў ззаду, спыніўся і пастаяў, хвіліну прыслухоўваючыся.

Максім узняў вінтоўку. Яму з долу добра бачны быў варожы сілуэт, які чорным ценем засланіў край зорнага небасхілу. Максім наставіў стрэльбу на ворага, але стрэліць так і не адважыўся. У апошняе імгненне, калі трэба было ціснуць курок, смеласць пакінула яго. Задні гітлеравец, відаць, нічога падазронага не

ўчуўшы, сказаў нешта таму, што вёў коней, і яны абодва ўзлезлі на былое Максімава месца на возе.

Так ворагі, коні і фурманка з ротным дабром зніклі ў начной цемры.

Тады ездавы, абапёршыся аб дол рукамі, сеў на травяністай імшарыне побач са сваёй вінтоўкай і ўжо не спрабаваў стрымацца. Канчаткова ахапіўшая яго роспач выціснула з грудзей цяжкі, пакутлівы енк. Гэты енк, спалохаўшы ў цішы самога Максіма, нечакана абудзіў яго, прымусіў зірнуць на сяб е аднекуль збоку, вачыма другога чалавека, чалавека разумнейшага ў жыцці і мацнейшага ў барацьбе. Потым ён адчуў асуджэнне і дакор сабе, агідна бездапаможнаму ў такі рашаючы час. Цяжкія няўцешныя думкі, поўныя бязлітаснай насмешкі над сабой, паплылі ў немаладой яго галаве. Хоць і не першы раз у жыцці напаткала Максіма бяда, але гэтая была зусім іншага складу, чым усе пражытыя. Яна агіднай ганьбай заплявміла чалавечую яго вартасць, падсекла надзеі, дарэшты знясславіла ранейшае жыццё чалавека. Як было пасля такога здарэння ісці ў батальён, дзе кожны дзень паміралі людзі, маладыя і больш вартыя, чым ён? Як было жыць, калі пасля гэтага ўжо нічога не заставалася ў душы, апрача вечнай агіды да сябе?

Дык няўжо гэта канец? Няўжо толькі пагібель з'явіцца справядлівай збаўцай ад нясцерпных пакут? Чаму ж тады ён павінен так недарэчна, пагана памерці, а злачынцы-ворагі застануцца жыць і ўчыняць яшчэ не адну смерць добрым людзям.

Усвядоміўшы глыбіню сваёй бяды, ездавы зразумеў, што ёсць у ім нешта мацнейшае за звычайную чалавечую смерць. Пачуццё салдата паступова, але рашуча пачало браць верх, заглушыўшы ўсё іншае, асабістае, якое цяпер выявілася ў ім самым благім чынам.

Усё настойлівей з'яўлялася жаданне дзейнічаць, яно хутка аформілася ў намер і стала непахісным. І хоць вялікі быў яшчэ маральны боль, але на сэрцы ўжо палягчэла, і памалу пачало ўзнаўляцца ранейшае адчуванне злосці. Гэта вярнула сілы, і баец хутка ўзняўся, падхапіўшы вінтоўку.

Дзіўна нават было, адкуль узялося ў Максіма гэтулькі энергіі і спрыту, калі ён пусціўся наўздагон ворагам. Каржакаваты і нязграбны, ён шпаркім крокам сігаў па полі, то прыгінаючыся да зямлі, каб лепш бачыць наперадзе, то намагаючыся ступаць як мага хутчэй і цішэй. У гэтыя хвіліны ездавы ні аб чым не думаў і нічога не адчуваў, апрача ўпартага жадання дагнаць праціўніка.

Невядома, ці доўга ён гнаўся, як пашанцавала яму не збіцца з кірунку, але нарэшце ўбачыў Максім знаёмы сілуэт сваёй фурманкі з няпрошанымі седакамі на перадку. Тады ездавы, на колькі быў здольны, узброіўся хітрасцю і асцярогай, нячутна

зайшоў збоку і на хаду прыблізіўся да ворагаў. Яго выстаўленая наперад вінтоўка амаль кранала бліжняга немца. У грудзях моцна білася сэрца, здавалася, вось—вось гучна вырвецца сцятае дыханне і ўсё загіне. Немаладыя ўжо сілы байца падыходзілі к канцу.

Грымотны стрэл рускай трохлінейкі аглушыў усіх — і ворагаў, і Максіма. Крайні немец неяк бясшумна знік пад фурманкай, а другога Максім, дранцвеючы ад жаху, з усяе апошняй сілы выцяў вінтоўкай па галаве.

Далей усё пайшло з нейкім шалёным імпэтам. Максім, падхапіўшы лейцы, вялікім паўколам завярнуў фурманку і дзікім, несваім голасам гікнуў на коней. Ім, напэўна, перадалася ўзрушанасць гаспадара, бо без пугі і новых крыкаў яны так паімчаліся ў цемры, што Максім, паўмёртвы ад перажытага, з вялікім намаганнем трымаўся на возе, які цяжка кідаўся з боку ў бок, грукацеў і падскакваў. Баец зусім не ведаў, куды кіраваць, і ў выбары напрамку цалкам даверыўся коням. І коні імчалі без супынку, наўскасяк мяжыстых палосак шархатлівай збажыны, па глухой мякаці бульбянішчаў, пераехалі неглыбокі высахлы раўчук, асакаватую балацявінку і, нарэшце, непадалёку ад змрочнага лесу выбіліся на нейкую дарогу.

Максім тады спыніў фурманку, прыслухаўся і на поўныя грудзі ўдыхнуў пасвяжэлага падранак паветра. У правым вуху, нібы парваная струна, тоненька звінела ад стрэлу, ва ўсім целе, схаладзелым ад ліпкага поту, з'явілася млявасць, як пасля цяжкай шматгадзіннай працы.

Пачынаўся досвітак. Змрок парадзеў, на ўсходзе святлела неба, гасячы зоры. Наперадзе ля лесу пачуліся галасы, іх адразу пазнаў Максім — то былі свае.

Толькі тады раптоўна неяк зразумеў ездавы, якой вялікай бяды пашанцавала яму пазбыцца ўначы і як пакутліва далася яму маленькая перамога. Ён парадаваўся яшчэ, што ўсе жахі тыя засталіся ззаду, і, хутка губляючы сілы, моцна захацеў спаць. Мабыць, упершыню так выразна адчуў чалавек, што шмат ужо год за плячыма, а за гэтую ноч прыбавілася яшчэ, — бадай, з дзесяць.

1951

**Страта**

— Матузка, а Матузка! Аглух ты, ці што?

Над шэрай кучай зямлі пад плотам перасталі ўзлятаць угору дробныя камякі і паказалася аблезлая пілотка і кірпаты, апечаны сонцам твар.

— Лейтэнант кліча, не чуеш? — сказаў вусаты баец Піліпчук, які, пазвоньваючы медалямі, акопваўся побач.

Матузка зірнуў убок дарогі з вербнымі прысадамі, дзе, высунуўшыся з канавы, нешта махаў яму іх камандзір.

— Матузка!! — гукаў лейтэнант. — Бягом за вёску, перадай Галкіну, каб у лес цераз лагчыну не пусціў ніводнага фашыста. Сам пакуль што застанешся з ім. Давай хутчэй!

Калі загадана — трэба бегчы. Баец пашкадаваў крыху свайго ўтульнага сховішча, але што зробіш? Прыхапіўшы вінтоўку, ён спрытна выскачыў з акопчыка і, шмыгнуўшы пад жэрдку паламанага плота, апынуўся ў агародзе.

Летняе сонца ў бясхмарным небе ўжо з раніцы набрала сілу і моцна паліла прастор. Вялае бацвінне, не ачуняўшы за кароткую ноч, бяссільна ляжала на сухой зямлі; жоўклі і курчыліся на градах агурковыя калівы. Капуста і тая згарнула абмяклае лісце і зморшчылася, нібы пастарэўшы да часу. Шморгаючы ў агародніне загнутымі наскамі стаптаных ботаў, Матузка бег між градак і не азіраўся назад, дзе над выганам паспешліва акопваліся яго таварышы — байцы паходнай заставы, уранку напаткаўшай ворага.

Знарок дзеля маскіроўкі баец трымаўся гумнаў і агародаў, і хутка яму трапілася сцяжынка, якая вілася ля саду. Цераз паркан на абцяжараных галінах звісалі буйныя, яшчэ недаспелыя яблыкі, хлопец, па-дзіцячаму азірнуўшыся, на бягу сарваў адзін і памчаў далей. Рухавасці ў яго хапала, хутка неслі ногі, і заўзята, без роздуму, сігаў ён цераз высокія платы і драцяныя загароды. Першае самастойнае баявое заданне было прычынай яго незвычайнай энергіі і спрыту. Хоць Матузка і не першы дзень на вайне, але неяк здаралася, што яму не давялося трапіць у бой: усё выпадаў рэзерв або марш ці другі эшалон. Толькі вось сёння, здаецца, будзе нешта сур’ёзнае.

Так, па загуменнях і агародах, Матузка амаль ужо мінаў вёску. Захоплены ўласным спрытам і жвавасцю, ён на час забыўся пра пагрозлівыя абставіны, таму зусім нечакана для яго ўгары заверашчэла нешта страшнае і, страсянуўшы наваколле, грымнулі тры выбухі. Якраз у тым кірунку, куды трэба было бегчы, у адно імгненне знесла саламяную страху з хаты. У паветры мільганулі

кроквы, шматкі саломы, кавалкі коміна, і ўсё знікла ў гушчары садоў, толькі воблака пылу ціха паплыло ў блакітнае неба.

«Міны», — падумаў Матузка і здзівіўся, адчуўшы пад сваім целам цвёрдыя галінастыя сцяблы бульбоўніку. Падаць не меў ён намеру, а выйшла гэта неяк само сабой, неўпрыцям. Страшныя выбухі развеялі ўзнёслы настрой байца, але, каб не траціць часу і не напаткаць якой бяды, Матузка не стаў асабліва смуткаваць і яшчэ паскорыў бег.

* * *

Зрубленая з яловых вярхоў, счарнелая ад дыму і часу старэнькая лазня, у якой шмат гадоў мыліся людзі гэтай вёскі, набыла цяпер новае значэнне. Яна стала апорай непрыкрытага правага фланга, над якім навісла цяпер пагроза абыходу і які асабліва непакоіў лейтэнанта. Гэта было глухое месца наводшыбе, ля самага лесу. Вакол лазні густа і згодна лезлі ўгору і ўшыркі быльнёг, крапіва, дзядоўнік і іншая раслінная непатрэба, якой нямала развялося на спустошанай вайною зямлі.

Матузка абышоў лазню, але Галкіна нідзе не ўбачыў. Тады ён прыслухаўся і пачуў шамаценне галля: гэта кулямётчык маскіраваў свой акоп на ўзмежку пад лазовым кустом. Ён ужо акапаўся і цяпер старанна хаваў сляды свежай гліны, рассыпанай наўкола. Хлопец працаваў распрануты, у прапацелай бруднай майцы, а гімнасцёрка яго ляжала пад дыскамі побач з кулямётам на брустверы.

У паветры тым часам завылі новыя міны, і Матузка, не чакаючы запрашэння, скочыў у цесную ячэйку, якая ледзь змясціла дваіх. Трохі здзіўлены кулямётчык не вельмі прыязна агледзеў нечаканага пасланца. Гэта быў дужы і сур’ёзны хлопец, ненамнога старэйшы, але з выгляду куды мажнейшы за Матузку. Рысы яго твару вылучаліся той грубаватай буйнаватасцю, якая разам з некаторай панурасцю ў поглядзе рабіла яго старэйшым за свае, можа, і невялікія гады. А свежы кірпаты твар Матузкі, на пераноссі крануты рабаціннем, і тонкая постаць падлетка ўжо завельмі маладзілі яго. Такім чынам, розніца ў выглядзе двух байцоў, зведзеных вайсковым лёсам, была даволі прыкметная.

З хваляваннем выклаўшы загад лейтэнанта, Матузка чакаў, што Галкін паскардзіцца на цяжар новай задачы, аднак кулямётчык флегматычна заўважыў, гледзячы ўдалячынь:

— Вядома, не пушчаць, а то абыдуць.

Матузка хоць і бачыў раней гэтага байца, але мала ведаў яго. Галкін служыў у кулямётным узводзе, трымаўся заўсёды сваіх хлопцаў і толькі ўчора быў перададзены стралкам для ўзмацнення

галаўной паходнай заставы. Размаўляць жа ім давялося толькі першы раз, таму малады баец хацеў бліжэй пазнаёміцца са сваім часовым начальнікам.

Але Галкін маўчаў, і гэтая маўклівасць усё больш не падабалася Матузку. Ён пачаў здагадвацца, што кулямётчык сваёй негаварлівасцю хоча трымаць яго воддаль, маўкліва напамінаючы маладому салдату, што не час яшчэ ім раўняцца. І сапраўды, Галкін, які быў ад прыроды не лёгкі на слова, гэты раз і зусім не меў жадання пачынаць размовы. З раніцы яго дапякала незразумелая трывога.

Ён ведаў, што з правага боку няма больш нікога, усе сілы паходнай заставы згрупаваны на тым баку вёскі. Праўда, дагэтуль тут было спакойна, гітлераўцы паказаліся недзе на левым фланзе, спрабуючы, відаць, ударыць па дарозе, але хто ведае іх сапраўдныя намеры? На вайне трэба быць асабліва пільным, каб не даць ашукаць сябе, і Галкін, ладзячы пазіцыю, увесь час пазіраў у нізіну і прыкмячаў усё, што рабілася ў баку ворага.

Ад лазні на ўвесь прасцяг праглядалася нешырокая травяністая лагчына, якая падступала да вёскі. Справа, уздоўж лугавіны, цягнуўся па адхону ельнік, зараснікамі шырокага ўзлеску амаль даходзячы за ўпадзіны. Там, дзе палоска маладога алешніку заходзіць далёка ў нізіну, гітлераўцы могуць паспрабаваць прабрацца ў лес, каб абысці вёску з яе безабароннага боку. Кулямётчык ужо заўважыў у тым кірунку некалькі постацей, занятых невядома чым, і таму байцу было зусім не да размовы.

Прыціснуўшыся да халаднаватай сцяны акопа, Матузка таксама пачаў углядацца ў гэты небяспечны ўчастак. Вінтоўку ён паклаў на бруствер побач з кулямётам, але ў гэты час за вёскай затрашчалі рэдкія стрэлы, і баец падцягнуў яе да сябе. Галкін не зварухнуўся. Схіліўшы набок галаву, ён прыслухоўваўся да гукаў бою і сіліўся зразумець па іх, што адбываецца ў вёсцы. На яго заклапочаным твары не шмат адбівалася думак, аднак ніводная праява яго пачуцця не заставалася непрыкмечанай яго напарнікам.

Тым часам стралянiна ў вёсцы мацнела, і міны пачалі рвацца часцей і бліжэй. Матузка ў акопе хоць і не вельмі баяўся, але, не ўмеючы яшчэ валодаць сабою, уздрыгваў пасля кожнага выбуху. Толькі ўпэўніўшыся, што міны не набліжаюцца больш да лазні, ён перастаў турбавацца. Хлопец з радасцю адзначыў гэтую перамену ў сабе і падумаў, што прывыкае.

Праз якую гадзіну бой за вёску пачаў сціхаць. Аўтаматы і вінтоўкі змоўклі, толькі кулямёты яшчэ пускалі доўгія чэргі па далёкіх цэлях. Відаць, першая атака гітлераўцам не ўдалася, і цяпер трэба было чакаць другой.

Трымаючы кулямётны прыклад ля пляча, Галкін не зводзіў вачэй з нізіны — і не дарма. Накапіўшыся ў раўчуку злева, гітлераўцы высыпалі ў нізіну і, выстройваючыся на хаду ў няроўны блытаны ланцуг, кінуліся да лесу. Галкін пачакаў, пакуль усе высыплюць на адкрытую мясцовасць, і пусціў доўгую чаргу.

Ад першых стрэлаў кулямёта Матузка ўздрыгнуў, мацней сціснуў сваю вінтоўку, але стрэліць не здолеў. У яго зашчымела ў грудзях, млосць разлілася па целе. Цяпер толькі ён адчуў і зразумеў упершыню, што вось пачалося тое, да чаго ён рыхтаваўся гэтулькі часу. Узрушанасць была моцная, яна хваляй уварвалася ў душу маладога салдата, але хутка і прайшла. Барацьба, у якую ўжо ўступіў юнак, патрабавала яго непасрэднага ўдзелу, не лічачыся з настроем, і Матузка зразумеў гэта. Прыклаўшыся да вінтоўкі, ён убачыў ля мушкі многа маленькіх фігур, якія паднімаліся, беглі і падалі. Побач страляў кулямёт, і неяк у такт яго стрэлам ці мо ў такт сэрцу, сціснутаму ў грудзях, ва ўсе бакі хадзіў ствол вінтоўкі, не даючы прыцэліцца. І ўсё ж Матузка выбраў момант, зацяў дыханне і стрэліў. Потым яшчэ і яшчэ...

Нечакана сустрэтыя кулямётным агнём з фланга, гітлераўцы спачатку кінуліся наперад, а потым прыцішылі бег. Многія з іх пападалі на лугавіну, іншыя, змяшаўшыся, пачалі бязладна бегчы назад у раўчук, адкуль толькі што выйшлі. Наўздагон ім Галкін апаражніў дыск і вылаяўся, не стрымаўшы злоснай радасці.

Матузка ўслед за кулямётчыкам з прыкметнай неахвотай пакінуў страляць і паклаў на бруствер вінтоўку. На яго твары ззяла такое шчырае захапленне першым поспехам, што Галкін не ўтрымаўся ад усмешкі і, мімаволі паддаючыся настрою памочніка, амаль весела запытаў:

— Ну, як?

— Адбілі, — проста адказаў Матузка. Кулямётчык выцер пілоткай узмакрэлы лоб і, нібы скінуўшы з плячэй які цяжар, зморана ўздыхнуў.

— Нічога, братка, — цёпла сказаў ён, адклікаючыся, відаць, на нейкія свае думкі. — Як-небудзь. Давай папоўнім дыскі.

Ён узяў з—пад ног рэчавы мяшок, наладаваны патронамі, і развязаў лямкі.

— Патронаў, здаецца, хопіць, а вось хлеба няма. Прыйдзецца патрываць пакуль што.

— У мяне ёсць крыху, — азваўся Матузка, узрадаваўшыся, што чым-небудзь можа ўслужыць старэйшаму таварышу.

— Давай тады заадно падмацуем і жываты, каб весялей жылося. Цябе як завуць?

— Мікалай, — паведаміў Матузка.

— А мяне — Змітрок.

Усё ўсміхваючыся, Петрачэнкаў падышоў да людзей, агледзеў малога, якога ўсё варушыў інжынер, здаецца, упершыню з цікаўнай павагай паглядзеў на Фрузыну. Праўда, ён не дакрануўся да яе сына, але ад яго зважлівасці ў Фрузыны паспакайнела ўнутры.

— Ну, што ж, чалавек, канешне, факт, гэта безумоўна, — паводзячы блішчастымі акулярамі, зазначыў ён і, яшчэ, паўсміхаўшыся, дадаў, кажучы Фрузыне: — Вы вось што, Сямашка... Напішыце заяву ў мясцком... Рублёў гэтак на трыста... І яшчэ дырэктар сказаў, на яго «Пабедзе» адвязуць вас. Так што пехатой не ідзіце.

І Фрузына нечакана адчула, як разлілася па яе целе хваля нейкага цёплага шчымлівага пачуцця. Хвалюючыся і ўжо не збіраючыся супакойваць сябе, яна ўпершыню начала спавіваць таго, хто здабыў ёй гэткую прыхільнасць людзей. Драздова гэты раз адступілася ад жанчыны, не памагала, толькі пільна назірала за яе яшчэ няўмелымі рухамі, тоячы на вуснах ледзь прыкметную ўсмешку. Шырока і шчыра, бы разумеючы штось таемнае, усміхаўся Шаўроў, спагадлівая весялосць свяцілася ў марудлівых вачах Ганкі і на тварах дзвюх прыбіральшчыц. Адна толькі Нонка чамусьці згубіла сваю нядаўнюю радасць, спахмурнела і, насупіўшы тонкія броўкі, патупілася.

Ап'янелая ад вялікага шчасця, Фрузына, аднак, не прыкмячала нічога, старанна затульвала малога і сарамліва ўсміхалася. Упершыню за шмат год жыцця адчула яна сябе чалавекам — нароўні з усімі людзьмі.

*1958*

## Ціхманая жонка

Зімовы дзень кароткі, як зайцаў хвосцік. Не паспее развіднецца, і ўжо хіліць на адвячорак. А калі мала часу, заўжды знойдзецца шмат спраў, і тады ўжо не мінуць ночы.

У Юзіка Паддубка спраў было многа. Пакуль атрымаў трыерныя сіты на базе Сельгасзбыту ды купіў сёе-тое ў крамах, дык ужо на вуліцах загарэліся агні. У прыцемках хлопец выехаў з горада, узбіўся на гасцінец і паціху падаўся ў сваё Зарэчча.

...Конік рухава бяжыць па знаёмай дарозе, візгоча, рыпіць снег пад палазамі, плывуць, паварочваюцца па баках бялявыя, далікатна ахінутыя змрокам палі. Мароз нанач патроху ўбіраецца ў сілу, пашчыпвае Юзіка за вушы, але той цярпліва трымае форс і не развязвае шапкі. Дый што той мароз, калі ў душы хлопца столькі мараў-летуценняў, такіх далёкіх ад гэтай зімовай дарогі! Нездарма ж ён паехаў у горад за тымі сітамі — былі і яшчэ клопаты. І як ім не быць, калі ў хлопца праз тыдзень вяселле, а там... А там гэткае шчасце, што аж не верыцца, не ўяўляецца нават...

І раптам над Юзікавай галавой — бесцырымонны конскі храп, ажно цёплай парай патыхнула за сцюдзёны каўнер. Амаль налезшы на хлопцавы сані, конь так і не збіраецца збочыць, абмінуць, а толькі бразгае цуглямі ды шумна пыхкае ў воз. Неўзабаве, аднак, з фасоннага вазка саскаквае на дарогу сядок — спрытны мужчына ў расшпіленым чорным кажушку і валёнках. Паляпаўшы рукавіцамі, ён крычыць спадарожніку;

— Гэй, закурым, браток?

Ён даганяе Юзікавы сані і, па-качынаму валюхаючыся ў бакі, спорна крочыць побач.

— А я выехаў поначы, гляджу — нідзе нікога. Во, думаю, самота будзе аднаму. Ды вось дагнаў цябе,— жвавым тонам гаваркога, шчырага чалавека кажа незнаёмец. Ён на хаду прыпальвае папяросу, пстрыкае ў снег агеньчык запалкі. Юзік насупіўся, маўчыць, не дужа задаволены ўтаржэннем у яго мары.

— Ты адкуль будзеш? — проста пытаецца чалавек.

— З Зарэчча.

— З Зарэчча? А чый там? А, Петрусёў. Ну, ну, ведаў калісь. Бацьку, вядома, не цябе. Што, ужо сямейны ці нежанатым ходзіш?

— Ды не яшчэ, нежанаты,— сарамяжліва ўсміхаецца Юзік і па нейкіх няўлоўных рухах душы спадарожніка адчувае, што таго поўніць добрае, лёгкае пачуццё, якое і прывяло яго да Юзікавых саней. І сапраўды, чалавек, як да знаёмага, адразу прыладжваецца да хлопца. Конік яго рупліва тупае ззаду, а чалавеку карціць усё гаманіць, выказаць сваё.

— А я, браце, вунь жонку адвёз... У горад — на вазку, а там у «Победзе» паехала — на сустрэчы выступаць. Кандыдат, брат, жонка, — з прытоеным гонарам паведамляе незнаёмец, і Юзік здагадваецца, што гэта і ёсць прычына яго радасці.

Юзік — маўчун, ціхманы, нетаропкі. З такім цяжка весці размову, але затое ён скарб для тых, хто сам любіць расказваць, успомніць ці проста падзяліцца сваім. Незнаёмец, відаць, адчувае гэтую рысу ў хлапечым характары і ўжо не можа ўтрымаць у сабе таго, што так поўніць яго цяпер.

— Ось, браце, каб ты ведаў, і нарабіла мне жонка клопату — і клопату і дзіва — усё адно да аднаго. Быў гаспадар, муж, галава сям'і, так сказаць, а стаў чорт ведае хто.

— А што? — зацікавіўшыся, пытаецца Юзік. Чалавекаў кажушок матляецца поламі ля Юзікавага твару, пахрумствае снег пад валёнкамі. Чалавек ступае спорна, ёмка і ў такт кроку сюды—туды паводзіць плячыма.

— Ды вы сядайце, чаго там,— прапануе Юзік.

— От, браце, і сам дзіўлюся, як усё выйшла, — кажа новы сядок, размашыста ўвальваючыся ў Юзікавы сані.

Хлопец трохі пасунуўся на край, побач адразу моцна запахла аўчынай і духмянасцю папяроснага дыму. Зблізку Юзіку добра відаць чалавекаў твар — паголены, ужо немалады, пасівераны і скуласты — рухавы твар бойкага, недурнога чалавека.

— Ведаеш, я нават атарапеў крыху. Думаю, мо' які недагляд, непаразуменне, вельмі ўжо крута ўсё. Была жонка, баба, значыць, ну там даярка — гэта зразумела, як і мае быць. А цяпер — хто ведае што? І як усё атрымалася — падумаць толькі! — Ён з задавальненнем смяецца і рухава ляпае сябе па сцягне рукавіцай. — Мая Фроська — і на табе: ардэнаносец — раз, герой — два, кандыдат — тры! Во як.

У словах чалавека — здзіўленне, павага і нястрымная, няўрымслівая радасць,— тая светлая добрая радасць за жонку, якая часцяком хаваецца ў мужчын за зухаватай знешняй грубаватасцю. Але радасць — не гора, яе не схаваеш у душы, радасць імкнецца к людзям.

Юзік сціпла ўсміхаецца ў паўзмроку ночы, але незнаёмец не бачыць таго. Адкінуўшыся на локаць, ён патыхае ў марознае паветра пахучым дымком і ўсё апавядае пра тое, што рвецца цяпер з яго душы.

— Ведаеш, я і сам не які-небудзь доўбень. У вайну ў войску служыў — вярнуўся з ордэнам і трыма медалямі. Вярнуўся — дома пашана і павага. Усе, ведаеш, з роспытамі: што і як? Многа ў каго ў вачах — сам бачу — завідкі гарэць, усё мае ўзнагароды мацаюць. Ну, гарэлкі папілі, значыць, павесяліліся — трэба і за працу

брацца. А ў калгасе, брат, блага — ні коней, ні хлеба, паўвёскі спалена. Кажуць прыяцелі: што ты тут будзеш пэцкацца — ты ж заслужаны чалавек, гэта мы ўжо нікудыкі, дзе дзявацца? І праўда, думаю, хіба я раўня гэтым дамаседам: Берлін браў, паранены, узнагароджаны. Ну, і падаўся я ў МТС, па тэхнічнай, значыць, лініі. МТС недалёка, вярсты тры. Кожнага ранку сняданак у кішэню — і на працу. Кіцель з медалямі на відным месцы ў хаце павесіў, каб бачна было, што за гаспадар тут. А дома маці адна старая. Цяжка ёй, вядома. Кажа аднойчы: жаніўся б — пара ўжо. Думаю: сапраўды пара. Але вось толькі з кім тут ажэнішся? Дзевак-то многа, а адной, той самай, якой трэба, і няма. Але ўжо, як кажуць, калі парупіць, дык мусіш. Прыгледзеўся я — у эмтээсе ў нас рахункаводка Жэня, зграбная такая дзеўка, і апрануцца і язык пачасаць — во якая хвацкая. Ну і ў вёсцы яшчэ была ў мяне, да вайны калісь вадзіліся трохі — Фрося. Гэта, брат ты мой, якраз супрацiўніца той, эмтээсаўскай. Такая сарамяжная, ціхманая, у калгасе робіць, і больш нічога аб ёй не скажаш. Думаў я, думаў і не ўцямлю, да якой больш сэрца цягне. Хацеў ужо быў да Жэні прыставаць — байчэйшыя яны хутчэй галаву ачмураць. Ды гляджу аднойчы — наш Сёмка-шафёр неяк дужа блізка ля яе круціцца, і яна яму, увакурат, як і мне, вочкі закочвае. Узяла мяне злосць — я ж табе пакажу. Раз-два з Фроськай згаварыўся, і акурат на Дзень танкістаў — у загс, распісаліся.

Над заснежанымі палямі ў зорным мігатлівым небе аднекуль з’явіўся ўжо вузенькі сярпок месяца. Ён не свеціць, а толькі пазірае ў цьмянае зімовае наваколле і ўсё бяжыць, бяжыць кудысьці навыперадкі з двума фурманкамі на дарозе, нібы таксама слухае, зацікаўлены развражнай чужой радасцю. Юзік усё маўчыць, але слухае чуйна — яго сэрца вунь як убірае ў сябе тыя незнаёмыя справы чалавека.

— Давай закурым,— зноў прапануе сядок, шчоўкаючы ў руках самаробным дзюралевым партабакам.— Не курыш? Ну, ты, браце, зусім як дзеўка. Дык слухай тады, спатрэбіцца можа...

Ён прыкурвае з прыгаршчаў, асвяціўшы пасіверaны нос і натапыраныя бровы, гойкае на свайго коніка, які трохі адстаў ад саней, і смачна зацягваецца.

— І вось, браце, стаў я, значыць, жанатым чалавекам. Спачатку дзіўна гэта з непрывычкі — жанатым зрабіцца. На працы — нейкая новая сур’ёзнасць, бы гадоў прыбавілася ці на пасадзе павысілі. Жонка здаецца гэткай ладнай, добрай, успамінаеш што-кольвечы, ну і марыш пра рознае. Але зноў жа і нязручнасць — дзеўкі ўжо без увагі да цябе, бы ты які вышчарблены стаў. Пажартуеш ці ўшчыпнеш там — адразу адвод — не для цябе, кажуць: жонка ёсць. І вось прыйдзеш дадому, а там

— новы чалавек у хаце, глядзіш, цікавішся: што, як. Дагэтуль жа не бачыў так зблізку ў жыцці, ды мо' не звяртаў увагі, а цяпер у адной хаце ўсё відно. А трэба табе сказаць, чалавек я не злосны, але строгасць паважаю. Бацька быў строгі, потым сам я ў войску сяржантам служыў, там ужо камандзірская строгасць у кроў улелася — не люблю зважаць. Ну, і да жонкі я таксама без паблажкі. Што дзе не так — кажу напрамкі: вучыся, слухай — на тое й муж, каб дагаджаць яму. Спачатку яна — слязу на вочы, а потым нішто, прывыкла. Вядома ж, хто яна? Вясковае дзяўчо, а я ўсё ж аўтаслесар, тэхнічны чалавек, дый на людзях пабыў, пабачыў сёе-тое.

Так і жывём. Нарадзілася дачка Нюрка, пахаваў маці. Я ўсё ў МТС, а жонка пад восень на ферму даяркай уладкавалася. Гляджу — дрэнь справа. І днюе, і начуе там, а тут прыбяжыш з працы — на дзвярах замок. Вячэры няма, дачка ў суседзяў ці ў цешчы. А ведаеш, як гэта прыкра, калі ў дом позна вернешся, а жонкі няма. Гэта, браце, адна злосць ды нерваванне. Бегай па вёсцы, як пабіраха, збірай сям'ю, палі ў печы. Надакучыла мне гэта, уз'еўся я на Фросю, кажу: кінь к сабакам тую ферму — мне жонка патрэбна, гаспадыня, а не даярка. Дрэнь жывецца, а тут яшчэ радня, асабліва цётка Яналіха — ведзьма-баба, скажу табе, — шапоча ўсё пры сустрэчы: на каго ты падобны стаў, рубашка брудная, схуднеў, навошта, браў такую — негаспадарлівая, неруплівая, каровіна паслугачка. ЦІ такая табе трэба, сам мужык такі відны,— муціць чорт душу. Ужо хацеў быў кінуць, развясціся, ды дачка ўтрымала. Іншы раз сваруся, сваруся, кулаком аб стол грымну, якую міску жалезную аб падлогу бразну, а жонка ўсё маўчыць — хоць ёй што. Маўчыць, а потым, нібы нічога і не чула, гэтак спакойна: «А Красаўка сёння ацялілася — бычок во які ладны». Эх, ты, гора сяміногае, думаю, што ты з ёй зробіш? Калі б хоць яна сварылася, даказвала, ужо я даў бы ёй, а то ціхманая такая, маўклівая. Ну і адлегла пакрысе маё сэрца. Прывык. Кінуў у яе справы мяшацца, стаў і печ паліць, і сняданак сабе гатаваць, а болей без снедання абыходзіцца. Думаю: хай! ві свае жылы, можа, сама сабе дакажаш, калі я не даказаў.

— Ну, а як жа тады: кахалі яе ці не? — стрымана запытаўся Юзік. Сядок, не чакаючы, відаць, гэтага пытання, памаўчаў крыху, бы ўспамінаючы штосьці.

— Ды ну: кахаў... Не ведаю, ці кахаў, ці не. Так, шкадаваў, гэта было. Як пагляджу на яе рукі, распухлыя, парэпаныя, гэткія балгочыя, шкада робіцца. Аднойчы ўвечары мыла яна бялізну, а я ўсё бурчаў, бурчаў ды не вытрымаў. Ці ведаеш, адабраў у яе начоўкі ды ўзяўся сам. Не рукі, а гора адно. Не жарты — дзесяць кароў і дагледзець, і накарміць, і выдаіць — і ўсё ў макраце, у

холадзе — немінучы раматус. Ды яшчэ з гэткім яе характарам — сябе не пашкадуе, здароўе паложыць, а зробіць як трэба. І зрабіла. Спачатку на Дошцы гонару апынулася, потым — на выстаўцы ў Маскве. Ну, думаю: давай, давай, баба. А сам, папраўдзе, гляджу на гэтыя яе поспехі, як на забаўку якую. Падумаеш там — за малако медаль нейкі бронзавы. У людзей срэбных ды залатых колькі, ды за якія справы! Пасля сталі да яе з вобласці ездзіць — усё на ферме глядзелі нешта, выпытвалі, вымяралі. Яна ўсё расказвае, часам дома каго прымае, якога карэспандэнта. Я не звяртаю ўвагі. Аддзяліўся, так сказаць, ад яе службы — свая шыю пілуе.

Над дарогай плыве зорная, мігатлівая ноч. Маладзічок усё лезе на неба вышэй і вышэй, у полі панурыліся, сціхлі заснежаныя дрэвы, хмызняк. Хоць і ноч, а відно далёка, ледзь не да самага краявіду. Гасцінец бяжыць роўны, доўгі і далёка наперадзе, бы агромністы полаз, загінаецца на ўзгорак. Раптам над тым узгоркам бліснулі і ўперліся ў неба стромкія промні сустрэчнай машыны. Праз момант, стрыгануўшы ў густой нябеснай сіні, яны падаюць ніжэй і ўрэшце бліскучай плямай кладуцца на дарогу. Машына хутка набліжаецца, асляпляе седакоў, залівае дарогу густым святлом фар.

Незнаёмец хуценька саскаквае з саней, каб скіраваць убок свой вазок, Юзік прытрымлівае каня, углядаючыся з—пад далоні ў грукатлівы рухавы сілуэт. Нехта адтуль, з машыны, гучна крычыць:

— Прывет, Нядзвецкі! Віншаванне! Заўтра твая ў нас выступае…

Юзіка абдае снежнай віхурай, і машына мінае іх. Спадарожнік бліжэй падганяе свайго каня і зноў валіцца ў Юзікавы сані.

— Андрэй з «Кастрычніка», — паведамляе ён.— Ваявалі разам. Пазнаў, глядзі. А ўжо даўно не бачыліся. І пра жонку ведае,— з усмешкай кажа чалавек і з хвіліну задуменна пазірае на дарогу, дзе яшчэ гудзе машына.

— Гэта, брат, так, — кажа ён далей хлопцу. — Другая жонка за мужавай спіной, як за печчу, жыве, а мая вось, як бачыш, на мяне сваю славу наводзіць. Вось табе і баба… Дык дзе гэта мы спыніліся? Ага, значыць, прышылася мая Фроська да фермы, як гузік да світкі. Там бы і спала, і ела, калі б сям’і не было. Мала што ўвесь дзень працуе, яшчэ розных кніжак напрыносіла — чытае ўсё па вечарах, нешта выпісвае ў сшытак. Тут ужо я зноў не ўтрываў, кажу: не дужа зарывайся, не лезь на чужое седала. Робіш, ну і рабі сабе, а навошта па начах яшчэ сляпіцца? Прызнацца, я да кніжак не дужа ахвочы. Ну там «Дапаможнік аўтамеханіку» ці «Кіраўніцтва

па рамонце» — гэта вартыя кніжкі. А другія там што — лухта адна. І вось прачнуся сярод ночы — святло гарыць, і яна над сталом гнецца. Я тады ўстану ды кніжку — у кут, і лямпу патушу. Патушу, а яна запаліць, зноў патушу — зноў запаліць. І маўчыць, не сварыцца, але ўпартая, як той мядзведзь ля вулля. Кажа: без навукі і карову не падоіш. Ну і сядзіць да другіх пеўняў, вылічвае на паперцы тыя свае рацыёны. І праўда, ці ад таго, ці па якой іншай прычыне, а кароўкі яе болей сталі малака даваць. Адна дык нават па пяцьдзесят літраў у дзень давала — во як! Ферме — слава, калгасу — пашана, і даяркам, вядома, добрае слова. Тут ужо я трохі змякчэў, стаў прыглядацца да свае жонкі. Што, думаю, за такая: дзесяць год жыву, а што ў яе душы — толкам не ведаю. Гляджу калі — гэткая невялічкая і не надта прыгожая з аздобы — пастарэла ўжо — нос кірпаты, нічога няма ў ёй — звычайная баба. Адкуль, думаю, упартасць тая? І ведаеш, даўмеўся. Аднойчы ўжо засынаю ўначы, думаю ўсё. Яна за сталом сядзіць над паперамі, і мне раптам стукнула ў голаў: ад працы ўсё ў яе, бо змалку яна смак да працы мае. Сапраўды: навукі не дужа многа — сем класаў, і ўсё жыццё — у працы. Вось так мазалём і дайшла да плёну. І слухай, брат, самае галоўнае вось будзе.

Аднойчы пасля новага года прыходжу з МТС — на дзвярах замок. Ну гэта справа не новая,— дастаў з—за шула ключ, адчыняю. У хаце ўсё прыбрана, вячэра згатавана і на стале — запіска. Сэрца ў мяне так і ёкнула — першы раз за ўсё жыццё. Думаю, ці не кінула часам, аж злякаўся. Чытаю: дарагі Хвядоска, паехала ў Мінск на нараду. Скараспешна выклікалі. Есці — там і там, Нюрка — у бабы. Вось, думаю, і дачакаўся. І тады ўпершыню, браце, зразумеў я, што мая Фрося пераскочыла мяне, перарасла неўзаметку, цесна ўжо ёй у мужавай хаце. А хіба стрымаеш? Не стрымаеш. І я, ведаеш, прыціх і скарыўся. Ну вось і вяртаецца — і што думаеш? З Залатой Зоркай і ордэнам Леніна. У калгасе дзіва, людзей поўна хата, прыязджаюць, прыходзяць, адбою няма. Роспыты, віншаванні. Аказваецца, сам таварыш Хрушчоў уручыў тую ўзнагароду і руку пацiснуў і казаў штосьці маёй Фросьцы, толькі яна ўжо не памятае што — з радасці забылася ўсё чыста. Паглядзеў я на гэтую справу ды і зняў са сцяны свой вайсковы кіцель з медалямі: павесіў у шафу. Якія ўжо там медалі, калі такая ўзнагарода ў хаце завялася — і ў каго, падумаць, — у маёй ціхманай жонкі Фросі. Вось, брат, як выйшла! А цяпер яшчэ і кандыдатам у Вярхоўны Савет вылучылі, афішы расклеілі з партрэтамі і біяграфіяй. Вунь выступаць будзе, паехала ў вобласць.

Чалавек памаўчаў крыху і, усміхнуўшыся, зноў хапаецца за свой партабак у кішэні.

— Вось, браце, як выйшла,— бадзёра дадае ён і смяецца. Радасць і ціхае захапленне блізкім чалавекам зноў пануе ў яго настроі, і калі ёсць там доля зайздрасці, дык зайздрасці добразычлівай і зважлівай, а болей — гонару і стрыманага мужчынскага шчасця.

Неўзабаве Юзіку трэба зварочваць з гасцінца на вузенькую дарожку, і Нядзвецкі саскаквае з саней. Ён дзякуе за ўвагу, адвязвае ад передка лейцы і апынаецца на вузенькім сядзенні ў вазку.

— Вось, браце, жэнішся — пазнаеш фунт ліха. Але будзе і шчасце, чакай.

Маўчун Юзік не адказаў нічога. Над прыціхлымі соннымі прасторамі загадкава і няспынна варушацца зоры: бы разумеючы што, жмурыць блішчастае вока месяц. Хлопец уздыхае і доўга думае пра сваё будучае і, папраўдзе, вельмі хочацца яму хоць і труднага, але вялікага шчасця, такога, як у гэтага нечаканага начнога спадарожніка.

1957

## **Няўломак**

I

У яго добрае імя — Косця, прыгожае прозвішча — Верас, а людзі клічуць Няўломкам. Калі ён быў яшчэ малы і жыў у вёсцы, тады яго звалі Рудым. Гэта, пэўна, таму, што ў Косці агністыя валасы і поўны твар густога рабаціння. Рабацінне тое крыху прытухае ўзімку, а пад весну разгараецца такой яркай чырванню, што хлопцы на рыштаваннях жартуюць калі; «Няма запалак — прыкурым з Няўломка».

Недарэчную гэту мянушку прыляпіў да Косці Правіла. Ён сапраўды гэткі ж доўгі 1 тонкі, як тая рэйкаправіла, якой муляры раўняюць цагліны ў радзе. Яшчэ ён злыдзень, бо не можа пражыць гадзіны, каб не пакрыўдзіць слабейшага. Яго многія пабойваюцца, многія абходзяць, а Косця дык ненавідзіць. Правіла плаціць яму тым жа, але хлопцу пляваць на яго адносіны: ён умее пастаяць за сябе. Калі б яшчэ гэткі быў Федзька, Косцеў аднавясковец і сябра, дык ім бы і не блага жылося. Але ў тым і бяда, што Федзька ціхманы і завельмі ўжо мяккі хлопец.

Вось і цяпер, доўгі і тонкі, як балотны хвошч, у расхлістанай на грудзях кашулі з’явіўся ў калідоры Правіла. Кашулю ён не зашпільваў, каб людзі бачылі цяльняшку, што ўзімку і ўлетку пярэсціць на яго грудзях. Косця ведаў, што гэта нават не цяльняшка, а толькі шкумат, які Правіла мацуе на целе шпагатам. Што з гэтага карысці — няўцям нікому, хіба толькі Правілу ямчэй хваліцца сваёй колішняй флоцкай службай.

Правіла спыніўся ў дзвярах, закурыў і хцівым позіркам вузкіх вачэй пачаў аглядаць чаргу. Чарга не дужа вялікая, але гаманкая і мітуслівая. Чалавек з трыццаць муляраў, тынкоўшчыкаў, арматуршчыкаў, цесляроў прыперліся да сцяны ўздоўж калідора, гаманілі і ціснуліся наперад. Некаторыя без чаргі лезлі і штурхаліся ля маленькага закратаванага акенца, застаўленага разлінаванай фанерынай, мабыць, ад якой-небудзь дошкі паказчыкаў. У гэтай фанерыне ўнізе — маленькая дзірачка, у якую толькі пралезе рука, каб чыркнуць у ведамасці і ўзяць грошы. У калідоры адны хлопцы. Дзяўчаты часам паказваюцца ў дзвярах, нясмела зазіраюць у гэты гоман і скарэй уцякаюць назад. Уцякаюць, бо Правіла ці яшчэ хто з гэткіх жа языкастых нахабнікаў не зазяваюцца і адразу ўсмаляць жарт, ад якога дзяўчыне адзін паратунак — уцячы.

Сціснуты спераду і ззаду і падпёрты сцяною, Косця цярпліва чакаў свае чаргі. Нахмурыўшы бровы, хлопец неўпрыцям пазіраў у парог, дзе, заклаўшы ў кішэні рукі, усё шныпарыў па людзях Правіла. Ён даўно ўжо атрымаў сваю палучку (без чаргі, вядома), збегаў, відаць, на рог спатоліць прагу, і цяпер яшчэ нешта трэба

гэтаму злыдню. Косцік здагадваўся, каго выглядваў Правіла, і хлопцава нутро напаўнялася абурэннем.

— Федзька, — крыкнуў ён сябру. — Федзька, гэй!

Федзька быў ля самага акенца. На вокліч таварыша ён павярнуў белабрысы, круглы, заўжды з усмешкаю твар і моўчкі глянуў на сябра сваімі дзявочымі прыгожымі вачыма.

— Федзька, чакай мяне. Чуеш?

Пэўна, хлопец пачуў, але не адказаў нічога. Не адказаў, вядома, таму, што па калідоры да чаргі, раздзімаючы тонкія ноздры, ужо падыходзіў Правіла. Ён спыніўся збоч Косці, прыплюшчыў праз дым сваё хцівае вока і, не вымаючы з зубоў папяросы, ляніва спытаўся:

— Яшчэ морда цэла? Га?

— Не палохай, — спакойна адказаў хлопец. — Няма чаго абіраць людзей.

— Ага, так, Няўломак?

— Так.

Правіла яшчэ пажмурыўся з хвіліну, нібы згадваючы, што зрабіць гэтаму хлопцу, а потым, паводзячы з боку ў бок кашчаватай хрыбецінай, выйшаў на двор.

Чарга пасоўвалася марудна, хлопцы пацелі, штурхаліся ля акенца, цяжка было пралезці туды, але не лягчэй і вылезці. Ужо не адзін гузік, звонка цокаючы, каціўся ў кут па бетоннай падлозе. Але што там гузікі — сёння ўсе былі багатыя і вясёлыя, і хоць балелі бакі, але смяяліся твары, і ніхто не сварыўся.

Неўзабаве, адштурхоўваючыся ад людзей, нібы тыя не хацелі выпушчаць яго, вылез з натоўпу і Федзька. Яго шэрая кепачка нейкім цудам трымалася на патыліцы, хлопец аберуч прыціскаў да грудзей свой двухтыднёвы заробак.

— Глядзі ж, чакай мяне. Разам пойдзем, — папярэдзіў Косця.

Федзька кіўнуў галавой і адступіў на вальнейшае месца.

На дварэ наступаў вечар, і ў калідоры патроху цямнела. Недзе, змагаючыся з хмарамі, раз—пораз заглядвала ў акно сонца, і на сцяне пад столлю нядоўга, але ярка ззяла касабокая латка святла. Пакрысе яна ўсё менела і, нарэшце, знікла зусім. «Хоць бы не зачыніўся магазін,— занепакоіўся Косця. — Ну ды цяпер ужо хутка...». Яшчэ міне трохі часу, і ён атрымае палучку, заробленую жорсткімі, збітымі цэглай рукамі, і пабяжыць у ювелірны магазін. Там ён даўно ўжо аблюбаваў сабе жаданую пакупку — наручны гадзіннік «Кама» — дзівосную штуковіну з чорным цыферблатам і фосфарнымі лічбамі. Уначы, калі выключаць у інтэрнаце святло, яны будуць ціха свяціцца роўнымі зеленаватымі агеньчыкамі, бы тыя светлячкі на трухліне. Прачнешся, зірнеш — адразу відаць, колькі яшчэ спаць, ці скора ранак. На будоўлі таксама стане вунь

як зручна, заўжды відаць, якая гадзіна, не трэба будзе чакаць гудкоў ці, задраўшы голаў, пытацца пра час у кранаўшчыцы Зінкі.

Чым бліжэй да акенца, тым цясней рабілася ў чарзе. Хлопцы бясконца штурхаліся, і ўсё таму, што адны стаяць гадзінамі, чакаюць, а другія пнуцца атрымаць адразу.

Вядома, гэта ўсё зубастыя ды хвацкія, і ніхто не дасць ім добрага адпору.

Адзін з такіх — Шпур, мурласты і рукасты дужака, заўсягдашні Правілаў хаўруснік. Рассоўваючы людзей локцямі, ён пралез да акенца і атрымаў грошы. Хлопцы бурчалі, але ціснуліся, саступалі з дарогі, і ніхто як след не дапёк гэтаму нахабніку. Адзін толькі Косця не хацеў зважаць і, хоць з выгляду быў зусім блазан супраць баксёрскай постаці Шпура, злосна кінуў з чаргі:

— Хлопцы, нашто пушчаеце? Хай бы пастаяў, падумаеш, цаца!

Шпур азірнуўся на голас, паказаў кулак і падаўся сабе ў дзверы. Косця пашкадаваў толькі, што не дадзена яму болей сілы — ён правучыў бы нягодніка як след.

Але вось і яго чарга. Хлопец нетаропка і роўна вывеў сваё прозвішча на чыстым радку і, падабрэўшы, пазіраў у акно, дзе ўжо мільгацелі яго хрумсткія паперкі. Як таго патрабуе парадак, ён тут жа, ля акенца, яшчэ раз пералічыў іх — 378 рублёў — здаецца, якраз хопіць на яго мару і яшчэ застанецца. На пражыццё не хопіць, вядома, але ён як-небудзь стрывае. Галоўнае — набыць гадзіннік, які ўжо сніцца яму амаль кожную ноч.

Хлопец вылез з чаргі, у патайную кішэню пінжака акуратна засунуў грошы, зашпіліў яе шпількай і пайшоў шукаць Федзьку.

На двары папырскаў невялікі дожджык і цяпер, хутка беручыся плямамі, падсыхаў асфальт дарожкі, духмяна пахла клейкае лісце таполяў. На бетонных прыступках высокага ганка сядзела некалькі хлопцаў, Косця зірнуў сюды—туды — сябра нідзе не было.

— Федзькі не бачылі? — устрывожана спытаў ён, адразу адчуўшы непакой у душы.

— Федзька? — ухмыльнуўся хлопец з запэцканым вапнаю тварам.— Быў ды ўвесь выйшаў. Змабілізаваны, брат, Федзька: пайшоў з Правілам.

Косця прыкусіў губу і насупіўся.

— Вось жа дурань! Казаў пачакай, дык не. А матка з дому дзвесце рублёў просіць — парася купіць. А ён вунь што!

— Лічы, што парася гэпнулася, — ухмыльнуўся хлопец.— Ужо Правіла паклапоціцца.

— Трэба шукаць, — вырашыў Косця. — Куды ж іх чорт панёс?

Ён збег з прыступак і ў брамцы спаткаўся з Зінкай. У чысценькай светлай сукенцы, у белых шкарпэтках, з малюсенькім чамаданчыкам у руках, яна была зусім нейкай інакшай, лепшай, чым звычайна, у сваёй зашклёнай будцы на кране.

— Зіна, не бачыла Федзькі? — спытаўся Косця, чамусьці асцерагаючыся глядзець у яе прывабны кірпаты твар.

— Не, не бачыла,— крутнулася яна, з затоенай усмешкай зірнула на яго і, узмахнуўшы чамаданчыкам, падалася ў кантору.

Косця трошкі затрымаўся, пагляд.зеў услед дзяўчыне і адвярнуўся. Усе навокал ведалі, што яна закахана ў Федзьку, гэтага прыгожага балбеса, а што ёй Косця? Да Федзькі яшчэ падбіваецца Шурка з бетонкі, Ванда са сталоўкі — вязе хлопцу на дзевак. У Косці ж няма нікога.

Косця выйшаў на вуліцу, паглядзеў у адзін бок, у другі, уздыхнуў і пайшоў шукаць сябра.

II

Болей за злодзеяў, нахабнікаў і хлусоў не любіў Косця п’яніц. За пражытыя ім васемнаццаць год хлопец вельмі добра пазнаў, якія беды нясе п’янства людзям. Гадоў колькі назад у яго была маці — ціхая лагодная жанчына, найлепшая за ўсіх людзей, якіх толькі ведаў Косця. Бадай, яна адна пасапраўднаму любіла гэтага рудагаловага хлапчука і клікала яго трошкі старамодна, але ласкава — Касцючок. Яны тады жылі на станцыі, у іх была лянівая каза і безліч дзівосных чыгуначных штуковін: цяжкія кіркі, ламы з раздвоенымі, як казіныя капыты, канцамі, флажкі, доўгая жалезная трубка з роўнем пасярэдзіне. Была яшчэ каляска на двух колах, у ёй маці катала яго на рэйках, калі вярталася з перагону, дзе падбівала шпалы. Косцік тады насіў фуражку з эмблемай ключа і молата на аколышцы, у яго кішэнях заўжды бразгацелі расплясканыя цягнікОм манеты. Гэта было ўжо далёкае, як сон, але незабыўнае шчаслівае жыццё. Бацькі тады не было.

Але вось аднойчы ў іх маленькі домік-будку з’явіўся бацька. Ён быў чорны ад вугальнага пылу, бруду і шчаціння, якое ніколі не выводзілася на яго твары. Маці спачатку хадзіла вясёлая, потым стала задумлівая, а пасля пачала плакаць. У іх не хапала грошай, а бацька, аднекуль позна прыйшоўшы ўначы, грукаў дзвярыма і незнаёмым грубым голасам клікаў маці. Маці палохалася, уцякала ў акно і хавалася ў палісадніку, а бацька кідаў па пакоі табурэткі і дзіка крычаў:

— Маня! Гадзіна! Хадзі сюды!

Косцік ад страху таксама выскакваў у акно, прыціскаўся ў кусце бэзу да дрыготкага цела маці і прасіў:

— Мамачка, мама... Уцячом! Давайце ўцячом...

Але маці нікуды не ўцякала, плакала і пазірала ўсё ў асветленае акно, дзе звярэў бацька. А той, ашаломлены гарэлкай, хапаў з—пад лаўкі сякеру і замахваўся на кафельную грубку — тую грубку, якую ім змураваў вартаўнік Восіп і якая дужа падабалася маці.

— Маня! — роў бацька. — Лічу да трох і крышу ўсё ў пыл!..

Ён і сапраўды пачынаў сеч грубку, аж пырскалі ў бакі кавалкі кафлі, і маці з крыкам кідалася ў хату.

Бацька бушаваў усю ноч. Біў маці, ламаў мэблю, шукаў Косцю, равучы на ўсю станцыю, што заб’е «рудога шчанюка». А на другі дзень гэты агідны чалавек поўзаў перад жонкай, цалаваў яе босыя ногі і плакаў. Маці таксама плакала, плакаў і Косця — ад нянавісці да бацькі і жалю да маці.

Неяк усё ж бацька ўціхамірыўся і не піў месяцы са тры. Маці зноў павесялела, памаладзела і, калі яны з сынам заставаліся ўдваіх, казала, што бацька добры, толькі хворы і нешчаслівы чалавек. Але Косця не верыў у гэта. Ён паранейшаму ненавідзеў бацьку, а бацька бачыў тое і ненавідзеў сына.

Аднак радасць маці была нядоўгай. Узімку пад новы год бацька зноў напіўся, выгнаў яе на снег і гнаў босую аж да суседняй вёскі Глінішчаў. Пасля маці захварэла і памерла. Бацька прадаў казу, разгойшыў набытак, запіў яшчэ болей, і Косцю жыць дома стала нельга. Хлопец надзеў стары мацерын кажушок, фуражку з эмблемай, узяў свой двухлязы ножык і пайшоў у вёску. Там яго прытуліла нейкая радня, ён дахадзіў зіму ў школу, а потым пасвіў жывёлу. Тады ж ён пасябраваў з Федзем і з ім два гады назад прыехаў у горад і паступіў у будаўнічую школу.

І вось цяпер гэты самы Федзька, ціхі добры хлопец, паддаўся шайцы Правілы і прапівае з ім свае грошы. А дома ў гэтага лайдака клапатлівая, старэнькая маці, якая кожны тыдзень шле яму пісьмы, у кожным пісьме яна абодвух іх называе сынкамі і ўсё бядуе пра іх цяжкае жыццё «на мурах». Дык як было стрываць хлопцу і спакойна глядзець, як на вачах у яго бэсціцца гэты неразумны, але ўсё ж свой чалавек.

І Косця шыбаваў па гарадскіх вуліцах, зазіраў у сталоўкі, закусачныя, піўныя — шукаў Федзьку.

III

Розных закусачных, бутэрбродных, піўных у горадзе было безліч. У кожнай каморыне памерам ледзь не з сабачую будку, дзе толькі магло змясціцца пяць чалавек, нейкія людзі гарадзілі прылавак, ставілі пару сталоў і прадавалі гарэлку. Косця даўно ўжо дзіву даваўся, чаму гэта адны чытаюць лекцыі, пішуць у газетах пра шкоду алкаголю, а другія гэтак заўзята гандлююць гарэлкай.

Забараніць бы яе зусім ці выдаваць у аптэцы або хоць бы прадаваць раз у месяц перад якім святам, як тыя дрожджы. Дык не. На кожным рагу шырокімі радамі вабяць з вітрын спакуслівыя для дурняў бутэлькі.

Косцік аббегаў з паўгорада, злятаў за Нёман у славутую «Хвалю», зазірнуў у два рэстараны, аднак тых, каго трэба, нідзе не было. Ён занепакоіўся, што патраціў шмат часу і, мабыць, спазніўся. Увесь час, лётаючы па вуліцах, ён вельмі злаваўся на Федзьку і на сябе таксама, што адпусціў хлопца, не ўтрымаў. Што ён напіша Федзькавай маці, калі той прап'е грошы і нічога не пашле ёй. Вось жа безгаловая істота, ну хіба ж так можна? Калі б хоць Косця не засцерагаў яго, не гаварыў, што так нягожа, што трэба жыць сваім розумам, а не слухаць гэтага прайдзісвета Правілу. Дык не ж!

Так хлопец прыбег на вакзал, паглядзеў ля аднаго ларка, ля другога — знаёмых не было. Тады ён збочыў у завулак, дзе яны некалі вазілі арматуру на дваццацісямі-кватэрны дом, — там, здаецца, была піўная.

Тым часам паволі вечарэла. Косця хутка крочыў па нявроўным вузенькім тратуары, зазіраў на шыльды. Было прыкра, што Федзька перастаў слухацца і рабіў яму адны клопаты. Ну але ён усё роўна не адступіцца, і калі ўжо ўзяўся, то вырве яго з гэтай кампаніі. Косця нават усміхнуўся з свае рашучасці,— мусіць, таму і клічуць яго Няўломкам, што ўпарты ён і заўжды гне сваю лінію. Але хай. Хай завуць, як хочуць, а характар ён перамяніць не можа.

Піўная сапраўды была на тым самым месцы — між вялікіх цагляных дамоў лісліва прыткнуўся яе зялёны фанерны буданчык. Угары над дзвярыма вісела, аднак, шыльда сасісачнай, але Косця ўжо ведаў гэтыя гандлярскія хітрыкі і штурхнуў зашклёныя дзверы.

Захожых было тут нямнога. Чалавекі два стаялі ля прылаўка, гэтулькі ж сядзела за столікам з аднаго боку дзвярэй, а за другім у куце хлопец убачыў знаёмыя твары. Прыпёршыся да сцяны, знемагаў ад п'янай асалоды расхлістаны, потны Правіла. Закаціўшы пад лоб невідушчыя вочы, ён хрыпла цягнуў нейкую няскладную песню і паныла матляў галавой. Збоку ад яго ўзлёгся на край стала Шпур, які, відаць па ўсім, быў тут за гаспадара — наліваў шклянкі, бразгацеў посудам і пад песні завадатара спраўна ўплятаў каўбасу. Насупроць яго сядзелі і жавалі закуску двое незнаёмых дзецюкоў. Але дзе ж быў Федзька?

Толькі прыгледзеўшыся, Косцік убачыў Федзю, і жаласць да яго балюча кальнула хлопца. Не дужа прывычны да гарэлкі, Федзя ўжо зусім аслабеў, адкінуўся на піўную бочку, схіліў на грудзі голаў

і так пакутаваў. Косця ступіў да іх стала, і тады мурласты Шпур убачыў яго.

— Гэ, Няўломак! — гукнуў ён. Правіла сціх, злабаціў голаў, насцярожана ўтаропіў у хлопца выцвілыя вочы.

— Браткі, Няўломак зламаўся — піць пачаў, — сказаў Шпур і раптам зарагатаў, шырока разявіўшы рот, напханы каўбасою. Дзецюкі здзіўлена азірнуліся, Правіла ўсё падазрона ўглядаўся ў яго, паводзячы галавой. Косцю стала агідна ад гэтых п'яных выкрыкаў, нялюдскіх, нахабных твараў, і ён ступіў да сябра:

— Федзя,— нягучна паклікаў ён.— Федзя!

Федзя ачнуўся, убачыў яго, хацеў устаць, але пахіснуўся, і Шпур лёгкім дотыкам сваёй цяжкай рукі пхнуў яго на ранейшае месца.

— Цыц! — гаркнуў ён.— Во яшчэ нянька знайшлася. Маленькі, нос трэба абцерці, порткі надзець! Га? Ну дай ручку, Фядзюк, ён цябе ў яслі павядзе. Ты ж сапляк, блазан, а ён твой кодлач...

— Палундра! — раптам грымнуў Правіла і ляснуў па стале кулаком. Доўгі сухі твар яго наліўся п'янай лютасцю. Федзька няўцямна зірнуў на Косцю, на зрудзелага страшнага Правілу і жаласна ўсміхнуўся. На нейкі час стала ціха, Косцік цярпліва чакаў, хоць яго аж перасмыкала ад агіды і няёмкасці быць у гэтай адзічэлай п'янай кампаніі. І тады Федзька — той самы добры, падаткі Федзька, пра якога гэтак клапаціўся Косця,— замармытаў нейкім чужым і бездапаможным голасам:

— Адчапіся, Косцік. Ну чаго ты прывязаўся? Я ж сам не малы...

— Чуў? — другі раз грымотна зароў Правіла і зноў пагрозліва і запытальна ўтаропіў у хлопца свае п'яныя, затуманеныя бельмы. — Чуў? Кацiся к сякой-такой матары, салага несалёная!..

За сталом заварушыліся. Шпур дэманстратыўна саўгануў да локцяў рукавы, агаляючы ўшчэнт статуіраваныя валасатыя кісці. Правіла рвануў на грудзях світку і, сагнуўшыся крукам, цяжка ўзняўся за сталом, бы збіраючыся праз яго скочыць на хлопца. Косцік насупіў бровы і не крануўся з месца.

— Федзька, ідзі дамоў! — цвёрда сказаў ён.

Але Федзька ўжо баяўся ісці, ён ніякавата патупіўся, каб не зірнуць у сябравы вочы, і туліўся да бочкі. А Правіла шырокім жэстам ускінуў над сталом доўгую кастлявую руку і тыцнуў на дзверы:

— Прэч, салага! Выгрузіць яго! Майнай, братва!

Хлопцы адкінулі табурэткі і падаліся да Косці. За прылаўкам завішчала буфетчыца, нехта з—за другога стала пачаў нерашуча суцішваць людзей. Косця, аднак, стаяў спакойны і стрыманы.

— Пусціце Федзю, — казаў ён. — Не маеце права спойваць яго. Яму грошы патрэбны, у яго маці...

Правіла зноў нешта зароў з—за стала, і Шпур растапыранай пяцярнёй ткнуў у Косцеў твар. Іншыя схапілі яго за рукі, за плечы, пачалі штурхаць у дзверы. Аднак дзверы былі вузкія, і Косця рашыў не здавацца.

У гэтай цеснай будыніне пачалася барацьба. П'яніцы таўкліся ля хлопца, штурхалі яго і адзін аднаго. Шпур учапіўся за нейчую нагу і так падвярнуў яе, што адзін п'яны дзяцюк зароў дзікім голасам. На Косцевых плячах затрашчаў пінжачок, нехта балюча выкруціў яму руку, крычала за прылаўкам буфетчыца, а Косця супраціўляўся з усяе сілы і ўсё цвярдзіў сваё:

— Пусціце Федзю. Пусціце... Не маеце права прапіваць яго грошы! Паразіты... Блатнякі...

Хлопца ўсё ж выштурхнулі за дзверы.

Шпур апошні раз балюча выцяў яго ў грудзі, і Косця, глуха войкнуўшы, апынуўся на вуліцы. Ззаду гучна бразнулі дзверы, і ўсё сціхла, а хлопец, душачыся ад крыўды і злосці, стаяў яшчэ на вышчарбленым тратуары і пазіраў у выбітую ў дзвярах шыбіну. Правіла сеў у куце, Шпур адразу ўзяўся наліваць шклянкі, дзецюкі, злосна сапучы, пачалі закурваць, а збоч, затуліўшы далонямі твар, сядзеў Федзька.

У Косцікавай душы зноў перамяшалася ўсё: і злосць, і крыўда на сябра, і хлынуў аднекуль жаль да яго, бездапаможнага і дурнога, і дапякала горыч ад свайго бяссілля. Але хлопец быў не такі, каб доўга паддавацца роспачы і адступаць перад сілай. Ён пастаяў яшчэ, падумаў і пайшоў, цвёрда рашыўшы дамагчыся свайго.

IV

Соладка спіцца ў дажджлівы ранак выхаднога летняга дня. Не бяда, што грукочуць машыны на вуліцы, што стукаюць дзверы ў калідоры і чутна гамонка. Укарочаная танцамі, кіно і сустрэчамі, суботняя ноч займае часу ў нядзельнага ранку. І пластам ляжаць пад прасцінамі і коўдрамі падгуляўшыя хлопцы — ляжаць, пакуль не прачнецца хто першы і не наробіць крыку.

Косцік, аднак, даўно ўжо не спіць.

Каб не парушаць цішыні, ён ціхенька ляжыць на сваім скрыпучым ложку ў куце, пазірае ў столь і ніяк не можа перадумаць усяго. Хлопед зусім не выспаўся ў гэтую ноч, балела галава ад стомы, а болей ад непакою і перажыванняў, што турбавалі яго.

Учора ён усё ж дамогся, што апоўначы яны апынуліся ў мілідыі — і Федзька, і Правіла, і Шпур, і тыя два дзедюкі з

аўтабазы. Міліцыянеры паклікалі туды і гаманкую буфетчыцу, і дзядзьку з—за другога століка. Дзяжурны склаў пратакол, даў падпісаць яго ўсім і пасля буфетчыцу, Косціка, Федзьку і дзядзьку пусцілі дамоў.

Пакуль хлопцы ішлі ў інтэрнат па пустэльнай начной вуліцы, Федзька крыўдліва бурчаў усё, што Косця нарабіў бяды, што цяпер ім не мінуць разбору на камсамольскім сходзе; павесяць, відаць, на ганебную дошку «Вілы ў бок», якой больш, чым міліцыі, баяліся Шпур і Правіла. Ды і на рабоце колькі будзе размоў, калі ў панядзелак даведаюцца людзі, што адбылося ў гэтую ноч. Ва ўсім ён вінаваціў Косцю, скардзіўся на яго задзіры, нялюдскі характар, што давёў іх да такога сораму. Косця спачатку даводзіў сваё, лаяў неразумнага сябра, каторы раз тлумачыў, якія злыдні Шпур і Правіла і чаго дастукаецца Федзька, калі не пакіне вадзіцца з імі. Косця і гарачыўся і злаваў, але потым змоўк. Хіба мог тады зразумець што-небудзь гэты яго п'яны дурань? Другая справа пасля, калі той праспіцца, — ужо ён паставіць тады пытанне рубам — ці з Косцем, ці з Правілам. З гэтым намерам хлопец і прачнуўся ўранку.

На двары, відаць, ішоў дождж, у пакоі быў змрок. Верхавіна таполі, што заўжды зазірала ў акно іх паверха, устрывожана варушыла мокрым лісцем; з карніза за шыбай мерна падалі вялікія кроплі. На ўсіх шасці ложках яшчэ спалі хлопцы, за тумбачкай побач ціхенька скурчыўся Федзька. Косцю здалося, што ён спіць, хлопец неўпрыдзям зірнуў на сябра — а той шырокімі сваімі дзявочымі вачыма самотна глядзеў у акно.

Косця збіраўся як след вылаяць яго, ужо дваразага і разумнейшага, накрычаць, каб ведаў, што ён не прымірыцца з гэтай распустай. Але выгляд у Федзькі быў такі вінаваты і гаротны, што Косця змоўчаў.

Паляжаўшы яшчэ з гадзіну, Косця ўстаў, старанна заслаў ложак, увесь час мінаючы позіркам сябра. Той таксама маўчаў і ўсё маркотна глядзеў у акно. Косця яшчэ патаптаўся крыху ў праходзе, пасля закінуў на плячо ручнік, узяў мыльніцу і пайшоў у мыцельнік.

У вузкім гэтым цемнаватым пакойчыку з ночы гарэла пад столлю лямпачка, пад кранам мыўся тынкоўшчык з сёмай брыгады. Тынкоўшчыкі любяць папаласкацца ў вадзе, і гэты хлопец мыўся старанна і доўга, аж стогнучы ад асалоды. Пасля ён гэтак жа старанна выціраўся і, ужо канчаючы, запытаў у Косці:

— Ці праўда, кажуць, ты на Правілу і Шпура ў міліцыю даказаў?

— Праўда,— коратка адказаў хлопец, намыльваючы рукі.

— І на сябрука свайго Федзьку таксама?

— Таксама.

— Здорава, брат.

Тынкоўшчык не сказаў болей нічога, сабраў сваё начынне і пайшоў, але Косцік выразна адчуў яго варожасць і пагарду да сябе.

Адразу засмуткаваўшы невядома чаму, ён нетаропка памыўся. Вось не разумеюць людзі, чаго дабіваецца Косця, не разумее і Федзька. Усе думаюць, што ён які дзівак, упарты Няўломак, што ён дзеля свайго нораву бунтуе супроць звычайнага, прывычнага, хоць і нядобрага. «Хто не п’е? — усе п’юць, толькі трэба ўмеючы, каб усё было ціха і гладка», — кажуць людзі. Але хіба п’янка прынесла каму дабро?

Калі Косця вярнуўся ў пакой, Федзька ўжо ўстаў. Паставіўшы на падлогу босыя ногі, ён нерухома сядзеў на ложку. Галава хлопца з раскудлачанымі валасамі дяжка звісала долу. Косця не вытрымаў:

— Ну што, кепска?

Федзька не адказаў.

У інтэрнаце рабіць не было чаго, але Косця не спяшаўся на снеданне. Без пільнай на тое патрэбы ён пачаў перакладваць драбязу ў тумбачцы — яму карцела ўсё ж дапячы Федзьку.

— Дык здаволіўся ўчора? Можа, і сёння таго ж хацеў бы? Дурны ты, як пень альховы, скажу я табе па шчырасці.

Федзька ўсё маўчаў, хіляч ы голаў. Ён аблакаціўся на калені, падпёр кулакамі скроні і быццам не чуў злосных Косцевых слоў.

У той час пачалі прачынацца хлопцы, заварушыліся пад коўдрамі, прыслухоўваючыся да гамонкі. Косця змоўк і, прыгадаўшы, што ў яго адарваны рукаў пінжака, пачаў прышываць. Федзька ўздыхнуў, узняў на хлопца самотныя вочы і вінавата папрасіў:

— Пазыч мне грошай, а, Косця?

— Во, якраз усю ноч чакаў,— з’едліва адказаў Косця, строга азіраючы сябра.— Прапіваць дык з Правілам, а пазычаць у мяне.

Федзька заварушыўся, пакутна паморшчыўся сваім круглявым тварам.

— Ведаеш… маці ж паслаць. Думаў, застанецца, ды дзе там…

— П’яніда ты няшчасны, — узлаваўся Косця. — Да чаго ж ты дастукаўся, дурань? Столькі грошай прапіць — дзе твая галава была? Не дам ні рубля, хоць канай. Хай табе Правіла дае, — злосна абвясціў Косця.

Федзька ведаў характар сябра і болей не прасіў. Ён узяў ручнік і выйшаў з пакоя.

Косця завязаў вузельчык, адарваў нітку і ўздыхнуў. Новы невясёлы клопат усё болей агартаў яго. Што цяпер было рабіць з

гэтым дурнем? Хто яму дасць грошай, каб паслаць маці? Вядома, піць дык сяброў знойдзецца шмат, а вось памагчы небараку, апроч Косці, няма нікога.

Сяк—так Косця прышыў рукаў — атрымалася нішто сабе, добра яшчэ, што парвалі па шве, а не па дэлым. Косцік узняў адзежыну за плечы, разгарнуў. Пінжачок быў суконны, ужо не новы, заплямлены, лепшага хлопед не меў — усё неставала грошай. Але што пінжак — ён паслужыць яшчэ, а вось гадзінніка шкада. Купіць яго ўжо не прыйдзецца пакуль што, і ўсё гэты Федзька...

V

У сталовай Косця снедаў адзін — ён быў невясёлы. Федзька неўпрыдям знік з інтэрната, і сябра думаў дяпер, што з яго земляком робіцца нешта благое. Мусіць, прыйдзецца схадзіць да старэйшых — да прараба !вана Сымонавіча або ў камітэт камсамола. Усё роўна так гэтага пакінуць нельга — нельга дапусціць, каб хлопед спіўся — што тады скажуць пра іх абодвух у далёкіх Глінішчах?

Заплаціўшы за сняданак, Косця паціху падаўся на выхад. На дварэ сыпаў дробненькі, але густаваты дожджык, і ў дзвярах таўкліся дзяўчаты і некаторыя хлопды, што зранку ўжо апрануліся ў лепшае. Дождж дяпер палохаў іх, і яны ў нерашучасці чакалі, баючыся выбягаць на мокрае. Косця аднак не баяўся — наставіўшы каўнер пінжака, ён ступіў з ганка.

Хлопед ішоў на пошту.

Ён рэдка калі заходзіў у гэты вялізны будынак на галоўнай вуліды. Ніколі ў яго не было тут ніякай патрэбы — ён нікому не пасылаў нічога і ні ад каго не атрымліваў. Толькі калісьці ўзімку яны з Федзькам прыходзілі сюды па пасылку ад ягонай маці і пасля з тыдзень ласаваліся смачнымі вясковымі каўбасамі. Федзька тады быў цішэйшы, і Косця меў болей улады над ім.

На пошце Косця нагледзеў патрэбнае акенда ў вялізнай зале, папрасіў у дзяўчыны картку паштовых пераводаў і прысеў за сталом. Не прывыкшы да пісаніны, ён аж уходаўся, пакуль напісаў усе адрасы, суму лічбай і прапісам. Калі ўсё было зроблена, хлопед зірнуў на другі бок карткі — там таксама трэба было напісаць штосьці. Косця падумаў, незнарок капнуў з пяра на заплямлены і без таго стол і не надта прыгожа вывеў: «Мама, пасылаю вам 200 руб. Жыву добра, прадую з Косцем. Федзя».

Пасля Косця адшпіліў сваю тугую кішэню і падышоў да акенда.

Трохі паспакайнеўшы, хлопед вяртаўся ў інтэрнат. Дождж спыніўся, разы са два з неба ўсміхнулася сонда і, нібы засаромеўшыся сваёй усмешкі, схавалася зноў. Надвор’е пад

поўдзень абядала ўсё ж разгуляцца. Па вуліды шпадыравала безліч народу. Зграбна апранутыя ў кароценькія шэрыя курткі, беглі кудысьці дзяўчаты-студэнткі. Косдя стрымана глядзеў на іх мільготкія вясёлыя твары, але ніводная з дзяўчат не затрымала свайго позірку на гэтым адзінокім нехлямяжным хлопды.

І раптам у людской мітусні з—за рога паказаўся Федзька, а з ім поплеч — Зіна. Косця чамусьці аж узрадаваўся, убачыўшы дзяўчыну і свайго няўдалага дружбака. Але нешта новае, насдярожлівае мільганула на вясёлым Федзевым твары — ён тузануў за рукаў Зіну і сышоў з тратуара. Дзяўчына, няўдямна азіраючыся, таксама падалася за ім, і яны апынуліся на другім баку вуліды.

Ад нечаканасці Косця спыніўся і прыкусіў губу.

Але нездарма ён зваўся Няўломкам, каб лёгка адступіцца і дазволіць Федзьку канчаткова сапсавацца. Ён паказаў сябру кулак і, поўны рашучасці, перайшоў вуліду. Трэба было высветліць адносіны і, як кажуць, паставіць кропку над «і».

1958

## Страчаныя мары

1

Вадзім добры, клапатлівы, вясёлы.

Мінула паўгода, як яны пажаніліся, але Ірынка ні ў чым не можа папракнуць яго. Кожны дзень яны разам — на працы ў будаўнічым трэсце, дзе ён — інжынер-планавік, а яна — лабарантка, у вольную часіну — у кіно, на бульвары ці ў сваёй маленькай кватэры на чацвёртым паверсе новага дома. Здавалася б, усё ў жыцці ўладкавана добра, гэтулькі падстаў для ціхага першага шчасця замуства, але яна стала нейкай панылай і вялай.

Яна і сама яшчэ не разумее, адкуль такое адчуванне. Яно то прыходзіць зусім беспрычынна, то мінае, уступіўшы месца радаснаму і светламу. Ей падабаецца, калі яны, узяўшыся падручкі, ідуць цераз двор у горад ці вяртаюцца дадому і суседзі з замілаванымі ўсмешкамі лагодна пазіраюць услед. «Якая слаўная пара», — чуе Ірынка ззаду і забываецца тады на свае цьмяныя жаданні, ёй трошкі няёмка перад мужам, і дзяўчына адчувае палёгку і задаволенасць у душы. Але так бывае нядоўга.

Вадзім яшчэ гаспадарлівы, практычны, умелы. Калі яна скончыла лясны тэхнікум і атрымала назначэнне на Далёкі Усход, ён нямала патурбаваўся, і ўсё ж уладкаваў яе, праўда, хоць лабаранткай, у іх будтрэст. Пасля яны пажаніліся, і ён выстараўся гэтую кватэру, нанава абсталяваў ванную, здабыўшы недзе цудоўнай малочна-белай кафлі. Ён ведае, як вывесці чарнільную пляму на адзежыне, чым чысціць люстры, як спячы яблычны пудзінг і замарынаваць на зіму лісічкі. А яна?.. Усе гэтыя цікавыя драбніцы побыту неяк прайшлі міма яе дзявочай маладосці — яна шмат чаго не ўмее — у яе не дужа ладны выходзіць абед, прыгарае каша, дрэнна пякуцца аладкі. Праўда, Вадзім ніколі не папракае яе — шмат што ён робіць і перарабляе сам і ўсё вучыць, вучыць яе. Але неяк дрэнна ідзе ёй тая навука. Часцяком яна пазбягае бясконцых хатніх клопатаў і садзіцца за кніжку свайго любімага Джэка Лондана, героі якога з дзяцінства прывучылі яе марыць пра зманлівае — турботнае, змястоўнае жыццё.

Вадзім шмат што ўмее. Калі ён не заняты сваімі разлікамі, што прыносіць з работы, дык часта выпілоўвае ўвечары розныя выкрутаслівыя крывулякі ў фанерыне, з якой майструе потым прыгожыя настольныя штуковіны. Ірынка ў такі час сядзіць насупроць на канапцы, у руках яе — кніжка, але Вадзім просіць не чытаць, ён што-небудзь расказвае, і яна, заклаўшы пальцам старонку, сцішана пазірае на мужа, на яго ледзь ссутуленыя плечы, хударлявыя шчокі. У яго руках спрытна гойсае пружыністы лобзік і ціхенька матляецца на вузкім з залысінамі ілбе апаўшая пасма

валасоў. Ён усё гаворыць, гаворыць, зрэдку пазіраючы на жонку, а яна маўчыць. Спачатку ён крыўдаваў на яе за гэтую маўклівасць, часам спыняў працу і пытаўся, што з ёй, але яна і сама не ведала што — проста ёй хацелася маўчаць, слухаць і думаць.

У той чэрвеньскі адвячорак яны гэтак сама сядзелі ўдваіх у сваім пакойчыку, ён ужо выпілаваў, што трэба было, і цяпер смярдзючым сталярным клеем змацоўваў фанерныя ўзоры — атрымлівалася прыгожая скрыначка для драбніц. Займаючыся справай, ён успамінаў пра сяброў свайго маленства, расказваў, а яна слухала і, аблакаціўшыся на падаконнік, пазірала ў расчыненае акно.

Унізе за невялікім і пыльным, не дужа яшчэ ўпарадкаваным дваром раскінуўся горад. Адсюль, з вышыні, ён выглядаў без аніякай прыгажосці — адны шэрыя, рудыя, чорныя дахі з безліччу закураных камінаў і разнахілых антэн. У прамежках дамоў варушыліся, хісталіся верхавіны дрэў, было ветрана, і ў небе, бы сняжынкі ў зазімак, мітусіліся, ападалі к зямлі і зноў узнімаліся шэрыя пушынкі таполяў. Іх было незлічонае мноства, яны напаўнялі прастор, мітусіліся, бліскалі на сонцы ў недасяжнай высі летняга неба і ўсё плылі і плылі кудысьці. Ірынка слухала мужа, і чамусьці ягонае апавяданне здавалася ўжо некалі чутым і не даходзіла да свядомасці, а ў адчуванні міжвольна заставаўся толькі гэты бязладны, устрывожаны лёт.

— Анатоль наогул нішто сабе быў хлопец, — казаў тым часам Вадзім, намазваючы клеем берагі фанерак. Ён сядзеў на табурэтцы за круглым сталом на сярэдзіне пакоя, абрус быў зняты, на стале, на каленях майстра і на падлозе ляжала па газеціне.— Хлопец нядрэнны, толькі безгаловы. Калі ўжо што ўлезе ў голаў, ніхто не выб’е. Павагі да навукі, безумоўна, не меў. Кажа, бывала, люблю канкрэтную справу, ненавіджу папяровую, і што ты думаеш? На другім курсе кінуў наш інстытут. Другія стараюцца, каб хоць як-небудзь атрымаць дыплом, выйсці ў людзі, а ён і вучыўся лёгка, а кінуў і паехаў некуды — ці ў Архангельск, ці яшчэ куды — забыўся ўжо. А ўчора, ведаеш, іду ва УНР месячную справаздачу звяраць, гляджу — шыбуе ўпоперак вуліцы. Пазнаў мяне. Дзе, пытаюся, як і што? О, кажа, не пытай: доўга казаць. У водпуск прыехаў, заходзь, кажа.

Вадзім пастукаў маленькім малаточкам, забіваючы маленькія цвічкі ў бакавінкі, і прыладзіў маленькае вечка. Любуючыся, ён адставіў скрыначку на сярэдзіну стала, прыжмурыўся:

— От і ўсё. Глянь, Іра, на мой твор мастацтва.

Ірынка павярнулася, няўцямна зірнула на стракатую ад узораў штуковіну. Яна ўжо бачыла гэтую шкатулку на чарцяжы,

што прысылалі з часопісам, і не адчула цяпер ніякай цікавасці да яе.

— От яшчэ адпаліруем, лакам пацягнем, і будзе цуда. А можа, нават не лакам, а пафарбаваць бронзай — будзе як літая, — задаволена казаў Вадзім, адкінуўшыся на табурэтцы. — Ну, але гэта другі раз. Добрага патрошку. Праўда, Ірынка?

Ён гарэзліва падскочыў, абняў жонку за талію, яна трошкі скаланулася, абуджаная ад сваіх думак, але прыветна паглядзела на яго і чамусьці хуценька прамовіла, скіроўваючы яго ўвагу на іншае:

— Глянь, глянь, як ляцяць. Як лебедзі, маленькія такія, перамяшаліся, быццам згубілі што, важака страцілі...

— Што? А-а, таполі... Ну, глупства адно, якія там лебедзі! Проста адзін са спосабаў размнажэння. Батанічны варыянт, закон прыроды, — абыякава праказаў ён, раскінуўшы ў бакі натруджаныя працай рукі — высокі, хударлявы, трохі сутулы, у гладка нацягненай на грудзях сетцы-безрукаўцы. Ірынка неўпрыцям закусіла губу, на яе чыстым ілбе пралегла танюсенькая няроўная зморшчынка.

— Ведаеш, давай прагуляемся, — пасля паўзы сказаў Вадзім. — Што сядзець? Давай сходзім да Анатоля. Паглядзім, што ён за тыпус стаў.

2

Узяўшыся падручкі, яны павалі ішлі ў густой засені прысадаў па ціхай ускраіннай вуліцы.

Яна апранула свой новы гарнітур — шэры, з недарагога, але вельмі прыгожага каверкоту, якога яны набралі неўзабаве пасля вяселля. Гэта была Вадзімава ініцыятыва, ён адразу прыкінуў, як гэта нядорага і выгадна. І цяпер у аднолькавых гарнітурах яны выглядалі, нібы блізняты — маладыя, прыгожыя, статныя.

Яны маўчалі. Ён стараўся трапляць у нагу з жонкай і, задаволены сабой, вуліцай, надвор'ем, добразычліва пазіраў на сустрэчных, на гаманкую дзетвару ля платоў, выглядаў патрэбны нумар Анатолевай хаты. Збоч цягнуліся чыстыя цесныя дворыкі, адгароджаныя ад вуліцы пашарэлымі дашчанымі платамі, месцамі з дротам наверсе. У зацішнай цеснаце стрымана шумелі садкі, гучала з вокан радыё і ўсё ляталі скрозь беспрытульныя пушынкі таполяў.

— Ось жывуць жа людзі: садок, агародчык, музыка — любата, — казаў Вадзім.

Іра чамусьці не прыкмячала прыгажосці адгароджанага платамі жыцця; апроч тапалёвага лёту, у яе душы ўжо колькі дзён

жыў, не слабеючы, незвычайны, страшэннай сілы вобраз далёкага Мексіканца.

Калі яна ўпершыню прачытала гэтае апавяданне, то, нібы аглушаная перуном, з паўгадзіны нерухома сядзела, нічога не чуючы і не бачачы навокал. З апошняй старонкі кніжкі на яе пазіралі страшныя чорныя вочы Рыверы, знясіленага, спакучанага, але перамогшага ў імя вышэйшай ідэі, у імя рэвалюцыі. Уначы ёй сніўся страшэнны баксёрскі бой і ўсё тыя зацятыя ў сваёй нечалавечай нянавісці вочы Рыверы. Упершыню тады яна невыразна яшчэ адчула, што нешта надламалася ў яе жыцці, знік зусім былы кароткі спакой — яна штосьці згубіла.

Урэшце Вадзім спыніўся перад рэдкімі садовымі весніцамі, бразнуў клямкай. У суседнім двары над нізенькім плотам высунулася цікаўная белавалосая хлапчукова галоўка, ён угледзеўся ў прахожых і зычна гукнуў у расчыненыя вокны абвітага зелянінай дома:

— Бабка Фрося, да вас прыйшлі!

У акне з’явілася старэнькая бабулька з акулярамі на носе і кніжкай у руках. Яна запытальна бліснула старамоднымі маленькімі шкельцамі, аберуч адчапіла ад вушэй дужкі і гасцінна запрасіла:

— Заходзьце, заходзьце, дзеткі, там не зашчэплена. Заходзьце.

— Анатоль дома? — запытаў Вадзім, расчыняючы дзверцы.

— Га? — прыклала да вуха руку старая. — Тут, дзеткі, тут Мерзляковы. Заходзьце, калі ласка.

— Дзядзька Толя ў катлаване, — растлумачыў за бабульку белагаловы хлапчук. — Там скалу выпальваюць.

— Гэта дзе? На Пустцы?

— Ага, дзе камбінат будуюць.

Вадзім адступіўся назад, зачыніў весніцы, ужо не зважаючы на глухую бабульку, якая ўсё запрашала зайсці. Ён ведаў, куды ісці, і падаўся тратуарам, а Ірына, цярэбячы ў руках галінку, трохі адстала ад мужа, і ён, прыпыніўшыся, пачакаў яе.

— Такі добры домік, сімпатычная бабка, чаго перціся немаведама куды, — казаў ён, заглядваючы ў шэрыя, задуменныя вочы жонкі. Ірынка патупілася, каб не глядзець на мужа, маўчала і бязвольна ішла за Вадзімам.

Ціхі зялёны свет абжытага людскога ўтулку хутка скончыўся, упёршыся ў так званую Пустку, дзе разлеглася самае сапраўднае царства хаоса. Здавалася, не было тут ніводнага кавалачка зямлі, які б не быў раскапаны экскаватарамі, здратаваны тугімі скатамі самазвалаў — усюды высіліся штабялі дошак, цэглы, ляжалі груды бетонных блокаў і горы ссунутай бульдозерамі зямлі. Крыху далей

паважна і нетаропка паводзілі стрэламі вежавыя краны, а побач ужо бялелі фасадамі гатовыя будынкі. Ля нейкай, відаць, немалой выемкі тоўпіліся людзі, усе пазіралі ўніз, адкуль патыхала ў неба вялізнае полымя і клубамі валіў густы чорны дым.

Пералазячы цераз штабялі цэглы, кучы шпалбэлек, арматуры, пераскакваючы з перашкоды на перашкоду, абмінаючы ямы і скрыні з рошчынай, Вадзім з Ірынай прабіраліся да гэтага незвычайнага пажарышча. Такі цяжкі шлях неяк ажывіў дзяўчыну, надаў ёй рухавасці і сілы, яна разы два войкнула, баючыся страціць раўнавагу на бетоннай бэльцы, па якой пераходзіла выемку. Вадзім хацеў памагчы ёй, але і сам спатыкнуўся і ўдарыў калена. Ірына гучна рассмяялася.

— Ідзі, ідзі — я сама, — сказала яна, узмахнуўшы рукамі, і спрытна саскочыла з бэлькі. Ён паціраў далонню пабітае месца, нешта бурчаў, а яна ўсё гэтак жа лёгка ўзбегла на земляную горку ля абрыву, дзе тоўпіліся будаўнікі, і зазірнула ўніз.

І з той гіганцкай катлавіны-выемкі патыхнула на дзяўчыну ўладарным духам чалавечай сілы, якая пераўзыходзіла яе ўяўленне. Не верылася нават, што такую глыб і шыр зямных нетраў раскапалі тыя маленькія людскія постаці, што выглядалі цяпер мурашкамі ў гэтай яме-даліне. Такімі ж слабымі і нерэальнымі ля вынікаў свае працы здаваліся і два экскаватары, што ўжо нерухома стаялі на сярэдзіне катлавана, таксама як і скасабочаныя на адхоне некалькі самазвалаў.

У Ірынкі заўзятымі агеньчыкамі загарэліся яе сумныя вочы, заружавелі шчокі, вецер зацярушыў яе лоб заблытанымі кудзеркамі валасоў — яна стаяла тут трохі вышэй і ззаду іншых людзей і дзівілася, дзівілася з чалавечых сіл і магчымасцей.

— А што гэта там паляць? — запыталася Ірынка, пазіраючы на агромністыя клубы дыму і на людзей, што таўкліся ў адным куце катлавана. На яе пытанне азірнуўся нейкі чарнявы хлапец у запэцканым камбінезоне — узняўшы бровы, ён акінуў яе цікаўным позіркам.

— Скалу паляць. Скала ў грунце, экскаватары не бяруць, а рваць нельга — дамы блізка. Ну і паляць, каб трэснула, — вытлумачыў ён і, пакаўзнуўшыся на касагоры, падаўся назад, стаў побач з дзяўчынай.

Ірынка, бы зачараваная, стаяла і ўсё пазірала на гэтую будаўнічую веліч. Яна не чула, як ззаду падышоў Вадзім; на нейкі час ён перастаў існаваць для яе.

— Глядзі: ды гэта ж Анатоль, — паказаў Вадзім уніз. — Вунь у чырвонай рубашцы. Завіхаецца, як прараб. Глядзі ты!

— Той, без шапкі? — перапытаў будаўнік у камбінезоне. — Гэта ж ён надумаў — нагрэць, а пасля вадой. Нашы рваць хацелі,

ды вокнаў шкада. Вунь ужо шланг цягнуць, — махнуў ён на выезд з катлавана.

Сапраўды, некалькі рабочых, згінаючыся ледзь не да зямлі, валаклі ў катлаван тоўсты брызентавы шланг. Ен, відаць, быў вельмі доўгі і ледзьве паддаваўся людзям. Вогнішча тым часам пачало слабець, чырвоныя языкі паменшалі, толькі валіў чорны дым ад нафты, якой аблілі скалу. Але ўжо дагарала і нафта.

Шланг, урэшце, падцягнулі, і да рабочых падскочыў той хлопец у клятчастай чырвонай кашулі. Ён схапіў канец шланга і закрычаў некаму ўгору:

— Вады давай! Вады!

Ён увесь разгарачыўся, кашуля шырока расшпілілася на яго грудзях, валасы разварушыліся на галаве. Хлопец нецярпліва тузануў шланг, ямчэй перахапіў яго і скіраваў канец у агонь. Нарэшце, відаць, пусцілі ваду — шланг, наліваючыся ёю, варушыўся на зямлі, бы гіганцкая жывая вужака, набрак, надуўся, і хутка з яго хлынуў бліскучы шырокі струмень вады. Хлопец засцярожліва крыкнуў на людзей, што заміналі яму ля вогнішча — тыя паслухмяна падаліся назад, а ён, ледзьве спраўляючыся з тугім пругкім шлангам, упіраўся ў зямлю шырока расстаўленымі нагамі і ліў у агонь ваду. Адтуль разам з чорным дымам нафты заклубіліся ў неба шэрыя воблакі пары, густы туман папоўз па катлаване. У схаваным парай вогнішчы шумна сквірчала, шыпела, і ў гэтым шуме прападалі людскія галасы і крыкі таго зухаватага хлопца.

Тым часам з другога боку катлавана на абрыве з'явіліся яшчэ людзі — яны валаклі другі шланг, і хутка зверху ў дым і пару паліўся яшчэ адзін шырокі вадзяны струмень. Людзі ў катлаване і на абрыве адышліся далей, зблізку засталіся толькі гэты хлопец у чырвонай кашулі і яшчэ двое, што памагалі яму. Побач на абрыве таксама падаліся назад, будаўнік у камбінезоне сказаў:

— Хутка лопацца пачне. Вы глядзіце, а то асколкі…

Вадзім нерашуча пацягнуў жонку за локаць, але тая вызваліла руку — яна чамусьці нічуць не баялася асколкаў. Уся яе ўвага, яе пачуцці сканцэнтраваліся на гэтым незвычайным відовішчы — напружыўшыся ад захаплення, яна неадрыўна сачыла за тым, што рабілася ў катлаване. Невыказнай асалодай поўнілася яе душа ад адчування чалавечай сілы і смеласці.

І вось, нарэшце, пачуўся глухі, быццам з—пад зямлі, стрэл і ў бакі з дыму шуганулі нейкія абломкі — кавалкі зямлі ці каменя — людзі на абрыве адступілі назад. Вадзім ужо настойлівей пацягнуў Ірынку за руку, яна трохі падалася за ім, але страху так і не было — яна хацела ўсё глядзець туды, на гэтае адзінаборства стыхіі з чалавекам — тым смелым хлопцам у чырвонай кашулі.

Яна, пэўна, не адышлася б ад таго месца, але ў гэты час прагучала яшчэ некалькі глухіх стрэлаў, і нейкія людзі пачалі адганяць гледачоў ад абрыву. Тады яны адышлі да кучы бетонных блокаў і там спыніліся, усё ўглядаючыся ў клубы пары і дыму, што валілі ў ветранае чэрвеньскае неба.

3

Ён выйшаў з катлавана ў мокрай сваёй чырвонай кашулі, гэткіх жа мокрых залепленых граззю штанах і, абціраючы адна аб адну далоні і весела смеючыся, казаў нешта Вадзіму. Той, няспрытна пераскакваючы цераз параскіданую арматуру, вёў яго да Ірынкі, якая, стоячы ля бетонных блокаў, нецярпліва чакала іх, хвалявалася чамусьці і ад таго хвалявання перабірала худыя тонкія пальцы.

— Вось знаёмся, — казаў Вадзім уласцівым яму тонам старэйшага і разумнейшага. — Анатоль, той валацуга, што і ў водпуску без працы не ўседзіць. А гэта мая благаверная Ірына Пятроўна.

— Не стрымаў,— быццам у нечым вінавацячы сябе, смеючыся шчыра і проста, бы даўні сябра, сказаў Анатоль. — Гляджу, людзі таўкуцца, а ніхто толкам не ўмее — вядома, справа новая. А я ўжо гэтага нагледзеўся, ну і тут навязаўся, нарабіў дыму...

Ён засмяяўся — ды так заўзята, што на твары не засталося ніводнай маленькай жылкі, якая б не смяялася разам з ім. Увесь ён аж прамяніўся ад нейкай унутранай радасці, задаволенасці, ад уласнай сілы і зухаватасці. Паддаючыся яго бадзёрасці, Ірынка таксама ўсміхнулася, і яны, трымаючы дзяўчыну ў сярэдзіне, падаліся ў вуліцу.

Ірынчына хваляванне хутка мінулася — новы знаёмы быў на дзіва просты, прыемны і адкрыты чалавек, і з ім дзяўчыне неяк адразу стала бяздумна весела. Ён усё гаварыў і гаварыў, смеючыся і пабліскваючы сваімі чыста-белымі моцнымі зубамі.

— У нас, у Сібіры, гэта звычайная справа. Скалаў там безліч. Летась мы вялі дарогу на Брацк, дык у дзень па пяць скал узрывалі. Тры тоны аманіту — і гары як не было. Ну, але, праўда, пакуль рваць — папрацаваць трэба.

— Вы ў Сібіры працуеце? — запытала Ірынка, стрымана зазіраючы ў хлопцавыя вочы.

— У Сібіры, Забайкаллі, на Далёкім Усходзе — усюды быў патроху.

— Ой, гэта ж, відаць, вельмі цікава? Праўда?

— Што цікава? — уставіў сваё Вадзім. — Цікава там, дзе нас няма,— старая ісціна. Яшчэ Герадот пісаў...

— Як каму, — заўважыў Анатоль, звяртаючыся да Ірынкі. — Некаторым самота — культуры мала, яблыкі дарагія. А каму міла-дорага, хто прастор любіць, размах, вялікую работу.

— Які ўжо там размах, калі садавіны няма. У выніку таго «размаху» рана ці позна — гастрыт або язва. Ведаю я, — пярэчыў Вадзім.

Анатоль толькі рассмяяўся сваім дзіцячым залівістым смехам, і Ірынка зразумела, што Вадзім сказаў нейкае наіўнае глупства.

«Якія ў яго прыгожыя зубы», — міжвольна падумалася Ірынцы, — яна ўжо не мела сілы адарваць позірку ад гэтага загарэлага, абсіверанага, вясёлага твару. І тады, як цень невыразнага, забытага суму, згадалася ёй, што Вадзім ніколі не смяяўся так шчыра, што ў яго гнілыя, хворыя зубы, што ён залішне любіць лячыцца і занадта асцярожна пераходзіць вуліцу. Ад гэтага ўспаміну Ірынка балюча паморшчылася, панурылася і аж здзівілася, як гэта яна раней не заўважала гэткіх выразных заган чалавека.

Вадзім, аднак, нічога не прыкмячаючы ў настроі жонкі, узяў яе за руку і прытуліў да сябе. Яна пакорліва пайшла побач, а ў душы яе ўжо, відаць, канчаткова міналася тая кароткая першая радасць, невыразным жаданнем зашчымела сэрца, зноў стала чагосьці шкада і балюча, але ўжо куды мацней і нясцерпней, чым усе ранейшыя разы.

Анатоль расказваў, якая смачная і карысная на Далёкім Усходзе вясновая чарамша, што яна не горш за тутэйшую цыбулю і расце сама — нясеяная і неараная, адразу ж з—пад снегу; якія вялізныя і тлустыя тамашнія ласосі: у нераст яны лезуць у ручаі і рэчкі, і тыя аж не могуць змясціць вялізных іх касякоў. А колькі велічных будоўляў разгарнулася ў раней не кранутых чалавекам краях, і як усё гэта захапляюча і цікава! Ірынка слухала і ўсё хмурылася з твару, яе сэрца захліналася ад нясцерпнай усеабдымнай жальбы. Яна прыгадала, як некалі была так блізка да таго незвычайнага, амаль гераічнага жыцця, і гэты ўспамін тупым болем засеў у яе душы.

Вербы і клёны слалі ў доле касыя частыя цені, парэзаныя палосамі сонца, у якіх мільгалі прахожыя. Цераз вуліцу важна і нетаропка прайшла белая рахманая каза, за ёй цягнулася доўгая вяроўка з калком на канцы. Ад гэтай казы і ўвесь дрымотны малюнак ускраіннай вуліцы адгукнуліся ў сэрцы дзяўчыны новай горыччу, але яна ўсё маўчала, хаваючы ў сабе пакутлівыя перажыванні.

Вадзім далікатна прытрымліваў жонку, бы аберагаў ад якой небяспекі, Анатоль лёгка ішоў поруч. Плячысты, дужы, коратка

падстрыжаны, патрэсваючы густой чупрынай, ён усё смяяўся і апавядаў пра далёкае, невядомае і зманлівае жыццё.

— Гэтую зіму здорава налягглі. Асабліва пад Усць-Ку-там. Тайга. Вы ведаеце, што такое тайга? — тоячы на пульхных вуснах радасную усмешку, пытаўся ён у Ірынкі. — Не, гэта не лес. Звычайны лес супраць тайгі — што сад супраць пушчы. Тайга — гэта падзі і сопкі і такі завал дрэў, што — ні на кані, ні пехатой. Чалавек там нішто — кузурка, але тэхніка — сіла. А гэтай тэхнікі там болей, чым яе было на фронце, на ўчастку прарыву. Яна ўсё крышыць — і лес, і горы, і скалы. А чалавек — толькі камандзір. Праўда, трэба 1 рукі, але болей галава і вочы. Ну, там ёсць на што паглядзець. Такі камень, як сёння, — ён махнуў рукой у бок Пусткі, — там глупства. Яго тры чалавекі прыбяруць. Пару тон аманіту — і чыста.

— А звяры? — ні то ўсур'ёз, ні то з прытоеным жартам спытаў Вадзім.

— Звяры? — перапытаў Анатоль, падкасваючы мокрыя рукавы на валасатых дужых руках. — Звяры, брат, уцякаюць у глухамань, у распадкі. Думаеш, тыгры, мядзведзі людзей дзяруць? Глупства, мінулі тыя часы. Хоць бывае, што з цікаўнасці падходзяць. Ад Тайшэта пракладі лінію сувязі. Ну, на доўгім перагоне засталіся лінейшчыкі, каб дарабіць што—кольвечы. Сядзяць хлопцы ў зямлянцы, і што такое? — кожнай ночы пад ранак — парыў. Пойдуць, злучаць — на другую ноч — зноў парыў. Думалі — шкоднікі якія. Рашылі падпільнаваць. Заселі ля расцяроба звечара, руржы навялі, чакаюць. Аж пад ранак вылазіць з падзі касалапы Міхась, спыніўся, паветра нюхнуў і падыбаў да слупа. Залез, паглядзеў у адзін бок, у другі, лапай провад — капыш. Провад, вядома, тугі, ён дзынн-нн, а мядзведзь вуха прытуліў і слухае. І так давай Міхась музыкай забаўляцца. Хлопцы страляць хацелі, але цікава — чакаюць. А мядзведзь тромкаў, тромкаў, аж покуль не парваў, і ад таго, пэўна, сам спалохаўся,— саскочыў, ды наўцёк. Стрэльнулі хлопцы, не трапілі, вядома, але, відаць, напалохалі. Больш не пайшоў.

— Глядзі ты! — здзівіўся Вадзім. — Вось бы мядзведзя падстрэліць. Ты не прабаваў?

— Прабаваў, — усміхнуўся Анатоль, — ды няўдала.

— Ці не ад таго ў вас шрамы на шыі? — сур'ёзна запытала Ірынка.

— А, гэта, — Анатоль пацёр пад вухам сінія, ужо загоеныя, але, відаць, нядаўнія драпіны. — Не, гэта тросам. Паром праз раку хадзіў на сталёвым тросе, ды трос парваўся ў паводку. Ну, я паплыў, дастаў са дна канец, а хваля як рванула, дык мяне крыху

драпнула. Але нічога — тыдзень у бальніцы паляжаў — і на працу. Час быў гарачы, людзей не хапала.

Яны падышлі да знаёмых весніц, у якія заходзілі нядаўна. Анатоль расчыніў іх насцеж і запрасіў гасцей.

— Дык ты што там — кіраўнік які? Спец? — усё захоўваючы свой тон перавагі, пытаўся Вадзім. Ён прапусціў Ірынку наперад, яна нясмела пайшла па двары, у яе шэрых сумных вачах трымцела трывога.

— Ды не, які там кіраўнік, — шчыра здзівіўся Анатоль.— Рабочы, радавы рабочы. — Ён памаўчаў крыху і пасля паўзы вытлумачыў: — Люблю, ведаеш, як след папрацаваць, добра пад'есці, адпачыць і зноў налегчы — ляпей учарашняга.

Энергічным рухам круглявых плячэй ён на хаду скінуў цераз галаву кашулю, пасля збегаў у пакой, вынес Ірынцы крэсла, а Вадзіма пасадзіў на лаўцы. Затым, перагаворваючыся з глухой бабкай у акне, пачаў мыцца, распырскваючы наўкола ваду, пырхаючы і ахаючы ад задавальнення. Ірынка неадступна сачыла за кожным яго рухам і кожным крокам. Яна маўчала, а незразумелая трывога ў яе душы ўсё расла і мацнела. Сама таго не жадаючы, яна раптам выразна ўбачыла іх побач — Вадзіма і Анатоля, убачыла аднекуль збоку, у жыцці, і ўсё тое, што раней падабалася ў акуратным, здатным да драбніц мужу, цяпер здалося мізэрным і фальшывым. Нават тое, як Вадзім заўжды мыўся над ракавінай у кухні, асцярожна беручы прыгаршчамі ваду і ні кропелькі не разліваючы на падлогу, здавалася цяпер нікчэмнай абмежаванасцю і толькі раздражняла дзяўчыну.

— Ведаеце, — казаў Анатоль, шырокімі ўзмахамі ручніка выціраючы грудзі і шыю, — чакаў водпуску, як свята якога. А прыехаў, паверце, занудзіўся. Без працы занудзіўся. А там хлопцы ўжо, пэўна, Вургунскі тунель канчаюць. Прыеду, калі ўсё скончана будзе.

Вадзім няўцямна перасмыкнуў плячыма — дзівак, маўляў, чалавек, а Ірынцы раптам здалося, што ў гэтага русавалосага, смяшлівага хлопца ёсць нешта ад таго далёкага зацятага Мексіканца. Не, знешне ён, вядома, зусім не падобны на агнявокага, адзінокага Рыверу — ён зусім іншы, ды і іншых часоў чалавек. Але, як і ў тым фанатычным змагары, адчувалася ў ім нешта неспатольна ўпартае, выразнае, раз і назаўсёды вызначанае і нязменнае — мабыць, гэтая бескарыслівая самаадданасць, улюбёнасць да сваёй, відаць, неверагодна цяжкай працы. Ірынка зноў, як і там, над катлаванам, шырока расплюшчыла вочы, поўныя невыказнага захаплення, і, не міргаючы, здзіўлена глядзела на Анатоля.

Невядома, што думаў Вадзім і ці заўважыў ён што, толькі раптам нейкі чужы яго голас ураз парушыў Ірынчыны зданімары. Яна азірнулася з болем на разгубленым здзіўленым твары.

— Ірынка, ты ж пляму пасадзіла. Глядзі, во, во, ля кішэні, — з прытоенай прыкрасцю казаў Вадзім. Яна слаба павярнулася, спрабуючы зазірнуць на свой бок, а муж ужо ўкленчыў побач і цёр насоўкай заплямленае месца.

— Чорт вазьмі, — вось сюрпрыз. Першы раз гарнітур адзела — і на табе. Трэба ж глядзець... — стрымана папракаў ён жонку. Анатоль, закінуўшы ручнік за плячо, таксама стаяў побач і зазіраў на палу сапсаванай адзежыны.

— Пэўна, гудрон ці мо' дзе-небудзь каля ізаляцыі. Трэба бензін. Пайду, спытаю ў бабкі.

— Ды не трэба, што вы, — знарок весела ўсміхнулася Ірынка. — Адчысцім, глупства.

— Бензінам нельга, бензін паліць, — заклапочана сказаў Вадзім. — Вось эфір у роўнай дозе з хлараформам — другая справа. Гэта найлепшы сродак.

— Ды ну, хай, даволі, даволі... — слаба адгаворвалася Ірынка, вызваляючы ў мужа палу. Яна ўжо ледзь стрымлівала крыўду, што падступіла да горла. Анатоль выпрастаўся, змахнуў з пляча ручнік і, цвёрда стоячы на шырока расстаўленых нагах, усміхнуўся, упершыню зазірнуўшы ў самыя вочы дзяўчыны.

— Ну, нічога. Падумаеш, вялікая справа — пляма. Праўда, Ірына Пятроўна? Было б клопату...

І тады нешта не вытрымала ў Ірынцы, яна скаланулася, хліпнула, і з яе вачэй паліліся роспачныя слёзы. Ірынка затуліла твар далонямі, але слёзы ўсё цяклі — па шчоках, між пальцаў, і яна, ужо не маючы сілы стрымаць сябе, адкінулася на спінку крэсла і ўздрыгвала ўсім целам. Вадзім з жахам на твары кінуўся да яе, абхапіў за вузкія худыя плечы і пытаў усё:

— Ірынка! Ірынка! Чаго ты? Я ж нічога... Я так...

Анатоль, здзівіўшыся ад такога здарэння, пабег у пакой паваду. Над нізкім плотам ад суседняга двара з'явіліся тры дзіцячыя галоўкі — сур'ёзныя наіўныя вачаняты ўстрывожана глядзелі на Ірынку.

Яна плакала нядоўга, але гэтулькі застарэлай горычы вылілася з яе душы, што яна спалохалася потым, каб не нарабіць чаго горшага. Ей не шкада ўжо было сваёй маладосці, толькі нясцерпна балела ад вялікага расчаравання, якое цяпер выразна адчула яна. Аднак яна нічога нікому не сказала, толькі раптам змоўкла, выцерла твар і ўзнялася. Вадзім з вінаватым выглядам усё таптаўся ля яе; збянтэжана чухаў патыліцу слаўны, нечакана такі блізкі і дарагі Анатоль. Яна трохі вінавапіла сябе ў душы, што

патурбавала і засмуціла сваёй нястрыманасцю гэтага чалавека, і ціха сказала яму:

— Даруйце мне.

Пасля яны з Вадзімам выйшлі на вуліцу. Маўклівы, насцярожаны Анатоль праводзіў іх крыху — відаць, яму было чагосьці няёмка, ён ужо не смяяўся і ад рогу вярнуўся назад.

Пакуль яны ішлі ціхай, цяністай вуліцай, Ірынка паспакайнела трохі, але ўсё не адважвалася ўзняць заплаканых вачэй, не адказвала на бясконцыя Вадзімавы пытанні — ціха ішла яна са сваёй тугой, адзінокая і панылая. Напружанне і трывога, якія ўсё тамілі яе, пакрысе аслабелі, але па—ранейшаму было горка і цяжка. А Вадзім, неяк фальшыва нервуючыся ад таго, што здарылася, усё туліў да сябе яе локаць і неадчэпна ўгаворваў жонку:

— Ну чаго ты? Ну што за натура! Нельга ж так. Падумаеш, пляма! Чорт з ёй, урэшце. Другі купім, лепшы…

Наўкола ўсё лескаталі лісцем дрэвы і мітусіліся, ляцелі кудысьці пушынкі таполяў. Дзяўчына няўцямна глядзела на іх бясконцы лёт і выразна адчувала, што назаўсёды згубіла спакой, што жыццё неўпрыцям абмінула яе і бязлітасна адпомсціла за здраду дзявочым марам. Яшчэ яна думала, што так трываць нельга, трэба нешта рабіць, нешта перайначыць — інакш яна ўзненавідзіць сябе.

1958

## Непагадзь

Нізкае змрочнае паднябессе ўвесь вечар сеяла назойлівую вадзяную імглу; нейкай фальшывай радасцю нясцерпна блішчала вуліца; аўтамабільныя фары ганялі бліскавіцы ў мокрым асфальце; безліч мігатлівых водбліскаў гуляла ў гарадскім небе. У такія гадзіны нудлівай вячэрняй непагадзі Андрэй Андрэевіч асабліва балюча адчуваў адзіноту і скруху ў сваім невясёлым жыцці. Зябка захінуўшыся ў плашч, ён крочыў па людная вуліцы і няўцямна ўглядаўся ў блішчастыя пералівы асфальту, расплывістыя цені прахожых, мітусню агнёў і ніяк не мог пагасіць у сабе нудных, надакучлівых, як гэтая макрэдзь, думак.

Ужо не першы год насіў ён у сабе тую тугу і трываў, бо што было рабіць? Даўно ўжо мінулася ў яго душы ўсякая павага да жонкі — недалёкай, поўнай дробязных клопатаў жанчыны, якая неўзаметку неяк прыйшла ў яго жыццё, як гэты шэры восеньскі вечар на змену дню. Вечна яна гаспадарыла, усе яе інтарэсы заўжды межаваліся кухняй, суседзямі і рынкам. Яна не цікавілася яго справамі, яго турботамі, а ён хацеў шмат чаго большага — хацеў агульнасці ўзроўняў, шырыні поглядаў, маладой весялосці ў жыцці, лёгкасці ўзаемаадносін. І крыўдна было тое, што жонка не хацела разумець яго дамаганняў, лічыла, што ён проста дзівачыць, і паранейшаму старанна мыла посуд, дбала пра хатнія набыткі і штодзень клала неразгорнутымі атрыманыя ўранку газеты. Андрэя Андрэевіча спачатку раздражняла гэтая прыземленасць яе натуры, некалі ён часта сварыўся, а потым маўкліва замкнуўся ў кола сваіх клопатаў і толькі пакутаваў. Часам карцела перайначыць усё, разарваць з нялюбым чалавекам, але адна акалічнасць у гэтай справе была непераадольнай; яны мелі дзяцей. Кірпатая разумніца Аленка і дапытлівы дуронік Валодзька з аднолькавай неўтаймаванай сілай трымалі ў палоне абодва бацькоўскія сэрцы.

Дождж усё сыпаўся — надакучлівы, роўны, несціханы. Камарыным паскокам снавалі на лужынах яго дробныя мігатлівыя кроплі. З вадасцёкавай трубы на рагу імчаў цераз тратуар імклівы ручай, і пухіры, бы дыяменты, мільгаючы, знікалі ў рашотцы вадазбору. Побач грукалі вялізныя дзверы «Гастранома», ад вулічнай непагадзі слязліва пацелі вітрыны. Па дарозе дадому Андрэй Андрэевіч часта заходзіў у гэты магазін, купляў дзецям гасцінцы. Ён зайшоў сюды і цяпер. Ля кас і прылаўкаў тоўпіліся пакупнікі, мільгалі ўсмешкі, рукі, позіркі, сумкі. Шум і гоман мноства людзей даходзіў да пачуццяў panылага Андрэя Андрэевіча нейкім невыразным клубком чалавечай задаволенасці, якая ў гэтай раскошы магазіна, здавалася, перапаўняла ўсіх і якой так не хапала яму. А душа ўсё прагла нечага светлага, ціхага, добрага…

Ён купіў дзецям дзве шакаладкі і, паназіраўшы з хвіліну за людскім тлумам, падаўся ў дзверы.

На вуліцы зноў ахапіла яго дрыготкая восенская золь, пасля светлага цёплага прытулку асабліва агорклай здалася гэтая сырасць. Андрэй Андрэевіч наставіў каўнер і пайшоў далей у мокрую зіхатлівую ноч, несучы з сабой маркотныя думы чалавека, зморанага непагодай жыцця. Часам ён лавіў на сабе нейкія асаблівыя ў паўзмроку адкрытыя і цікаўныя жаночыя позіркі — загадкавую ласку струменілі прывабныя вочы, але не радасць, не шчасце, а боль і тугу параджалі яны ў чалавечым сэрцы.

Андрэй Андрэевіч уздыхае толькі і думае пра другую жанчыну, з якой у яго магло быць шчасце, — бадай, сапраўднае шчасце, што рэдка спраўджваецца і аб якім падоўгу, настойліва марацъ людзі. Была чароўная суладнасць пачуццяў, узаемная павага і прыязнасць, чыстае светлае сяброўства. У тую адзіную ў кожнага чалавека вясну ўспыхнула каханне, і здавалася, нішто не ў стане парушыць іхняга шчасця. Але, дзіўная справа — яны парушылі яго самі.

Ніна тады канчала інстытут і якраз уваходзіла ў тую пару маладосці, калі зусім нечакана, увачавідкі расцвітае дзявочая прывабнасць. Не памятаючы сябе, захапіўся Андрэй яе чараўнічай маладой жаноцкасцю, узнёсласцю яе мараў, начытанасцю і спагадлівай чуласцю да чужых турбот. Абое яны з першай самаадданай гарачнасцю пакахалі адно аднаго — была вялікая радасць ад таго кахання, але яна несла і вялікае гора. Аднойчы выпадкам ён сустрэў яе ў гарадскім парку з двума маладымі афіцэрамі — яна не бачыла яго і гэтак, як і з ім, была вясёлая, жартоўная, і тая яе весялосць балючай крыўдай ударыла. ў Андрэева сэрца. Яны пасварыліся неўзабаве, і ён дзеля помсты і са злосці, не падумаўшы, пачаў заляцацца да другой. Не шмат мінула часу, і калі апамятаўся хлопец, Ніна была ўжо замужам — не за кім-небудзь з тых, сустрэтых у парку, а зусім за іншым, не вядомым яму чалавекам.

Гэта было ў сорак пятым годзе, у далёкім невялічкім горадзе на ўзбярэжжы славутай ракі, дзе незабыўнай казкай прамільгнула яго дзяцінства. Потым абое яны раз’ехаліся і ўжо не сустракаліся болей. Хутка раззлаваны і зняважаны Андрэй Андрэевіч ажаніўся са сціплай ціхманай трэстаўскай машыністкай, аднак неўзабаве адчуў, што страціў сваё вялікае шчасце, а набыў незадаволенасць і горыч, толькі каго было вінаваціць у тым?

У апошнія гады Ніна ўсё часцей і часцей з’яўлялася ў яго памяці — паўставала ва ўяўленні такой, якою ён ведаў яе калісьці — маладой, клапатлівай, прыветнай. Калі-нікалі яна снілася яму, і жаданы мілы вобраз яе выклікаў нясцерпную тугу ў чалавеку.

Андрэй Андрэевіч назаўтра хадзіў панылы, змрочны, разгублены, злосна пазіраў на дачасу раздабрэлую жонку і маўчаў. Жонка здагадвалася пра яго пакуты і нічога не распытвала, затое Алёнка, чуллівая да ўсякіх перамен у бацькоўскай душы, адразу насцярожвалася і пыталася, чаго татка сярдзіты. Ён на момант абуджаўся тады з паныласці, вінавата зазіраў у празрыстыя, крынічныя вочкі дзіцяці, супакойна гладзіў яе светлую кучаравую галоўку і казаў, што зусім ён не сярдзіты, што ён «так». Дзяўчынка недаверліва пазірала ў яго твар — здаецца, нешта ўжо адчувала яна, ды не магла зразумець.

Сам баючыся ў тое паверыць, Андрэй Андрэевіч няўрымсліва кахаў Ніну, вечары і доўгія бяссонныя ночы марыў аб ёй, жыў далёкімі незабыўнымі ўспамінамі аб іх кароткім каханні. Але ён не ведаў, дзе яна, што з ёй, як уладкавалася яе шчасце. Чамусьці ўвесь час жыла ў ім упэўненасць, што і яна не знайшла радасці ў паспешлівым замустве — папраўдзе ён вельмі хацеў, каб і яна не была шчаслівая, задаволеная — гэта прынізіла б яе ў ягоных вачах. Вядома, ён мог бы напісаць знаёмым, спытаць пра яе, але ён не наважваўся зрабіць гэта, бо не было ўпэўненасці, што не ўчыніць чаго-небудзь і не накліча гэтым вялікай бяды. Так ішоў час, і яна ўсё жыла з ім — у яго ўяўленні, думках, пачуццях — усё болей ушыркі і ўглыб разрастаўся ў яго душы яе выпеставаны ў марах вобраз.

Затканая сеткай дажджу, у канцы вуліцы вынікла плошча. Цьмянымі расплывістымі плямамі блішчалі ліхтары, у шэрым змрочным тумане невыразнай глыбай высіўся помнік. На голых галінках прысадаў, бы перламутравыя пацеркі, варушыліся вялікія кроплі, ліпла да тратуара сарванае непагодай пажоўклае лісце.

На аўтобусным супынку Андрэй Андрэевіч стаў за плячыстым у зялёным капелюшы мужчынам, наперадзе стаяла дзяўчына. Абое яны хавалі пад парасонам свае галовы, дзяўчына даверліва тулілася да дужай постаці свайго спадарожніка і ўвесь час гарэзна пазірала ў ягоныя вочы. Яны нешта перагаворваліся, ціха смяяліся. Андрэй Андрэевіч чамусьці ніякавата адчуў сябе ў гэтым суседстве з закаханым чужым шчасцем, бяздумна павярнуўся і маркотна пабрыў на супынак таксі.

Машын, аднак, і там не было. Некалькі чалавек, што купкай стаялі ўскрай тратуара, нецярпліва пазіралі ў туманную далячынь і чакалі. Андрэй Андрэевіч зірнуў на людзей — побач соп дыхавічны таўсцяк з парасонам, нешта валтузілася ўсё маладая маці з дзяўчынкай, якая капрызна хныкала і нечага прасіла. Наперадзе нерухома чакала жанчына ў жаўтавым крэпдэшынавым плашчы з чамаданчыкам у руках. Не цікавячыся асабліва нікім, Андрэй Андрэевіч пачаў паглядаць на рог, адкуль выязджалі машыны.

І машына неўзабаве з’явілася. Сіняя «Победа», з мяккім шорхатам распырскваючы лужыны, гайданулася на рысорах і спынілася перад людзьмі. Да яе адразу кінулася некалькі чалавек. Андрэй Андрэевіч не ў час схамянуўся ад задумы і спазніўся — пярэднія дзверцы таксі ўжо адчыняла жанчына ў плашчы. Ад ляску дзверцаў ці мо’ ад якога ўнутранага падсвядомага штуршка Андрэй Андрэевіч зірнуў у машыну, і адразу нешта гарачае, хмельнае шыбанула ў яго галаў. Асветлены цьмяным святлом, за мокрай шыбаю аўтамабіля на адно нейкае імгненне мільгануў гэткі знаёмы і родны твар яго Ніны. Ад нечаканасці Андрэй Андрэевіч слаба ўскрыкнуў, рвануўся з месца і, штурхнуўшы некага, рынуўся наперад. Але машына ўжо бліснула чырванню стоп-сігналаў і падалася на плошчу.

Ён саскочыў з тратуара, кінуўся ўслед, прыдушаным чужым голасам гукнуў «Ніна», ды ўрэшце куды было гнацца! Невядома, што стала б з ім, калі б побач зноў не бліснулі яркія фары і зноў не спынілася таксі. Як апантаны, Андрэй Андрэевіч кінуўся да шафёра, нешта незразумелае крыкнуў яму, спрабуючы адчыніць дзверцы, зачыненыя знутры. За ручку разам з ім ухапіўся той дыхавічны таўсцяк і таксама абурана крычаў нешта. Андрэй Андрэевіч не звяртаў на яго ўвагі і, як толькі адчынілася машына, уваліўся туды і роспачна загаманіў шафёру;

— Братка, хутчэй… дагнаць трэба… вунь тую, сінюю…

Вадзіцель здзіўлена паглядзеў на ўзрушанага пасажыра, аднак хутка адпусціў тормаз. Не стрымліваючы нервовых дрыжыкаў, Андрэй Андрэевіч утаропіў праз шкло ліхаманкавы позірк — у туманнай далечы плошчы за помнікам, запаліўшы асфальт яркай чырванню, аддалялася сіняя «Победа».

Машына паслухмяна імчалася па мокрым асфальце, але Андрэю Андрэевічу здавалася, што яны едуць марудна. Ён жаласліва прасіў шафёра паддаць хады, а ў самога ўсё напялася ўнутры, дрыжала ад напружання кожная жылка, пачуцці заліла нязмерная радасць сустрэчы, у той жа час яго працінаў страх ад думкі згубіць «Победу». Ён так многа выпакутаваў за гэтыя гады, з такою сілай успыхнула ў ім жаданне бачыць Ніну, што, пэўна, ён гатовы быў зрабіць злачынства, каб толькі дагнаць яе.

Па роўным прамым праспекце сіняя «Победа» прывяла іх на вакзальную плошчу. Там яна на нейкі час прапала за аўтобусам, схаваўшыся, раз’ехалася з грузавымі машынамі і збочыла да білетных кас. Прыпаўшы да слязлівага шкла, Андрэй Андрэевіч пільна сачыў за ёю.

Яны трохі спазніліся. «Победа» на кароткім супынку ўжо высадзіла пасажырку і, зрабіўшы па плошчы шырокі круг, паварочвала ў горад. Неўзабаве спыніліся і яны, і Андрэй

Андрэевіч, нават не зачыніўшы дзверцаў, подбегам кінуўся ў мітуслівы натоўп.

У штурханіне і гомане вакзала ён знайшоў Ніну перад раскладам руху цягнікоў. Яна чытала гэты расклад, пэўна, збіралася некуды ехаць. У Андрэя Андрэевіча моцна застукала сэрца і ажно аслабелі ад хвалявання ногі, калі ён наблізіўся да яе. Зноў не сваім, зацятым голасам ён неяк спуджана клікнуў;

— Ніна!

Яна ўздрыгнула, хуценька павярнулася, выявіўшы ў вялікіх вачах выразны спалох, які зараз жа змяніўся здзіўленнем. Нясмелая ўпачатку радасць адбілася на яе белым, паўнаватым твары. Яна ўскінула да яго руку ў пальчатцы, ён ухапіўся за яе дзвюма сваімі мокрымі далонямі і казаў нешта, сам не разумеючы што...

— Вось як... Знайшлася... Вось...

— Андрэй! — слаба ўскрыкнула яна, і ад хвалявання захадзілі яе высокія грудзі. — Андрэй, адкуль ты?..

— Ды вось стрэліся, — трохі ўжо авалодаўшы сабой, казаў Андрэй Андрэевіч. — Ты едзеш куды?

— Я? Ага, еду... Ці яшчэ не, але трэба... Сёння паеду.

Тады ён далікатна ўзяў яе за локаць і, патроху перамагаючы хваляванне, павёў між людзей у цесным праходзе.

— А я, ведаеш, на плошчы зірнуў у таксі, гляджу; ты! Ну, я на другое, даганяць. Ледзь-ледзь не згубіў... Вось...

Здарылася ж як! — ужо без ценю былых пакут і сумненняў радасна казаў Андрэй Андрэевіч.

— А як жа гэта ты? Адкуль? — пыталася яна, паслухмяна ідучы поруч і пільна ўглядаючыся ў яго твар, які ўсміхаўся збянтэжанай, трохі сарамлівай усмешкай...

— Я жыву тут... Ужо тры гады... Працую ў трэсце інжынерам.

Яны прабраліся ў самы кут пачакальнай залы, прыселі на ўскрайку дубовай з высокай спінкай канапы. Побач, узваліўшыся на чамадан і захінуўшы твар каўняром, ляжаў нейкі здарожаны пасажыр. Яны, аднак, не зважалі ні на кога.

— Ой, якая сустрэча!.. Якая сустрэча! — ад здзіўлення ці ад радасці, усё ўзіраючыся ў яго, казала Ніна. — А ты не змяніўся, Андрэйка. Усё такі, як быў. А колькі ўжо год мінула!..

Яна нялёгка ўздыхнула. Ён таксама з замілаваннем, з незразумелай тугой і бязмерным шчасцем глядзеў у яе прыемны, маладжавы, крануты сумнай усмешкай твар з падведзенымі тонкімі брывамі і па—ранейшаму доўгімі вейкамі. Яна зняла з галавы намоклы капюшон і апынулася ў модным зялёным бярэціку на кароткіх ільняных завітках. На Андрэя Андрэевіча адразу дыхнула ўспамінамі пра іх незабыўнае былое. Здавалася, усё, што

было ў ягоным жыцці без яе, было сном, хворым трызненнем, а цяпер прадаўжаецца тое, ранейшае. Але трохі ўгледзеўшыся ў яе падпудраны твар, Андрэй Андрэевіч улавіў у ім нешта новае, невядомае яму, набытае, відаць, у тыя доўгія гады іхняй ростані. Аднак ён яшчэ не хацеў заўважаць гэтага і сказаў шчыра;

— І ты ўсё такая ж, Ніна...

Нешта, пэўна, большае, чым трэба было, вымавіў ён у апошнім слове, бо ў яе вачах бліснулі на момант іскрынкі нейкай здагадкі, але яна хутка пагасіла іх і спытала;

— Ну, як жа ты маешся?

Ён не хацеў ні думаць, ні гаварыць пра сябе, ён глядзеў, глядзеў у яе любыя вочы, трымаў у сваіх далонях яе руку, і вочы яго струменілі перамешаныя хваляваннем пачуцці. Але яна спытала яшчэ;

— Як ты жывеш? Ці шчаслівы?

— Я? — чамусьці здзівіўся Андрэй Андрэевіч. Так, ён быў цяпер шчаслівы, і ўсё іншае не датычыла яго, знікла з адчуванняў, унутры чалавека бурліла хмельная радасць. — Я так, нішто, — казаў ён. — Працую. А ты? Дзе ты? Як ты? Хто ў цябе?

Яна неяк трошкі журботна ўсміхнулася куточкамі вуснаў.

— Позна ж ты цікавішся, — папракнула Ніна і коратка ўздыхнула.

Ён адчуў тады, што сапраўды вінаваты перад ёй і аж здзівіўся цяпер, як гэта ён мог гэтулькі чакаць, маўчаць, нічога не зрабіць, каб адшукаць яе, сустрэцца, убачыцца. Але ён быў шчыры з ёю, і яго радасць, яго відавочнае шчасце сустрэчы сказала ёй больш за ўсе словы.

— Андрэйка, — пазіраючы ў глыб яго ўважлівых вачэй, сказала Ніна. — А я памылілася тады... памятаеш?.. — яна апусціла вочы. Боль яе смутку кальнуў у душы Андрэя Андрэевіча. — Я замужам, у мяне дзіця, але... мне нявесела...

— Ніна! — перабіваючы яе такі знаёмы па сабе сум і боль, загаварыў Андрэй Андрэевіч. — Не трэба цяпер пра гэта... Не трэба... Ведаеш, і мне... нявесела.

Яна яшчэ маркотна, бы з недавер'ем, зірнула на яго і зноў уздыхнула. Ён змоўк, і тады ўпершыню патухла радасць і ў яго стомленых цёмных вачах.

Нейкі час яны задуменна маўчалі. Паволі ўлягалася ўзрушанасць, новыя, засмучоныя ноты напаўнялі перажыванні абоіх. У ёй гэтая засмучонасць таксама была новая, незнаёмая яму: нейкае капрызнае раздражненне на кароткі час з'явілася на яе твары. Яна крыху задумалася — можа, што ўспамінала, — рукі яе у намоклых рукавах плашча нервова варушыліся на каленях, пальцы няўцямна церабілі пальчатку. Але так працягвалася нядоўга, хутка

яна зноў, ужо весялей, зірнула на Андрэя Андрэевіча, відаць, перамагла нешта ў сабе і спытала:

— Як жа гэта ты, аднак, уздумаў даганяць мяне?

Мноства гарачых пакутных слоў узнялося тады, перамяшалася ў яго галаве, ад перажытага ўзрушання зблыталіся

яго думкі і намеры, і ён кусаў толькі свае засмяглыя вусны. Трэба было сказаць самае галоўнае, самае важнае, аб чым марыў ён доўгія гады. Жанчына нібы разумела гэта і чакала, не ў стане згасіць у вачах нямое трывожнае пытанне.

— Ніначка, каб ты толькі ведала! — натужна сказаў ён, глынуўшы ў горле пакутны камяк.

Яна павесялела ад яго невясёлых слоў, зноў, як калісьці ў далёкія гады, прыхінулася плячом да яго, узяла ў свае яго вялікую з набраклымі жыламі руку.

— У цябе сям’я.

— Так, сям’я, — сумна сказаў Андрэй Андрэевіч. — Двое малых...

— У мяне дачка... Вялікая ўжо... Муж маёр. Прыехалі вось з Далёкага Усходу. Ведаеш, як я апынулася тут? Ты мне сніўся ўчора, — стрымана бліснуўшы вачыма, паведаміла Ніна. — Я кінула ўсё і паехала... Шукаць цябе, — даверліва прызналася яна.

Побач за высокай спінкай канапы гаманіў вакзал, снавалі людзі, глуха хроп сусед, падкурчыўшы на сядзенні ногі. У цьмяным вялізным акне гулялі вулічныя водсветы, раўлі, лязгалі цягнікі за сцяной. Яны ж забыліся на свае справы і турботы, сядзелі, прыпаўшы адзін да аднаго, і слухалі пакутную споведзь сэрцаў.

Але ўляглося першае хваляванне сустрэчы, і неяк нечакана хутка мінулася яе чароўнае замілаванне, нешта куды больш простае і звычайнае ўваходзіла ў душу. Андрэй Андрэевіч усё глядзеў на жанчыну — збоку ён бачыў яе маленькае мяккае вушка, напалову схаванае ў завітках валасоў, далікатны, бы ў дзіцяці, пушок на шыі, і чамусьці гэтае суседства каханай усё меней кранала яго. Незразумела, чаму так хутка ў гэтай сустрэчы зніклі і хваляванне, і боль, і нават радасць, і ўнутры ў ім усё выразней расла незразумелая прыкрая няёмкасць. Прыгарнуўшыся да яго, сядзела любая жанчына, яго колішняя Ніна, а ў вачах чалавека праз туман гадоў выплываў іншы вобраз — вобраз той смяшлівай дзяўчыны, што засталася некалі ў далёкім горадзе на ўзбярэжжы славутай ракі... Андрэй Андрэевіч, крыху збянтэжаны ад такога здрадлівага пачуцця, душыў у сабе тую прыкрасць — ён не хацеў разлучацца са сваім выпеставаным у марах шчасцем.

— Разумееш, я ўжо думала розум страчу. Так прыкра, так сумна... А муж вечна заняты, нічога не бачыць, апроч сваёй справы... не цэніць. Спіць і ўсё мармыча пра нейкія свае клопаты.

А я… а мне надакучыла гэта, я жыць хачу… Навошта гіне маё хараство?.. Думаю: прападзі яно ўсё пропадам, купіла білет і — сюды. Але хіба знойдзеш, не ведаючы! І вось ты — нібы сам бог паслаў.

Яна кінула на яго смяшлівы позірк і ніякавата, нібы засаромеўшыся, пачала церабіць пальчаткі, пасля, прывычна прыхарошваючыся, папраўляла валасы, бярэцік, полы плашча, і гаварыла, гаварыла… Ён маўчаў, слухаў пра яе жыццё з нялюбым, занятым службаю мужам і жахаўся, думаючы, што, бадай, гэтак сама сказала б пра яго самога ягоная жонка. Ён шчыра намагаўся выклікаць у сабе спагаду да жанчыны, але ў глыбіні душы ўсё настойлівей раздзімаўся яшчэ не ўсвядомлены да канца агеньчык незадаволенасці, прыкрасці ад яе апавядання. Нечага іншага карцела яму, нечага былога і каханага неставала ў ёй, і здавалася, быццам побач сядзіць нейкая незнаёмая, чужая жанчына.

Аднак яны доўга сядзелі прыгарнуўшыся і не чулі, як ішоў час. Сусед, што спаў побач, раптам прахапіўся, спачатку ўскінуў галаву, потым спусціў на падлогу ногі і запытаўся сіплым заспаным голасам:

— Колькі часу, не скажаце?

— Дваццаць хвілін на першую, — сказала Ніна і сама войкнула. Яна спазнялася на цягнік, да яго адыходу заставаліся апошнія хвіліны. Толькі зараз, узняўшыся з канапы, заўважылі яны, што ў зале прыкметна пацішала — людзі павыходзілі на пасадку — то быў апошні цягнік уначы. Сусед-пасажыр, сонна сапучы, знік недзе ў дзвярах, побач болей не было нікога, толькі на жаўтаватым узорным паркеце ляжалі нерухомыя цені канап.

Ніна збянтэжана замітусілася, зашпільваючы плашч. Мімаволі Андрэю Андрэевічу кінулася ў вочы сытая паўната яе некалі тонкага дзявочага стану. Жанчына была вельмі ўсхваляваная, белыя шчокі яе нервова ружавелі, вочы блішчалі трывогай. Андрэй Андрэевіч стаяў маўклівы і сумны.

— Андрэйка! — умольна сказала яна, горнучыся да яго і закідваючы галаў, каб зазірнуць у яго невясёлы твар. — Андрэйка, што нам рабіць?

Андрэй Андрэевіч маўчаў. Колькі гадзін назад, даганяючы яе, ён не ведаў яшчэ, што мог бы зрабіць дзеля гэтай жанчыны. Цяпер ён адчуваў, што, бадай, ужо нічога не вырашыць і нічога не скажа ёй.

— Андрэйка, шчасце, шчасце мінаецца… Гады ідуць… Што будзе потым, Андрэйка?.. Я чакала цябе… Ну, скажы мне што-небудзь…

Ён чакаў таго і баяўся. Баяўся, бо гэта было вялікае, складанае пытанне, незразумелае, загадкавае, і цяпер, калі ў яго

адчуваннях перамяшалася ўсё, ён не ведаў, як паставіцца да здарэння. За гэтую нерашучасць і няўцямнасць ён праклінаў сябе ў думках, але маўчаў і разгублена глядзеў на жанчыну.

Яна абхапіла яго за плечы, утуліла твар у вільготныя складкі плашча, прыціснулася да яго ў роспачным дрыготкім парыве.

— Давай сыйдземся, будзем жыць, будзем кахаць адно аднаго, паважаць, шанаваць… Давай, Андруша!

Андрэй Андрэевіч балюча сцяў сківіцы.

— А дзеці? — спытаў ён сіпатым, тугім голасам, бы яго хто ўзяў за горла.

— Дзеці? — здзівілася яна і ўскінула ўгору заплаканы мокры твар. — Дзеці? У мяне добрая дзяўчынка, ты будзеш любіць яе як бацька… Ты будзеш рады… Яна паслухмяная такая, прыгожанькая… Андруша!!!

Яму зрабілася крыўдна, балюча ад таго, што яна не зразумела яго ці прыкінулася, што зразумела не так. І тады нешта новае з'явілася ў яго адчуванні — ён ужо ведаў, што ў нечым доўга памыляўся ў жыцці.

— А як жа мае дзеці? — разгублена спытаўся ён і нахмурыўся.

Яна адразу змоўкла, насцярожылася. Андрэй Андрэевіч адчуў, як звялі на яго плячах яе рукі — неўзабаве яна зусім прыняла іх. Потым жанчына пільна паглядзела ў схаладзелыя вочы Андрэя Андрэевіча і, відаць, не знайшоўшы таго, што шукала, моўчкі ўздыхнула.

А Андрэя Андрэевіча апаноўвала прыкрасць. Яна ўжо прарвалася ў душу шырокім струменем і засмучала яго міжвольна, але няўхільна, усё болей аддаляючы гэтую нядаўна жаданую жанчыну. І чамусьці ў тыя хвіліны Андрэй Андрэевіч забыўся на свае мары, на сваю няўтольную прагнасць да ціхага шчасця, яму стала ніякавата ад гэтай сустрэчы, ён шкадаваў ужо нечага, што адбылося сёння, злаваў на сябе за супярэчлівасць пачуцця да Ніны і зноў пакутаваў. Але ён усё ж прыцяў у сабе незадаволенасць і раздражнёнасць, выкліканую яе дамаганнямі, і сказаў ціха:

— Не, так нельга, Ніна…

Тады яна ўзяла свой чамаданчык і, разважыўшы нешта, паціху пайшла па праходзе. Ён падаўся следам.

Чыгуначнік з чырвонай павязкай выпусціў іх на перон. Уздоўж вузкай апусцелай платформы стаяў цягнік. Дождж перастаў, усюды ў лужынах ззяла адлюстраванне агнёў.

Ён вёў яе па доўгай платформе паўз уважлівыя позіркі нерухомых правадніц, і здавалася чалавеку: чужыя вочы з дакорам, бы ведаючы што, пазіралі на іх. А ў галаве Андрэя

Андрэевіча настойліва чамусьці стукала неадчэпная думка: «Як жа гэта?.. Як жа гэта?..»

Недзе ў зіхатлівай цемры станцыі працяжна зароў паравоз. Ніна, разгубіўшыся, кінулася да свайго вагона, потым спынілася, падалася да Андрэя Андрэевіча, ухапіла яго за рукі.

— Андрэйка, падумай… Пішы, я чакаю… Чуеш?

— Куды ж пісаць? — усміхнуўся ён, згладжваючы ўсмешкай няёмкасць ад такой ростані. Яна выхапіла з сумачкі кавалак паперы, нешта чыркнула алоўкам і падала яму.

Калі цягнік крануўся, яна ўсё стаяла на прыступках і з—за спіны правадніцы махала яму. Ён трохі прайшоў следам, але цягнік усё набіраў імпэт, і вагоны, бліскаючы вокнамі, неўзабаве абагналі яго.

Тады Андрэй Андрэевіч спыніўся, не разумеючы добра, што адбылося. Нешта ціха, маўкліва і пуста стала на душы, і ён не ведаў яшчэ, радавацца ці бедаваць ад гэтага. То яму здавалася, што ён другі раз пакрыўдзіў яе, то сам пачынаў крыўдзіцца на Ніну. Пастаяўшы так, ён сунуў у кішэню паперку з яе адрасам — рука абмацала там шакаладкі, купленыя ў «Гастраноме», і чалавек нібы вярнуўся да будзённай свае рэчаіснасці. Ён неяк усміхнуўся, думаючы, што дзеці, пэўна, паснулі ўжо, не дачакаўшыся сёння яго гасцінцаў, і нешта цёплае, замілаванае ўвайшло ў яго пачуццё.

А ў небе тым часам зусім зніклі хмары, і над горадам высыпалі мігатлівыя зоры. «Пэўна, распагодзіцца», — машынальна падумаў Андрэй Андрэевіч, зірнуўшы ўгору, і ўздыхнуў, як уздыхаюць, пазбавіўшыся нялёгкіх турбот. Пасля ён шпарка пайшоў па платформе…

1957

**Уначы**

У нізкім мураваным пад'ездзе старога будынка-інтэрната стаялі два хлопцы. Адзін — Піліп Лапата — прысадзісты, дужы дзяцюк у чорным пінжаку, які туга напяўся на яго шырокіх плячах — нецярпліва пазіраў маленькімі вочкамі на двор, — відаць, кагосьці чакаў. Другі — Алесь Вострыкаў — здаваўся абыякавым да непакою таварыша і задуменна калупаў заплямленую, даўно не фарбаваную сцяну пад'езду. Быў ён невялічкі, тонкі, у старэнькай, аблезлай і мытай-перамытай фэзэзнаўскай форме; на твары яго з драбнаватымі рысамі ляжала панылaсць. Калі, нарэшце, са двара паказаўся трэці, той, каго чакалі, Піліп загаварыў, і яго басавіты голас, нібы ў дзежцы, забумкаў пад нізкім скляпеннем пад'езду.

— Ну, чаго ты так доўга, Сёмка?

— Ат! — махнуў рукою Сёмка. — Няма кім падмяніць. Пайшлі!

Юнак быў відавочна раззлаваны нечым, і яны ўдвух з Піліпам падаліся на вуліцу. Алесь пачакаў, пакуль яны мінуць яго, і нетаропкай, сумнай хадой пабрыў следам.

Сонца схавалася за дахамі, але яго няяркія промні яшчэ поўнілі спакойны блакіт нізкім святлом адвячорка. Там, угары, было светла, цёпла і ўтульна, і ў самым зеніце, быццам ладкуючыся на адпачынак, спыніла свой дзённы рух белая хмурынка. На зямлі ад нагрэтых камяніц патыхала духатой, пахла пылам; як звычайна ў суботу, на тратуарах тоўпіліся пешаходы; запозненыя аўтамабілі пакідалі за сабой устойлівы ў цішы пах бензіну.

Алесь паныла ішоў за таварышамі і моцна крыўдзіўся. І як было не крыўдзіцца, калі тыя хлопцы, з якімі ён працаваў на адных рыштаваннях, жыў у адным інтэрнаце, сёння так пагардліва паставіліся да яго?

Уся справа пачалася адвячоркам, калі ад іхняй брыгады садзеяння міліцыі вылучаўся камсамольскі патруль. На гэта як заўсёды прызначылі двух: Піліпа Лапату і Сёмку Зубрыцкага, трэцім упершыню сёння наказалі збірацца Вострыкаву. Алесь пачысціў свой старэнькі фэзэзнаўскі гарнітур, прышыў белы каўнерык, наваксаваў туфлі і, крыху ўзрушаны, чакаў, калі выходзіць. Але тут выявілася, што Сёмка і Піліп незадаволены трэцім супольнікам і не хочуць разам з ім ісці ў патрулі. Алесь, папраўдзе кажучы, разумеў іх: для такой справы патрэбны быў бойкі, рухавы хлопец. Ён жа сціплы, не дужа смелы і не дужа моцны, і ў такой справе гатовы быў уступіць сваё месца больш вартаму. Але вось больш вартага не знайшлося сёння ў іхнім інтэрнаце. Пасля работы ўсе разышліся хто куды, і Алесь мусіў

збірацца з Пиліпам і Сёмкам, якія злавалі, што ў іхнюю кампанію трапіў нежаданы чалавек.

Праўда, яны хутка забыліся на сваю злосць. Жвавы чарнавокі Сёмка шпарка сігаў па тратуары і, цікуючы між сустрэчных прыгожых дзяўчат, апавядаў нешта вясёлае. Лапата слухаў і ляніва ўхмыляўся вузенькімі вочкамі на дабрадушным санлівым твары. На Алеся яны махнулі рукой — ат, маўляў, няхай ідзе, калі хоча, а не хоча, няхай вяртаецца: бяда невялікая.

Але Вострыкаў не вярнуўся, а з самотнымі думкамі ішоў следам. Ды і чаго было вяртацца, калі ў інтэрнаце пуста і сумна, блізкага сябра ў Алеся яшчэ не было, і ніхто яго не чакаў там. Другія неяк зыходзіліся, разам працавалі, разам гулялі, а ён, ціхі, сціплы і непрыкметны, ад усіх заставаўся ўбаку. У сяброўства да яго ніхто не набіваўся, ды і ён асабліва не лез да іншых.

Хлопцы прайшлі люднай вуліцай, мінулі ўжо агорнуты вячэрняй цішынёю парк і падышлі да гаркомаўскага дома. Толькі тады, адчыняючы зялёныя дзверы ў мураванай браме, Лапата азірнуўся і ўбачыў Алеся, які ўпарта цягнуўся ззаду. Піліп знарок моцна грукнуў дзвярыма і ўвайшоў у двор.

Там ужо было шмат народу — навучэнцы школ ФЗН, студэнты педінстытута, чыгуначнікі і маладыя рабочыя заводаў, — яны сабраліся сюды і чакалі інструктажу. Трымаліся ўсе купкамі, сядзелі на ганку ўздоўж сцяны і нават на нізенькім шчыкетніку ля брамы. Увайшоўшы сюды, Алесь разгубіўся, не ведаючы, куды падацца. Хутка ён убачыў сваіх, Сёмку і Лапату, якія ўжо размаўлялі з нейкім віхрастым у акулярах хлопцам. Алесь здалёк ваўкавата паглядзеў у іх бок, але не пайшоў туды, а, уздыхнуўшы, прыткнуўся ля загародкі побач з групай гаваркіх студэнтаў.

Блізка за брамай гаманіла вуліца, шорхалі ногі па асфальце, і ў двор даносіліся ўрыўкі чужых вясёлых размоў. У двары таксама шумелі галасы, адчуванне нязведанай новай справы ўзнесла хлапечы настрой. Студэнты ўжо, відаць, не ўпершыню выпраўляліся ў патрулі і цяпер дасціпна фантазіравалі на тэму начных прыгод. Усе навокал гаманілі і смяяліся, прадчуваючы забаўныя падзеі, адзін толькі Алесь Вострыкаў, маўклівы і насуплены, сядзеў тут, на мулкай загародцы, і дзёўб абцасам упартую да жыцця мураўку.

Але вось той віхрасты ў акулярах, з якім размаўлялі хлопцы, выйшаў на сярэдзіну і сказаў, што трэба пастроіцца. З жартамі і вясёлымі кпінамі наконт свайго вайсковага спрыту моладзь падалася да яго і пачала нязграбна станавіцца ў шарэнгу. Алесь таксама ўстаў і, не ведаючы, дзе прыступіцца, стаяў зусім разгублены і чамусьці ніякавата моршчыў кароценькі, амаль

дзіцячы нос. Ён пэўна стаў бы дзе-небудзь на левым фланзе, калі б не пачуў басавіты голас Піліпа Лапаты:

— Вострыкаў, давай сюды!

І дзіўная справа — душа чалавечая! Знаёмы Лапатаў голас прагучаў сярод гоману, як нешта сваё, блізкае і роднае. Алесь адразу адчуў, што трымацца замкнёна і воддаль у яго не стае моцы. Адчуваючы, як пацяплела ў душы, ён знарок паволі падышоў да хлопцаў і дзікавата яшчэ стаў у шарэнгу побач з Лапатам. Выроўніваючыся, хлопцы спачатку штурхаліся і сціскалі яго, паводзячы з боку ў бок, а потым неяк выпхнулі ў першы рад, дзе было вальней, і ён такім чынам апынуўся ля Сёмкі, які нядобра паглядзеў на яго.

Калі шум крыху ўгаманіўся і шарэнга яккольвечы ўладкавалася на двары, віхрасты ў акулярах аб'явіў, што ён — начальнік штаба камсамольскіх патрулёў, і пачаў інструктаж. Ён сказаў, што ў горадзе здараецца шмат хуліганскіх учынкаў, што камсамол павінен выкараняць іх, і для таго прызначаюцца патрулі, у задачу якіх уваходзіць выяўляць хуліганаў і папярэджваць хуліганства. Дзесяткі з тры хлопцаў уважліва слухалі яго, потым віхрасты разгарнуў спіс, што трымаў у руцэ, і пачаў размяркоўваць патрулёў па аб'ектах.

Пакуль называліся незнаёмыя прозвішчы і вызначаліся месцы, Алесь пазіраў на начальніка штаба і паціху слухаў, як варушыўся збоку яго сусед Сёмка. Ён усё перашэптваўся нешта з Лапатам і хіхікаў немаведама чаго, аднак Алесь не паварочваўся і не ўнікаў у іхнюю весялосць.

Нарэшце дайшла чарга і да іх. Віхрасты выйшаў на сярэдзіну шэрага і зачытаў:

— Дзесяты будтрэст: Лапата, Вострыкаў, Зубрыцкі. Будзеце патруляваць па вуліцы Пясчанай і ля інтэрната цагельнага завода. Звернеце асаблівую ўвагу на клуб завода. А хто старшы ў вас?

Начальнік павёў акулярамі, нібы стараючыся ўбачыць у шэрагу будаўнікоў старшага, але тыя стаялі маўклівыя і не ведалі, хто ў іх старшы.

— Што, няма старшага? — перапытаў ён. — Ну, вось... Вострыкаў і будзе ім.

Алесь збянтэжана зірнуў на начальніка штаба, не ведаючы яшчэ, жартуе той, ці сапраўды загадвае яму. Але пакуль хлопец гадаў, віхрасты ўжо зрабіў адзнаку ў сваім спісе.

— Я не старшы, — запярэчыў Алесь. — Я не ўмею...

Начальнік штаба толькі ўсміхнуўся.

— Ну, што вы? Зможаце, гэта нескладаная справа.

Алесю зноў стала ніякавата, праўда, ужо з нейкай іншай

прычыны, чым раней. Лапата ззаду прыціх, а Сёмка неяк адразу насцярожыўся — Алесь не бачыў, але, стоячы побач, адчуў гэта. Начальнік тым часам падаў яму чырвоную нарукаўную павязку старшага патруля і зноў паўтарыў, на што трэба звярнуць асаблівую ўвагу.

Так нечакана для сябе Алесь зрабіўся старшым, і, толькі калі віхрасты перайшоў да іншых, паверыў, што ўсё гэта адбылося ўсур'ёз і канчаткова.

Нарэшце ўсе справы былі скончаны. Хлопцы ў двары парушылі строй, з гамонкай і мітуснёй збіраючыся разысціся па сваіх вуліцах, але віхрасты зноў узняў руку:

— Адну хвіліну, таварышы! На мінулым тыдні ў горадзе з'явіўся рэцыдывіст, нехта па мянушцы Фараон. Калі дзе хто заўважыць гэтага бандзюгу, то даць сігнал абавязкова. Міліцыя на яго ўжо мае справу.

Двор пачынаў пусцець, хлопцы адзін за адным выходзілі, скрыпаючы дзвярыма. Алесь, не звяртаючыся да таварышаў, яккольвечы сам завязаў на рукаве канцы павязкі і зірнуў на хлопцаў.

Яны стаялі збоч ад яго і пазіралі на новага начальніка. Лапата, як заўсёды, заклаўшы рукі ў кішэні, ледзь варушыў сваімі белаватымі вейкамі, і хто ведае, што было ў яго позірку. Сёмка ж неяк стрымана ўсміхнуўся, але, здаецца, у жвавых чорных вачах яго бліснула насмешка. І хоць у Алеся прапала ўжо ўся крыўда на хлопцаў, гэтая насмешка неяк стрымлівала яго ад канчатковага збліжэння. Аднак, узяўшы на сябе пэўны клопат за справу, ён знарок проста, нібы між імі нічога і не здарылася, сказаў таварышам:

— Ну што? Пайшлі.

— Лавіць Фараона? — перапытаў Сёмка і з'едліва ўсміхнуўся.

— Пойдзем, — няпэўна азваўся Лапата, і яны выйшлі, на вуліцу.

Сёмка і Піліп усё трымаліся поплеч, толькі крочылі ззаду, падкрэслена прапусціўшы наперад старшага з павязкай. У людской цеснаце яны ішлі ля магазінаў; Алесь трошкі скасіў вока ў бок люстраной вітрыны і аж не пазнаў сябе. За тоўстым шклом у нагу з ім рухаўся белатвары хлопец у чысценькім выпрасаваным гарнітуры, і на яго рукаве ўрачыстай чырванню ззяла павязка. Крышачку саромеючыся за сваё незаслужанае старшынства, Алесь ішоў нетаропкім, важным крокам, як ходзяць патрулі-салдаты, і з сур'ёзнай мінай углядаўся ў постаці сустрэчных.

Злева, за беленай фігурнай агарожай, стаіўся стары парк, тут быў глухі яго бок. Дрэвы стаялі паніклыя ў цішы, і між іх галля ўжо гусцеў змрок. На слупах запаліліся ліхтары, але было яшчэ відна, іх

святло марна таяла ўгары, цьмяна асвятляючы блізкае вецце дрэў. У канцы вуліцы залацістапалевым бляскам святлеў заходні ўскраек неба, аздоблены нізкай барвовай хмурынкай.

Хлопцы ішлі і ішлі ў напрамку тае хмурынкі, і ўжо ззаду засталіся людныя вуліцы і шматпавярховыя дамы. Лапата і Сёмка нешта перагаворваліся і жартавалі між сабой, а Вострыкаў пільна глядзеў па баках. Ён паранейшаму адчуваў сябе не зусім ёмка ў гэтай новай ролі. Праўда, тут, на ўскраіне, дзе прахожых было меней, ён паспакайнеў, а дагэтуль усё здавалася хлопцу, што сустрэчныя з іроніяй пазіралі на яго і, пэўна, думалі: «Вось яшчэ ўпарадкавальнік, блазан гэткі!». Асабліва дапякалі яму няпэўныя адносіны таварышаў. Была б гэта якая іншая справа, менш сур'ёзная, дык ён кінуў бы турбавацца і трымаў бы сябе куды вальней. Але цяпер ён быў тут галоўным, ад яго залежала дзейнасць патруля, і ён адказваў за яе перад гаркомам камсамола. Хлопец адчуваў гэтую адказнасць і хацеў выконваць свае абавязкі як мага лепш.

На скрыжаванні дзвюх пыльных небрукаваных вуліц ім сустрэліся двое юнакоў. Добра апранутыя, у шэрых гарнітурах з белымі каўнярамі паверх пінжакоў, яны шыбавалі пасярэдзіне вуліцы, трымалі ў роце цыгаркі і адмыслова лаяліся. Увесь іх выгляд быў нахабны і сведчыў, што хлопцы не прывыклі зважаць на чые-небудзь заўвагі. Алесь ведаў, што з такімі чапляцца — не абыдзешся без сваркі. Другім разам ён паціху прамінуў бы іх, і нават цяпер яму вельмі карцела зрабіць гэта. Але абавязкі ёсць абавязкі, і, неяк пераадолеўшы нерашучасць, ён спыніўся на асветленым ліхтаром месцы.

— Хлопцы, трэба цішэй, — як мага спакайней сказаў ён. Юнакі спынілі лаянку і, падазрона ўглядаючыся, збочылі да яго. Лапата і Сёмка адсталі ад свайго старшага крокаў на дваццаць і, размаўляючы, пляліся па тратуары. Апрача іх, на вуліцы, здаецца, не было нікога.

— Што трэба, блазан?

Гэта прамовіў пярэдні, нізкарослы таўсцяк. Ён насупіў бровы і, выцягнуўшы з кішэні рукі, пагрозліва наблізіўся да Алеся. Другі, сутулы і высокі, змрочна агледаючы яго, таксама падышоў і стаў з другога боку.

Алесь адчуў сябе зусім ніякавата ад такога пагрозлівага намеру, але, прыкідваючыся, што не прыкмячае нічога незвычайнага, цвёрда сказаў:

— Мы — камсамольскі патруль. Прашу трымаць сябе культурна.

— Ха! Патруль! — шыркнуў высокі, і яны насмешліва пераглянуліся: — Дык што табе, па мордзе заехаць?

Але тут падышлі Сёмка і Лапата і моўчкі, з гатоўнасцю памагчы, сталі ззаду. Хуліганы, відаць, зразумелі, што на баку патруля не толькі закон, але і сіла, і бокам падаліся далей. Ужо адышоўшыся, яны палаяліся і зніклі ў змроку.

Патрулі пайшлі далей. Абапал вуліцы цягнуліся нізкія аднапавярховыя дамы. У асветленых вокнах часам з яўляліся жаночыя постаці і завешвалі іх ці папраўлялі фіранкі. К ночы моцна пахла бульбоўнікам з агародаў і нечым смажаным, што рыхтавалася на вячэру. Алесь крыху хваляваўся ад той не дужа прыемнай сустрэчы і вырашыў цяпер трымацца разам. Лапата і Сёмка ішлі моўчкі, аднойчы Лапата сказаў:

— Аднак ты, гляджу, зубасты.

Алесь не ўцяміў, была гэта пахвала ці дакор, ці мо’ толькі насмешка, і адказаў, думаючы пра тых нахабнікаў:

— Іх трэба было як след прабраць.

— Затрымаць ды ў штаб адвесці,— сур’ёзна зазначыў Лапата.

Сёмка, скептычна ўсміхаючыся, запярэчыў:

— Што з імі валэндацца? Намыліць бы каркі, ды і ўсё. Я ім паказаў бы!

Ужо, бадай, добра сцямнела, калі яны прыйшлі на вуліцу Пясчаную. Гэта была звычайная ўскраінная вуліца — ціхая, з невялікімі прыватнымі домікамі, садамі і агародамі. Між дамоў цягнуліся высокія платы, над імі ў зорным небе чарнелі вішнякі, і ў дварах бразгаталі ланцугамі сабакі. Хлопцавы чаравікі мякка ступалі па ўтаптанай мураве, дзе пасвіліся ўдзень шматлікія гусіныя статкі. У канцы вуліцы згрувасціліся баракі, павеці і абпальныя карпусы цагельнага завода.

Высокае, цёмнае неба заззяла безліччу мігатлівых іскрынак. Няроўнай паласой праз зорныя абшары рассыпаўся Млечны шлях. Пасля гарадскога тлуму тут, на ўскраіне, было неяк незвычайна ціха і глуха. Здалёк даносіліся гудкі паравозаў на станцыі, на людных вуліцах бліскалі аўтамабільныя фары — іх далёкае святло палахліва блукала па сценах будынкаў.

Хлопцы прайшлі між змрочных нямых карпусоў цагельнага завода, мінулі інтэрнат. Усюды было спакойна. Вокны ў будынках ярка свяціліся, часам бразгалі дзверы, і з фортак выляталі гукі радыё. У прысадзістым доўгім будынку клуба ішло кіно. Сіняватыя промні, быццам нацягнутыя трапяткія струны, снавалі ў цемнаце над галовамі гледачоў. Патрулі спыніліся перад вокнамі, зазірнулі на экран, і Сёмка раптам загарэўся жаданнем:

— Давайце паглядзім, — прапанаваў ён Піліпу. Алесь прыкмеціў, што Сёмка чамусьці не размаўляў з ім і звяртаўся да аднаго Лапаты. Разважыўшы, што гэта благая справа — глядзець кіно, калі яны прызначаны патруляваць, старшы запярэчыў:

— Ну, нельга так. Трэба хадзіць.

— Вось мне яшчэ камандзір знайшоўся! — злосна асек яго Сёмка. — Нельга, нельга!.. Хадзем, Піліп, нас пусцяць.

Але Піліп таксама адмовіўся, і яны зноў пайшлі назад ранейшым шляхам. Цяпер ужо ззаду ішоў Сёмка. Ён пакрыўдзіўся ці раззлаваўся і не размаўляў ні з кім.

Так яны апынуліся зноў на Пясчанай — у пачатковым пункце свайго маршруту. Час набліжаўся к поўначы, вокны ў дамах ужо гаслі патроху, і ўскраіну ўсё болей апаноўвала начная ціша. Патрульства канчалася, і Алесь нават пашкадаваў, што нічога так і не здарылася ў гэты вечар.

Пакрысе ён ужо асвоіўся з новымі абавязкамі і хацеў, каб яшчэ што-небудзь здарылася і каб была якая карысць ад яго намаганняў.

У канцы вуліцы яны спыніліся ля воданапорнай калонкі. З яе загнутай трубы ціхенька цурчэў у цемры тоненькі струменьчык, хлопцы па чарзе напіліся сцюдзёнай вады, потым моўчкі пастаялі крыху.

— Ну што, бадай, хопіць на сёння? Пайшлі дамоў, — сказаў Сёмка, і кінуў у цемру акурак.

— Яшчэ трэба было б на цагельны наведацца, — запярэчыў Алесь.

— Ат, што там хадзіць! Усюды спакойна.

— Але ж там сеанс хутка скончыцца.

— Мне ўжо надакучыла бадзяцца, — стаяў на сваім Сёмка. — Пайшлі, Піліп!

Ля Піліпавага твару разгарэўся і згас у цемры агеньчык цыгаркі, і Піліп сказаў з нечаканай прыкрасцю ў голасе:

— Што ж, аднаго Алеся пакідаць, ці што? Трэба патруляваць, калі прызначылі.

Сёмка крута павярнуўся да яго і ўраз насцярожыўся, пэўна, пакрыўджаны адказам.

— Што, мо' хочаш падзяку з ім зарабіць? — з'едліва сказаў ён, гатовы, відаць, пасварыцца.

— Нашто падзяку, — спакойна адказаў Піліп. — Проста трэба прайсці.

— Ну і ідзі! — са злосцю кінуў Сёмка і хутка пайшоў ад іх.

Алесю не спадабалася гэта, але ён не спрачаўся. Сёмка быў разумнейшы, байчэйшы за яго і з усякай сваркі заўсёды выходзіў пераможцам. Алесь жа вельмі не любіў сварыцца і часта ўступаў крыклівым і нават тады, калі праўда была на яго баку. Яму цікава было толькі, чаго гэта Сёмка, звычайна такі актыўны ў камсамольскіх справах, гэтак занатурыўся сёння. І паступова ў Алеся выплыла думка, ці не яго старшынства было тут прычынай?

Калі так, то які дзівак гэты Сёмка! А Лапата вось, здаецца, іншы, куды прасцейшы і зразумелы, — таксама новая рыса ў чалавеку, бо Піліп і Сёмка даўно сябравалі, і многія лічылі, што ў іх роўныя характары.

Застаўшыся ўдвух, Алесь і Піліп моўчкі пастаялі крыху, потым Лапата сказаў, таксама, відаць, думаючы пра Сёмку:

— Раззлаваўся, дурань.

— Давай, Піліп, хутчэй пойдзем, а то сеанс скончыцца, — сказаў Алесь. Піліп, зразумеўшы таварыша, згодна налёг на хаду, і неўзабаве хлопцы зноў уваходзілі на тэрыторыю цагельнага завода.

Кіно ўжо скончылася: ля клуба чулася гамонка; у розных кірунках разыходзіліся людзі; у цемры блішчалі ручныя ліхтарыкі. І раптам аднекуль данёсся жахлівы крык:

— А-а-й! Ратуйце! Людзі!

Гэты крык скалануў хлопцаў. Алесь устрапянуўся і кінуўся бегчы на голас, за ім — Лапата.

І тут насустрач ім вынырнулі цьмяныя постаці, яны набліжаліся да патрулёў, гучна тупаючы нагамі. І калі ззаду другі раз пачуўся прарэзлівы жаночы крык, Алесь зразумеў, хто гэта ўцякае. Але на нейкі момант ён разгубіўся і, відаць, спазніўся. Покуль хлопец што-кольвечы сцяміў, трое ўцекачоў ужо міналі іх. І тады, ахоплены нейкай трывогай, што ледзяніла душу, Алесь рвануўся з месца.

— Стой!!!

Куды прапаў Лапата, ён і не заўважыў нават. Пэўна той падаўся туды, дзе здарылася няшчасце, ды ў першае імгненне Алесь і не зважаў на яго адсутнасць. Ён імчаў, што аж жарам гарэлі падэшвы і сэрца захлыналася ў грудзях. Але ўцекачы, пэўна, ведалі, што ў іхніх нагах — іх паратунак, і таксама добра шыбавалі па цёмнай вуліцы. Нейкі час адлегласць між імі і Алесем амаль не скарачалася; Алесь бачыў у цемры толькі прыгнутую постаць задняга ўцекача, пярэднія ж хутка зніклі, відаць, пахаваліся недзе.

Узрушаны здарэннем, Алесь наважыўся абавязкова дагнаць злачынцу. Ён не думаў, ці здолее затрымаць яго, не ведаў, ці хопіць у яго сілы і смеласці зрабіць гэта. Ён толькі адчуваў сваю адказнасць за яго затрымку. І гэтае адчуванне цяпер было мацней за ўсе іншыя пачуцці.

Так яны апынуліся ў тым месцы, дзе была калонка і дзе яны нядаўна стаялі ўтраіх. Алесь, сабраўшы ўсе сілы, паскорыў бег і ўхапіў злачынцу ззаду за яго адзежыну. Уцякач спатыкнуўся, і яны абодва з лаянкай пакаціліся па вуліцы.

— Ах!.. Гад!.. — задыхаючыся ад зморанасці, хрыпеў валацуга. Алесь, падаючы, ухапіўся за яго рукаў, але ўцякач моцна выцяў хлопца ў бок, вырваўся і ўскочыў. Яны сутыкнуліся на нейкі

вельмі кароткі момант, але хлопец паспеў адчуць яго моцнае пругкае цела і зразумеў, што той намнога дужэйшы. Як цяпер быў патрэбны Лапата! Але яго не чуваць нідзе — навокал ляжаў сонны маўклівы змрок.

Устаўшы на ногі, злачынца адразу кінуўся наперад. Алесь, ледзь аддыхаўшыся ад зморанасці і болю ў баку, зноў падаўся за ім. Крыўда і злосць ахапілі яго істоту, і думка, што, не ўтрымаўшы злачынцу, ён ужо не зловіць яго, моцна спалохала хлопца. Усё ж ён імчаўся следам і зноў ледзь не ўхапіўся за ўцекача, але нечакана апынуўся перад дзіркай у высокім дашчаным плоце. Тады ён спыніўся: з другога боку плота чулася зморанае цяжкае дыханне і злосны, поўны нянавісці хрып злачынцы...

— Ну ідзі, гад... калі... жыць абрыдла!

І бадай упершыню з таго часу, як ён пачуў той жахлівы крык на заводзе, хлопец зразумеў, якая небяспека пагражае яму. А калі зразумеў, дык у сэрца раптам пракраўся страх. У цемры за плотам ён адчуў лютасць раз’юшанага злачынствам чалавека і зразумеў яго рашучасць прыкончыць усякага, хто стане на яго шляху да паратунку.

Але што было рабіць? Яго назначылі старшым камсамольскага патруля, усклалі пэўныя абавязкі, надзеі. І ці мог ён пасля гэтага пакінуць злачынцу, які ўчыніў мо’ нават забойства? А што скажуць хлопцы, калі даведаюцца, што ён выпусціў бандыта толькі таму, што не хапіла смеласці?

«Але ж ён так і ўцячы можа», — мільганула трывожная думка. І хлопец, усё яшчэ працяты жахам, на адно кароценькае імгненне перамог нерашучасць і рынуўся ў дзірку. Яго з’яўленне па той бок было якраз упару, бо злачынца ўжо шкрабаў па плоце, спрабуючы пералезці ў суседні двор. Алесь падскочыў да яго і што было моцы рвануў за ногі.

Але той не зваліўся, а моцна брыкнуў нагамі і балюча выцяў Алеся абцасам у лоб. Хлопец войкнуў ад болю і, знянацку пачуўшы свой голас, ухапіўся за яго, бы за падмогу.

— Сюды! — закрычаў ён.— Сюды, людзі!

Уцякач на плоце спяшаўся, аднак Алесь хапаў яго за ногі і цягнуў долу. Нарэшце ён зваліўся і накінуўся на хлопца.

У кутку між платоў, на лапушыстай, ужо пакропленай расою гародніне пачалася лютая барацьба. Злачынца некалькі разоў балюча ўдарыў хлопца, Алесь прыгінаўся, біў, куды траплялa, але вельмі хутка адчуў, што перамога будзе не на яго баку. Уцякач кароткай спрактыкаванай хваткай паваліў хлопца і ўсім сваім цяжарам наваліўся на яго. Адной рукой ён мерыўся ямчэй таўхануць пад дых, а другой хапаў за горла. Алесь круціўся пад ім, як мог, у яго вачах ужо разы са два бліснулі агністыя іскры і заняло

дыханне. Нарэшце, неяк устрапянуўшыся, хлопец ухапіў зубамі варожую пяцярню, што дабіралася да яго шыі.

Злачынца завыў ад болю, пакінуў Алеся і зноў рынуўся наўцёкі. Але хлопец не адставаў. Абодва яны выскачылі на вуліцу, і тут бандыт моцным размашыстым ударам выцяў Алеся па твары.

У хлапечых вачах бліснуў, нібы лопнуў, нейкі жоўты вогненны шар, ён адчуў, што страціў апору, але ўсё ж не выпускаў з рук злачынцу. Ад болю і пякучай крыўды вочы яго раптам запльылі слязьмі. А той другі раз і трэці ўдарыў па галаве, потым яшчэ і яшчэ. Алесь нарэшце выпусціў яго адзежыну і нема закрычаў. Падаючы ніцма, ён, аднак, замахнуў рукой, з апошняе сілы ухапіўся за нагу свайго ворага, і той зноў потырч пляснуўся аб зямлю. У гэты момант хлопец пачуў недалёкія галасы, тупат ног і... страціў прытомнасць.

Хутка навокал загаманілі людзі, нехта падняў Алеся з зямлі. Ен, яшчэ не расплюшчыўшы вачэй, пазнаў змораны Лапатаў голас і, зірнуўшы, заўважыў, што з неба свяціў акрайчык месяца, адна палова вуліцы стулілася ў ценю, а ля другой на відным месцы некалькі цьмяных постацей валтузіліся з бандытам.

Алесь паволі пераступіў з нагі на нагу і, кульгаючы, падаўся да людзей. Патрывожаная начным здарэннем, вуліца ажывала, аднекуль з'яўляліся людзі, у веснічках стаялі здзіўленыя, наспех апранутыя жыхары.

Нарэшце, калі міліцыянер і Лапата звязалі злачынцу рукі, афіцэр міліцыі бліснуў у твар затрыманага кішэнным ліхтарыкам і здзіўлена вымавіў:

— Эге! Ды гэта ж Фараон! Вось як ты трапіў да нас!

Алесь пачуў гэтае знаёмае імя і аж здрыгануўся ад страху. Але палохацца цяпер не было чаго: бандыта моцна трымалі. Наўкола ўзбуджана гаманілі людзі, і з іх гамонкі Алесь дазнаўся, што гэты рэцыдывіст пырнуў нажом нейкага чалавека, які, казалі, наўрад ці выжыве ад раны.

Бандыта павялі, а да Алеся падышоў усхваляваны, змораны Лапата.

— Ну, як ты? — цяжка дыхаючы, запытаў ён. — Не параніў ён цябе?

— Ды не, — адказаў Алесь. Хлопец адразу павесялеў ад чуласці таварыша, а боль і слабасць, здаецца, таксама паменшалі.

— А я аж спалохаўся, калі ты знік. Думаў, можа, забілі цябе.

Яны зноў пайшлі поплеч за натоўпам, які цягнуўся за міліцыянерамі. На заходняй палове неба з усёй моцы свяціў спознены маладзічок і ззялі зоры, а на ўсходняй, ужо разганяючы мігатлівую цемру, плыло іншае святло — там нараджаўся ранак.

У Алеся балела ў баку, балела левая нага, і слабасць знясільвала цела. Піліп цяпер не адыходзіў ад яго і, убачыўшы, што хлопцу цяжка ісці, сказаў:

— А ты абапірайся на мяне.

Алесь паклаў на яго плячо сваю руку і глянуў у твар. У прыцемках ён не ўбачыў Піліпавага позірку, але, бадай, і не трэба было бачыць нічога. Узаемнае добрае імкненне адзін да аднаго яны зразумелі без слоў.

— Што, вельмі баліць нага? — пытаў Піліп. — Давай я цябе паднясу, калі хочаш. Бярыся!

Алесь аж засаромеўся ад гэтай шчырасці і сказаў, што дойдзе сам: нага баліць, толькі не вельмі.

Яны яшчэ памаўчалі, кожны паасобку думаючы аб сваім, і тады ўпершыню ў іх нарадзілася нешта блізкае і цёплае ў адносінах адзін да другога. Потым Піліп сказаў:

— Аднак ты смелы, брат. Ціхі, маўклівы, а нішто...

— І ты таксама... справядлівы.

— А ты не ведаў? — пажартаваў Піліп. — Дык вось мы і спазналіся.

Алесь удзячна зірнуў на яго, іх позіркі сустрэліся, і абодва яны шчасліва засмяяліся.

1956

## На возеры

У Мішкі Бурбона вясёлы настрой.

Гонячы перад сабою кароткі цень, Мішка зухавата завярнуў з перавулка, разагнаў у вішанніку курэй і апынуўся на двары. Там хлопец ураз затармазіў, саскочыў з сядзення і нядбайна штурхнуў да ганка свой блішчасты веласіпед.

— Маці, пастаў машыну! — гукнуў ён у хату тонам пестуна. — Я на возера.

Важна варушачы тугімі, рудымі ад загару плячыма, камлюкаваты і дужы, у аблезлай сіняй майцы, Мішка падаўся за ваколіцу. Ля апошняй хаты з новым, ненакрытым яшчэ трысцёнам ён збочыў на сцяжынку і пабрыў на недалёкі, у хмызняку, пагорак. З паўдзённага ліпеньскага неба пякло сонца, верашчалі жаўрукі над бульбянымі палямі, нагрэтая зямля апякала босыя хлопцавы ногі. Ззаду на дарозе загрукацела фурманка, нехта адтуль клікнуў Мішку. Хлопец з выразам незалежнасці на твары азірнуўся і стаў. Фурманка таксама спынілася — там сядзеў брыгадзір Сафрон і калгаснік з другой брыгады.

— Міхась! — закрычаў брыгадзір. — Ці ты скасіў, як я казаў?

У светлых хлапечых вачах, поўных упэўненасці і лянівае сілы, мільганула свавольная весялосць.

— І не думаў.

— Ну, ты не жартуй, дурань гэткі, а то я ўраз старшыні далажу. Што гэта за хамства — не выконваць нарады! — абураючыся, крычаў брыгадзір. — Дык кажы праўду, касіў ці не?

— Не верыш — правер, — свавольна ўхмыльнуўся Мішка.

Брыгадзір зноў пачаў лаяць хлопца, — тады Мішка, відаць, задаволіўшыся ягонай злосцю, крыкнуў:

— Скасіў. І на поплаве, і яшчэ ў кустах сотак з дваццаць.

— Ну глядзі, а то я пажартую, — ужо без злосці пагразіў Сафрон, і фурманка зноў загрукацела па ўсохлай дарозе.

Весела аглядаючы наваколле, хлопец пайшоў сваім шляхам.

З пагорка з—за хмызняку яму адкрылася возера. Шырокае, прывольнае і блішчастае ад сонечнага ззяння, яно спакойна ляжала між чаротавых берагоў, дыхала прахаладай і ў паўдзённы час вабіла да сябе тутэйшы вясковы люд. Гаспадыні ў ім паласкалі бялізну, хлапчукі вучыліся плаваць і вудзілі рыбу, мужчыны таксама завітвалі часам, каб памыць скарэлыя на працы ногі ды пасядзець на прыволлі.

Мішка памалу шкандыбаў сцяжынкай праз нешырокі лужок і, паводзячы прыгожымі брывамі, цікаваў каго са сваіх шматлікіх хаўруснікаў. Але на беразе не відаць было ніводнага дзецэка пэўна, яшчэ бавіліся на працы — і хлопец не ведаў, куды падацца.

Купацца ён не вельмі спяшаўся, а болей аднаму рабіць тут не было чаго, хіба толькі пераплыць на той бок да леспрамгасаўскіх дзяўчат, якія ў лесе збіралі жывіцу.

Аглядаючы берагі, хлопец думаў, на што скіраваць увагу, калі ўбачыў ля сцежкі шэрую касмылявую постаць дзядзькі Алёксы, старога з суседняй вёскі Зароўе. Гэты Алёкса некалі меў вялікую сям'ю, але жонка нядаўна памерла, тры сыны загінулі ў вайну, а малодшы, Восіп, скончыўшы доўгую навуку, жыў недзе ў горадзе. Алёкса ў калгасе вядомы быў сваёй бяскрыўднасцю, ціхманасцю і непрыкметнасцю. Не адно пакаленне вясковых падшывальцаў вытварала над ім смешныя, часам крыўдныя забавы, але дзядзька не крыўдаваў, толькі зрэдку гразіў свавольнікам, чаго тыя не дужа баяліся. Нядаўна яны прадзіравілі дзядзькаў човен, і стары, не ўмеючы плаваць, ледзь не ўтапіўся ў возеры. Пасля той човен зусім знік недзе, і да рыбацкіх паслуг старога засталася на возеры старэнькая, немаведама чыя дубіца. Учора яна спатрэбілася Мішку — хлопец сагнаў яе ў затоку і схаваў у трысці.

— Здароў, стары, — грубавата павітаўся Мішка, падыходзячы да Алёксы. — Што сядзіш?

Стары выняў з бяззубага рота абслюнены недакурак і слязлівымі вочкамі, схаванымі ў сівым касмыллі, зірнуў на хлопца.

— Ці ведаеш — хай на яго халера — дубіцы няма. Трэ' паглядзець мярэжы, а дубіцу нейкі дуронік сагнаў ці мо' ўтапіў дзе.

Хлопец пагардліва агледзеў шчуплую дзядзькаву постаць у залапленай гімнасцёрцы, зрэбных портках, завязаных ля костачак, і ў яго гарэзных вачах з'явіўся заўзяты агеньчык.

— Хочаш, знайду дубіцу, толькі ўдвох сядзем.

— Ну, добра каб знайсці. А то ўжо два дні мярэжы не кратаны.

Становячыся на калені і памагаючы сабе рукамі, дзядзька ўзняўся, адкашляўся, даверліва пазіраючы на хлопца, які, нешта ўздумаўшы, сачыў за ім.

Крывой узбярэжнай сцяжынкаю, утаптанай мноствам каровіных ног, яны падаліся ў азёрныя зараснікі. Сцяжынка хутка схавалася ў алешніку, абапал яе тоўпіліся зараслі пякельнай крапівы, дзядзька неўзабаве адстаў і паціху тупаў ззаду. Каб не згубіць чалавека, Мішка ўсё пакрыкваў у гушчар «Давай, давай» і ўхмыляўся ад зухаватай сваёй задумы. «Выедзем на сярэдзіну, і ўжо ж я выкупаю яго...».

Пазіраючы на бераг з цяністага алешніку, ён, нарэшце, знайшоў сваю схованку і, падкасаўшы штаны, улез у ваду. Водмелі тут, бадай, не было — адразу з берага дно крута ішло ўглыб, і адтуль, з глыбіні, лезла да сонца трасніковая гушчырня. Вада ў возеры, аднак, была цёплая, пахла аерным карэннем, над трысцём

бліскалі на сонцы мітуслівыя стрэлкі. Мішка падцягнуў да берага гэтае выдаўбленае з елкі судна, узяў прыхаваны ля яго доўгі ашостак і, гойдаючы ў зарасніку ціхую вадзяную паверхню, улез у дубіцу.

— Дзядзька, гэй!

— Бягу, бягу, — пачулася з хмызняку, і неўзабаве з кустоў вылез Алёкса. Асцярожна мацаючы нагой дубіцу, стары папрасіў хлопца:

— Ты ж паціху каб, а то — хай на яе халера — я і так палоханы.

Мішка ўсміхнуўся і, стоячы на сваім канцы, хвацка адштурхнуўся ашосткам. Расхінаючы шархоткі чарот, дубіца вылезла на прастор.

— Вунь туды кіруй, да сухое елкі, — паказаў дзядзька на той бок. Ён сядзеў на носе і аберуч трымаўся за мокрыя счарнелыя барты. Мішка спрытна перабіраў шастком, пад дошкамі-крыллямі плёскалася вада, ззаду цягнуўся шырокі наморшчаны след. Тут было мелка, ля берага раслі гарлачыкі, дубіца раскалыхвала іх пляскатае слізкае лісце. Дно скрозь было багністае, з яго сям—там бісернымі ланцужкамі струменілі ўгору паветраныя пухіркі, Мішкаў шост ледзь знаходзіў апору. Урэшце бераг аддаліўся — яны апынуліся на шырокім вадзяным разлозе. З лужка даляталі галасы купальшчыкаў, нехта ў тым канцы крычаў цераз возера:

— Во-о-о-о-олька! Пісьмо табе прышло-о-о-о-о!

— Ну, як Восіп твой? — запытаў Мішка старога. — Што піша?

Гэта было знарок правакацыйнае пытанне. Адна з Мішкавых каханак — Алена, насіла пошту, і таму хлопец ведаў, што гэты Восіп ужо гады са два як не слаў бацьку пісем. Праўда, Алёкса аб тым не казаў нікому, не скардзіўся, але ўсе ведалі, што вучоны Алёксаў сын цураецца старога бацькі.

— Ды так, — неахвотна адказаў Алёкса, гледзячы ў ваду. — Піша, нішто жыве.

— Хлусіш ты, дзядзька, ні д’ябла ён не піша табе: адцураўся.

Стары нібы ўздрыгнуў, зірнуў на хлопца нейкім нядобрым, спалоханым позіркам і зноў патупіў галаў.

— Як гэта адцураўся? — сказаў ён, відаць, уражаны гэтым словам. — Хіба можна бацькі адцурацца?

Перакідваючы шост на другі бок, Мішка заўважыў, што пад вачыма старога, у сівых яго касмылях, быццам блiснула штосьці. Хлопцу на момант стала шкада чалавека, але такая слабасць душы была чужая яго характару, і Бурбон хутка пазбыўся яе.

— Ён у мяне добры, — казаў тым часам стары. — Бывала, маленькі быў, такі белагаловенькі, усё есці насіў на ніву. Прыйдзе, сядзіць на ўзмежку ці ходзіць за канём і ўсё пытае: што гэта, чаму

тое? А ўвечары я яго на плячах дамоў нясу, да ваколіцы дайду, зірк — а ён ужо спіць.

— Гэх ты, — іранічна чмыхнуў Мішка. — А цяпер?

— Ён і цяпер добры... Надоечы, значыць, пасылку прыслаў: папярос гарадскіх, цукерак, піша, частуйцеся, татка, табе гасцінец. Яшчэ піша, можа, прыедзе на Спаса ды дошак выстараецца як: хату паправіць.

— Хм, — не ўтрымаўся Мішка. І зірнуў на чалавека. Тое, што казаў ён, была святая няпраўда, і хлопцу нават здалося, ці не п'яны, а мо' не выспаўся гэты дзядзька. Аднак Алёкса спакойна сядзеў на шчарбатым носе, задумліва пазіраў цераз возера на той бераг, і на твары яго ляжала такая непрытворная вера ў сказанае, што хлопец ажно здзівіўся. Ён прыкінуўся прастаком і знарок запытаў старога:

— Мо' ён табе і грошы прыслаў?

— Ага, і грошы прыслаў... Яно не многа, але ўсё падмога мне, бабылю. Ён добры, дарма што людзі кажуць.

— Выходзіць, выдумляюць?

— Ну яно, канешне, людзям цяміцца і тое і гэта. Дарма толькі.

Мішка зноў хацеў сказаць, што стары хлусіць, але нешта ўтрымала яго ад тых грубых слоў — вельмі ўжо непрыемна было разбураць гэтую фантазію чалавека. А той, відаць, упэўніўшыся ў даверлівасці хлопца, прадаўжаў сваё:

— Восіп у мяне добры, вучоны. Няма чаго бога гнявіць. Бацьку ён не забудзе.

— Глядзі ты, — прытварыўся хлопец. — А я думаў — паганец ён.

— Што ты? — здзівіўся стары. — Не.

«Вось дык справа, — думаў тым часам Мішка. — Трудна жыве сам, а не хоча ганьбіць таго свалату. Другі б на яго месцы ў суд падаў».

Хлопца здзівіла, што стары не паскардзіўся, не ўсчаў выкладваць свае крыўды, як гэта любяць занядбаныя, слабыя людзі. Такіх людзей Мішка недалюбліваў і да іх ліку адносіў і дзядзьку Алёксу. Але цяпер выходзіла, што стары быў неяк па-свойму велікадушны, а гэта ўжо сапраўды падабалася Бурбону, які паважаў усё шырокае, размашыстае ў жыцці. У той жа час Мішка шчыра ненавідзеў Восіпа і, праўду кажучы, трохі не разумеў Алёксу, які, здавалася хлопцу, дарэмна аберагаў сына. Нейкія ўжо дужа невыразныя былі іх адносіны, але затое было відавочна, што стары насіў у сабе немалое гора.

Яны пад'ехалі да другога берага, тут таксама было мелка і багніста, зялёнай шырокай паласой цягнуўся аер і трыснік, за імі,

на пагорку, растапырыўшы кашлатае суччa, стаялі высачэзныя елкі. Іх верхавіны расплываліся ў вадзе, зыбаліся, пераліваліся бляскам і ценямі.

Алёкса здалёк прыкмеціў над вадой верх мярэжы, і дубіца наблізілася да яе. Пакуль стары выцягваў з вады мокрую, аблепленую тванню снасць і лавіў у гарлавіне слізкіх карасёў, Мішка ўсё шкадаваў, што заместа старога не сядзіць тут яго «добры» Восіп. Захоплены новымі думкамі, хлопец ужо забыўся на сваю дураслівую задуму, маўчаў, не пярэчыў дзядзьку, а той, узбадзёраны давер'ем, выдаваў за быль свае набалелыя мары пра сына.

— Хто ж цяпер мяне і дагледзіць, калі не ён? Жывыя былі б старэйшыя — і надзеі было б болей, а так на яго ўвесь спадзяванак. Ці ж ён не цяміць гэтага?

Другую мярэжу стары доўга не мог выцягнуць з вады, яе засмактала ў багну, і Мішка, устаўшы з кармы, грубавата адпіхнуў гаспадара.

— Дай я.

Ён спрытна ўправіўся, вытрас непатрэбнае, кінуў у дубіцу трапяткую плотку і перабраўся на сваё месца ў карме.

— Ну, дзякуй табе, хлопча, помог ты мне сёння, — казаў дзядзька Алёкса. Пакрысе ён ужо перажыў свой смутак і, узбадзёраны зважлівасцю хлопца, неяк аж пасвятлеў з твару. У яго слязлівых вачах, здаецца, свяцілася ўдзячнасць Мішку за тое, што паверыў у яго словы пра сына.

Мокрымі пальцамі з блішчынкамі прыліплай лускі дзядзька скруціў нязграбную цыгарку, прыкурыў у прыгаршчах — у гарачым паветры паплыў над вадою шызы пахучы дымок. Дубіца лёгка гойдалася на ціхай азёрнай плыні, стары задуменна пазіраў у ваду, а Мішка пільна глядзеў на яго.

— Ведаеш што, — нейкім асаблівым голасам раптам сказаў хлопец. — Гэта ж мы тады з Юзікам твой човен прадзіравалі.

Дзядзька коратка зірнуў на яго, але, замест здзіўлення, яго выцвілыя вочы бліснулі ўсмешкай.

— Я ж ведаю, браце, мне казалі. — Ён памаўчаў крыху і ўжо сур'ёзна дадаў: — Ну ды гэта глупства: вядома, падшывальцы.

— І ўздумалі ж — біць не было каму, — казаў Мішка. Ён ужо шчыра абураўся тым учынкам, а пра свой нядаўні намер хлопец аднак змоўчаў: было сорамна самога сябе.

Назад ехалі напрасткі, цераз усё возера да лужка, дзе разам з поўднем скончыўся людскі гоман, і пясчаны бераг быў пусты і ціхі. На сцяжынцы, там, ля алешніку, паказалася нейкая адзінокая постаць, і над возерам разнёсся знаёмы зычны брыгадзіраў голас:

— Мі-і-і-ха-а-ась, на стагаванне пойдзеш! Вілкі не забудзься-я-я!

Брыгадзір яшчэ пастаяў там, на пагорку, відаць, чакаў заўсягдашніх Мішкавых адгаворак, але хлопец, пасур’ёз—неўшы неяк, змоўчаў у знак згоды. Упершыню, здаецца, за сваю гарэзную маладосць натрапіў Міхась на невясёлую загадку чалавечых адносін і маўчаў, не ведаючы, як вытлумачыць яе. А дзядзька Алёкса курыў і прыязна пазіраў на памагатага, які ўсё хмурыў свае прыгожыя бровы і, шастком узнімаючы з дна пухіры, шпарка гнаў дубіцу.

На водмелі дзядзька вылез, намачыўшы штаны і трымаючы ў прыполе небагаты азёрны набытак. З берага ён сказаў хлопцу:

— Ну, дзякуй табе. Усё казалі нягодны ты, а гляджу — быццам нішто дзяцюк.

Мішка ніякавата паморшчыўся ад непрывычнай пахвалы.

— Дубіцу я на тое ж месца пастаўлю, — сказаў ён. — Трэба будзе — возьмеце.

Ён падхапіў шасток і, шырока расставіўшы ногі, упёрся ў бераг. Алёкса выціраў рукавом узмакрэлы лоб.

— Ведаеце, дзядзька, — раптам сказаў Мішка. — Усё ж калі траплю ў горад, знайду вашага Восіпа і наб’ю яму морду. Хам ён, вось хто. Кажуць на мяне, што я хам, але вось ён сапраўды хам.

Алёкса znячэўку ўздрыгнуў. Ён ураз зразумеў і няўдачу сваёй хітрасці, і нечаканую Мішкаву спагаду — старэчыя вочы яго хуценька заміргалі. Трэба было ісці дамоў, але ён чамусьці стаяў на беразе і ўсё моўчкі глядзеў на спрытнага дужага хлопца ў дубіцы.

А Мішка заклапочана зірнуў на паніжэлае сонца і, размахваючы даўжэзным шастком, пагнаў дубіцу ў трысніковую затоку.

1957

# Змест



### У ліхую часіну



### Сляды на зямлі